Укладальнік — Сяргей Ёрш

Прадмова, каментары і бібліяграфія Сяргея Ярша

Жальба Н. (Бяленка А.)
Слёзы на зямлі: Творчая спадчына заходнебеларускага паэта і патрыёта / Нікіфар Жальба (Аляксандр Бяленка); уклад. С. Ёрш; прадм., камент. і бібліягр. С. Ярша. — БМ, 2023 [электроннае выданне]. — 114 с.

Упершыню выдаецца літаратурная спадчына заходнебеларускага паэта, удзельніка нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Нікіфара Жальбы (Аляксандра Канстанцінавіча Бяленкі, 1898 — 1991).



Аляксандр Бяленка. Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея

## Летапісец Дзятлаўшчыны

*Збяру сілы свае*
*І дам сьвету я знаць,*
*Што краіне сваей*
*Буду вечна спрыяць.*
Н. Жальба

Дзятлаўская зямля багатая на творчых людзей, якія пакінулі заўважны след у беларускай літаратуры, мастацтве, навуцы. Пра адных з іх мы памятаем, а іншыя незаслужана забытыя. Яшчэ народны паэт Беларусі Максім Танк заклікаў літаратуразнаўцаў больш пісаць пра заходнебеларускіх паэтаў, якіх несправядліва забылі[1]. За дзесяцігоддзі існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь нямала імёнаў было вернута з нябыту, але працы для даследчыкаў не паменела. Часам высвятляецца, што побач жыў чалавек, да літаратурнай творчасці якога землякі ставіліся збольшага скептычна, нічога не ведаючы пра яго колішнія "зорныя часы". А калі спахапіліся, яго ўжо не стала... Нешта падобнае адбылося і з Аляксандрам Бяленкам (1898 — 1991), які пакінуў заўважны след у заходнебеларускай перыёдыцы — друкаваў там свае вершы, карэспандэнцыі. Некалькі разоў ён рыхтаваў да друку свой зборнік, але так і не змог выдаць яго пры жыцці.

На асобу Аляксандра Бяленкі звярнуў увагу, сустрэўшы некалькі згадак пра яго ў артыкулах паэта з Казлоўшчыны Сяргея Хмары (Сяргея Сіняка, 1905 — 1992). Яны былі добра знаёмыя. Восенню 1938 года Хмара пісаў пра паэта Бяленку: "*У Навагрэдзкім павеце, у адной із вёсак радзіўся пясьняр... Душу паэта залівае жаль, ён апявае сялянскую бяду, жудасныя галодныя будні. Жальба — сялянская, шэрая, цяжкая жальба. Быў часова і за кратамі... Зборніка ня мае, бо няма выдаўца. Нягледзячы на жахлівыя абставіны жыцьця, у творах зьвініць бадзёрасьць*"[2].

Аляксандр Канстанцінавіч Бяленка нарадзіўся 14 кастрычніка (па новым стылі) 1898 года ў вёсцы Гірычы Пацаўскай воласці на Дзятлаўшчыне (у той час гэта быў Слонімскі павет) у беднай сялянскай сям'і. У

Канстанціна Бяленкі не было зямлі, таму працаваў ён парабкам. Парабкам у 11 гадоў стаў і яго сын Аляксандр.

Вядомы беларускі літаратуразнаўца Уладзімір Калеснік у адной са сваіх прац прыводзіць урывак з аўтабіяграфіі Бяленкі ад верасня 1967 года: *"Я мусіў знаць і ўмець усякую работу ад той, што належалася пастуху, — да той, што была пад сілу гаспадару і гаспадыні. Найгорш было тое, што мне тут ніколі не давалі адпачыць, акрамя нядзелі. Аднак усё ж знайшліся сябры маёй нядолі, якія часам нядзелькай наведвалі мяне з кніжкай ці газетай. Разам чыталі, дзяліліся думкай-надзеяй, і я мацнеў душою. Лягчэй было пераносіць батрацкую долю"*[3].

Верагодна, нялёгкае жыццё ў юнацкія гады і адбілася на будучым выбары Аляксандрам Бяленкам творчага псеўданіма: Нікіфар Жальба[4]. Ён успамінаў, што быў парабкам у селяніна Нікіфара Сідаровіча, у якога *"праліў і слёз, і поту ўдосталь"*[5]. Так працягвалася да пачатку Першай сусветнай вайны. Восенню 1915-га на Дзятлаўшчыну прыйшлі нямецкія акупанты, якія затрымаліся на тры гады, рабавалі наш край, жорстка знішчалі любыя спробы супраціўлення. Бяленка ў гэты час жыў у Гірычах са сваёй сям'ёй. Паводле яго ўспамінаў, меў ён скончаную царкоўна-прыходскую школу. Безумоўна, хацеў вучыцца далей, але на гэта не было сродкаў. Шмат працаваў. З аднавяскоўцамі ён вазіў лес на лесапілку ў Жукоўшчыну[6]. Пазней Аляксандр Бяленка прыгадваў, што ў Гірычах беларускае нацыянальнае адраджэнне пачалося з 1916 года, калі мясцовыя сяляне пачалі чытаць беларускую газету, якая выдавалася ў Вільні[7]. Маецца на ўвазе "Гоман" Вацлава Ластоўскага.

У пачатку 1919 года, пасля сыходу нямецкіх войск, на Дзятлаўшчыне ўстанавілася савецкая ўлада. Асабліва прыхільна яе ўспрынялі бедныя, беззямельныя сяляне, такія, як Аляксандр Бяленка. З'явілася, як ім падавалася, нейкая перспектыва на лепшае жыццё. Да таго ж ажывілася беларуская культурніцкая дзейнасць. Арганізатарамі яе былі маладыя людзі, якія вярнуліся ў родныя месцы з бежанства ў Расіі. Бяленка прыгадвае Аляксандра і Сцяпана Каско, Канстанціна Сцяпуру. У Гірычах арганізаваўся драматычны гурток, для вяскоўцаў ставіліся

беларускія спектаклі па п’есах “Калісь”, “Збянтэжаны Саўка”[8].

*“Ды не доўга цешыліся новым жыццём... Святло, якое свяціла і саґравала, было патушана”*, — піша Бяленка ў “Аўтабіяграфічным успаміне”. У пачатку вясны 1919 года Дзятлаўшчыну акупавалі польскія войскі. Пачаліся арышты актывістаў. Трапілі за краты і былі закатаваныя А. і С. Каско. Беларуская дзейнасць часова замерла, каб праз нейкі час выбухнуць з новай сілай.

У адпаведнасці з Рыжскім мірам 1921 года Заходняя Беларусь апынулася ў складзе польскай дзяржавы. Цэнтрам тагачаснага беларускага руху была Вільня. Адтуль у Гірычы аднойчы прывёз мех беларускіх кніг, часопісаў і газет Канстанцін Сцяпура. Менавіта ён стаў найбліжэйшым сябрам і настаўнікам для Аляксандра Бяленкі, заахвочваў яго да грамадска-палітычнай дзейнасці і да творчасці. Сцяпура паспрыяў публікацыі першага верша Бяленкі. Сам Аляксандр Бяленка і з яго слоў Уладзімір Калеснік памылкова пісалі, што першы верш быў надрукаваны ў віленскім часопісе “Маладое жыццё” у 1922 годзе. Насамрэч — у 1923 годзе[9]. Ён, дарэчы, не быў падпісаны. Дасылаў у рэдакцыю яго не сам паэт, а яго сябар К. Сцяпура. Магчыма, праз гэта і ўзнікла непаразуменне: рэдакцыя не ведала, як падпісаць верш. Нельга выключыць таксама, што проста адбылася памылка — забыліся.

Аляксандр Бяленка па сваёй натуры не быў лідарам[10]. Ён быў нацыянальна сведамым, сумленным, надзейным, добрым працаўніком у камандзе аднадумцаў, але не мог сябе ўявіць кіраўніком мясцовага беларускага руху. Пасля ўцёкаў Канстанціна Сцяпуры ў савецкую Беларусь, у Гірычах не было яркага лідара[11], але там налічвалася каля дзясятка беларускіх актывістаў. Яны збіралі грошы, выпісвалі беларускія газеты, кнігі, перадавалі іх і ў суседнія вёскі. У лістападзе 1922 года А. Бяленка падчас выбараў у польскі Сейм *“самаручна падрыхтаваў выбарчыя бланкі для галасавання за сваіх выбраннікаў-кандыдатаў працоўнага люду”*. У той час сярод сялян пашыраўся яго агітацыйны верш “Цяпер вы сталі нам “братамі”, які з-за цэнзуры нельга было надрукаваць у газетах[12].




Заходнебеларускія выданні, у якіх друкаваўся Аляксандр Бяленка ў міжваенны час

У 1923-м Бяленка пачынае дасылаць у Вільню свае карэспандэнцыі, яны з’яўляліся на старонках газет “Вольны сцяг” і “Змаганне”, у 1924 годзе друкаваліся ў “Голасе Беларуса” і “Крыніцы”. Спачатку ён падпісваў іх “Н. Жальба” ці “Нікіфар Жальба” (вершы гэтым псеўданімам будуць падпісвацца з 1925 года). Пісаў Бяленка пра цяжкае жыццё сялян, пра высокія падаткі і цэны, пра перашкоды, якія чынілі польскія чыноўнікі распаўсюду беларускай прэсы. А яшчэ ён у 1924-1926 гг. запісваў беларускія народныя песні і дасылаў іх у Вільню[13].

У гэты час Аляксандр Бяленка працаваў сезонным работнікам у мясцовага земляўладальніка Яна Стравінскага. Яго маёнтак Міроўшчына нярэдка будзе згадвацца ў допісах. Восенню 1924 года Бяленку затрымала польская паліцыя, у яго хаце зрабілі ператрус, але нічога крамольнага не знайшлі. У пастарунку паставілі на ўлік і адпусцілі. Магчыма, што паліцыя звярнула ўвагу на Бяленку з-за яго перапіскі з віленскімі беларускімі выданнямі[14]. І ён, відаць, у далейшым намагаўся перапісвацца “канспірацыйна”, каб не ствараць сабе новых праблем.



Міроўшчына, маёнтак Стравінскіх.
Здымак Яна Булгака

У 1925 годзе Аляксандр Бяленка пачаў друкаваць свае вершы ў газеце "Крыніца" (неўзабаве перайменаванай на "Беларускую крыніцу")[15]. Пісаў пра нялёгкае жыццё сялян, пра ўзаемаадносіны іх з мясцовымі чыноўнікамі, пра хараство прыроды. Гэта быў час незвычайнага ўздыму беларускіх сялян — яны пачалі масава запісвацца ў палітычную партыю — Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду. Бяленка стаў сакратаром мясцовага гуртка Грамады, а пасля і суполкі Таварыства беларускай школы. Людзі цікавіліся беларускім рухам, з ім звязвалі свае надзеі на лепшую будучыню. *"Ва ўсіх добры настрой, быццам выраслі крылы і можна лятаць. Ды нядоўга цешыліся"*, — піша А. Бяленка ў "Аўтабіяграфічным успаміне". У пачатку 1927 года польскія ўлады забаранілі Грамаду, арыштавалі яе кіраўніцтва. У Бяленкі прайшоў чарговыператрус, паліцэйскія забралі некаторыя дакументы, кнігі, газеты.

7.

3 ~~41~~

Каму весна.

Таму весна хто сэрца холад
Любоўю цеплаю саграў,
Хоць целам стар душою малад
Аб днях, хто ясных лятуцеў!

Хто сілы усе свае ў ахвяру
Народу беднаму прынёс
І меўшы многа ў сэрцы жару
Загіну ў яго крыніцай сьлёз

Хто славу роднага народу
У сьветлых фарбах маляваў
За родны край яго свабоду
Жыцьця свайго ні шкадаваў!

Хто век змагаўся с цемнатою
Сабе заплаты ні чакаў
І сьмелаю свайей рукою
Насеньня праўды засеваў!

Верш А. Бяленкі, дасланы ў рэдакцыю “Студэнцкай думкі”.
Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.
Друкуецца ўпершыню

208.                                6.

Прабаваў нават прабрацца у Радавые Рэспублікі ня ўдалося, другі раз ні мадзе зарабіць злотых на другую вандроўку. Прыходзіцца днямі галадаць бязнадзеі на лепшае. Пішучы гэтые радкі пад вечар 29га чэрвеня нічога ня у еўшы.

Дзеля гэтага прашу іхкай Рэдакцые судзіць, як хоча навікаў ёсць для газэты німа грошай на перасылку. Хачу сколькі маю сіл памагаць братом-беларусам у іхным культурным адраджэньні, але гэтые сілы с прычыны гора сталі мяне пакідаць

З Пашанаю А. Віеlenko

Н. Жальба

чакаю адказ

Ліст А. Бяленкі, дасланы ў рэдакцыю “Студэнцкай думкі”.
Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.
Друкуецца ўпершыню

Аўтар гэтых радкоў адшукаў у архіве ліст Бяленкі, які ён даслаў у рэдакцыю віленскага беларускага часопіса “Студэнцкая думка”. Дакладнай даты ў ім няма, а матэрыялы архіўнай справы датуюцца 1920-мі гадамі.

Па-першае, Аляксандр Бяленка апісаў жыццёвую сітуацыю кагосьці з землякоў і папрасіў даць юрыдычную параду праз газету “Іскра”. Яна выходзіла кароткі час у чэрвені 1925-га ў Вільні, а Бяленка пісаў ліст 22 чэрвеня. Значыць 1925 год? Наўрад ці. Найхутчэй — 1927-ы. І далей патлумачым, чаму так.

Дзіўна, што А. Бяленка не ведаў пра закрыццё “Іскры” два гады таму. Магчыма, ён проста пераблытаў назву выдання, а ў той час беларускія газеты ў Вільні хутка паміралі і зноў нараджаліся ў новым абліччы. Чаму ж не напісаў непасрэдна ў газету? Магчыма, лічылася, што праз “Студэнцкую думку” больш надзейна. Бо ён згадвае, што раней праз яе перадаваў у нейкую беларускую газету “зборнік вершаў” і не атрымаў адказу: *“Ці атрымала “Студэнцка[я] Думка” і ці друкавала мае вершы, ці яны годны ці не да друку? Як яны выглядаюць з літэратурнага боку? Ці пісаць больш?”*[16].

У 1925 годзе было надрукавана толькі некалькі вершаў Нікіфара Жальбы і пра зборнік ён яшчэ не думаў. А вось згадкі пра яго зборнік, перасланы ў Вільню ў 1927-м ёсць, але пра іх пазней. Да таго ж у лісце згадваецца няўдалая спроба ўцёкаў у СССР, якая адбылася якраз у 1927 годзе.

А далей Бяленка піша такія трагічныя радкі: *“Настолькі гарую, што ні знаю, ці удасца мне перажыць гэтые хвіліны, аб якіх пісаў карэспандэнцыю. Прабаваў нават прабрацца у Радавые Рэспублікі — няудалося, другі раз німа дзе зарабіць злотых на другую вандроўку. Прыходзіцца днямі галадаць бяз надзеі на лепшае. Пішучы гэтые радкі пад вечар 22-га чэрвеня нічога ня еўшы… Хачу сколькі маю сіл, памагаць братом-беларусам у іхнум культурным адраджэньні, але гэтые сілы з прычыны гора сталі мяне пакідаць”*[17].

Ліст захаваўся ў архіве часопіса, а разам з ім і далучаны да яго верш “Каму вясна”. У ім ёсць і такія ўдалыя радкі:

*Хто сілы усе свае у ахвяру*
*Народу беднаму прынёс*
*І меўшы многа у сэрцы жару*
*Заліў яго крыніцай сьлёз.*

*Хто славу роднага народу*
*У сьветлых фарбах маляваў*
*За родны край, яго свабоду*
*Жыцьця свайго ні шкадаваў!* [18]

У такой адчайнай сітуацыі Аляксандр Бяленка апынуўся пасля вяртання з СССР, куды ён з сябрамі патрапіў нелегальна ў траўні 1927 года. Пасля разгрому Грамады нямала яе актывістаў не бачылі перспектыў для легальнай барацьбы за правы беларускага народа ды спрабавалі перайсці праз мяжу ў савецкую Беларусь. Яны верылі, што там змогуць вучыцца, працаваць. Аднак Бяленку і яго сяброў савецкія памежнікі вярнулі назад, у Польшчу. Іх назвалі "няпрошанымі бегляцамі" ды параілі пасля вяртання "яшчэ больш працаваць на хутчэйшае аб'яднанне Беларусі".

Можна ўявіць, якое расчараванне было ў Аляксандра Бяленкі: ні працы, ні сродкаў да існавання, ніякіх перспектыў. Нешта трэба было кардынальна мяняць у жыцці. І ён рашыўся на жаніцьбу. У ліпені 1927-га пайшоў "у прымы" ў вёску Труханавічы[19]. Працаваў на гаспадарцы, жыццё наладжвалася, ужо не даводзілася галадаць. Аднак часова адышоў ад грамадскіх спраў, амаль перастаў пісаць.

У 1926-1927 гг. Бяленка падрыхтаваў свой першы паэтычны зборнік пад назвай "На хвалях жыцця". Як мы ўжо ведаем, пераслаў яго праз "Студэнцкую думку"[20]. А атрымала рукапіс рэдакцыя "Беларускай крыніцы", якая пісала: *"Н. Жальбе: "На хвалях жыцьця" атрымалі: перадалі ў літэратурны аддзел; рэцэнзію перашлём Вам пісьмом"*[21]. Але яшчэ ў ліпені 1927-га яму абяцалі прысланць на яго рэцэнзію: *"Жальбе Н.: вершы цяпер прысланыя і "На хвалях жыцьця", як зробіць рэцэнзію Літ. Аддзел, вышлем вам яе пісьмом; пішыце корэспондэнцыі"*[22]. Ці

выканалі абяцанне, невядома. У чэрвені паэт нават не ведаў пра згаданую вестку “Беларускай крыніцы”. Магчыма, не бачыў і наступныя. Але дакладна, што зборнікам віленчукі не зацікавіліся, не дапамаглі выдаць[23]. Гэта толькі спрыяла таму, што ў Н. Жальбы на гады “замаўчала муза”. Многія вершы паэта з Гірычаў былі слабаватыя, патрабавалі дапрацоўкі. Ці разумеў ён гэта? Відаць, так, калі пытаўся ў рэдакцыі пра іх вартасць.

Яшчэ ў канцы 1927-га “Беларуская крыніца” атрымала чарговыя вершы ад Бяленкі і абяцала іх “разгледзець”[24]. Аднак нічога для друку тады не выбралі. Адзін верш быў апублікаваны толькі ў кастрычніку 1928-га, калі рэдактарам быў ужо Ян Пазьняк. Творы Нікіфара Жальбы заўважна прайгравалі іншым паэтам-аўтарам выдання — Франуку Грышкевічу, Уладзіславу Казлоўшчыку (Казлоўскаму), Аўгену Бартулю.

Ад 1930 года на старонках “Беларускай крыніцы” рэгулярна пачалі з’яўляцца карэспандэнцыі Аляксандра Бяленкі. Падпісваліся яны яго псеўданімам “Слёзнавокі”, якім ён карыстаўся з 1925 года[25]. Допісы А. Бяленкі ў заходнебеларускі віленскі друк — гэта летапіс жыцця яго мясцовасці. Каля 15 гадоў ён пісаў пра жыццё сваёй і суседніх вёсак, згадваў самыя значныя падзеі, учынкі людзей, заклікаў моладзь да актыўнасці, да зацікаўлення беларускай культурай.

У сярэдзіне 1930-х зноў пачалі пісацца вершы, яны з’яўляліся найперш у віленскім часопісе “Шлях моладзі”. Бяленка спрабуе эксперыментаваць, арыентуюцца на паэзію заходнебеларускіх творцаў Максіма Танка, Міхася Машары, Міхася Васілька, Уладзіслава Казлоўшчыка, Хведара Ільяшэвіча ды іншых. У 1934 годзе былі надрукаваныя яго вершы “Моладзь, да працы!”[26] і “Гэй, браточкі мае, дарагія!”[27], своеасаблівыя “праграмныя” творы. У іх паэт заклікае беларускую моладзь перастаць “стагнаць, чакаць”, паколькі гэта не дае плёну, а брацца за працу, змагацца “за свой людскі і лепшы быт”, “за праўду”.

*“Па цэнзурных меркаваннях... многія вершы Н. Жальбы надрукаваць было нельга, але яны бытавалі пад саламянымі стрэхамі, распаўсюджваліся вусна”,* — сведчыць раённая кніга “Памяць”[28]. Пра гэта ж піша і Уладзімір Калеснік. Ён цытуе

адзін з такіх вершаў:

*“Бізун той, што свістаў над намі,*
*Мы хочам з вашых рук адняць,*
*А вас, што мучылі вякамі,*
*К чартовай матары паслаць”*[29].

У Дзятлаўскім дзяржаўным гісторыка-краязнаўчым музеі захоўваецца рукапіс недатаванага верша “На прастор”, у якім ёсць такія радкі:

*“Кіньма песень жалобных акорды*
*І сьлязьмі [ў]весь свой жаль выліваць!*
*Будзьма сталы, бадзёры і цьвёрды*
*Сваё шчасьце сілком мусім браць!”.*

У гэты час на Дзятлаўшчыне дзейнічала падпольная Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Яе мясцовыя актывісты распаўсюджвалі камуністычныя лістоўкі, вывешвалі чырвоныя сцягі. У “Аўтабіяграфічным успаміне” Бяленка не піша, што быў сябрам КПЗБ, але пра гэта сведчыць Уладзімір Калеснік[30]. Згадвае і кніга “Памяць”: *“Бяленка Аляксандр Канстанцінавіч… Член КПЗБ. Разам з падпольшчыкамі вывешваў чырвоныя сцягі, распаўсюджваў адозвы, наладжваў сходы, змагаўся за развіццё беларускай нацыянальнай культуры, падтрымліваў цесную сувязь з падпольшчыкамі”*[31].

Неяк у пачатку 1930-х на Першамай сцягі з’явіліся на дарогах ад Міроўшчыны на Гірычы і Труханавічы, вывешвалі іх браты Бяленкі. У Аляксандра Бяленкі паліцыя “па старой памяці” правяла ператрус, але нічога крамольнага не знайшла. Былі арыштаваныя яго браты Язэп і Міхась. У лістападзе 1935-га трагічна загінуў брат Аляксандра Антон, якога забіў падчас страйку парабкаў упраўляючы маёнтка Міроўшчына. Аднойчы Аляксандру Бяленку давялося правесці ў турме ў Навагрудку тры месяцы[32]. Ён знаходзіўся ў “чорным спісе” асоб, якія былі “нелаяльныя” да польскай дзяржавы. Таму пасля кожнай палітычнай акцыі ў яго мясцовасці паліцыя наведвала паэта, ладзіла чарговы ператрус у яго хаце.

У другой палове 1930-х польскія ўлады ліквідавалі большасць нешматлікіх легальных беларускіх арганізацый.

Многія ранейшыя актывісты адышлі ад спраў, у тым ліку і тыя, што вярталіся з турмаў. *"Культурная беларуская праца ў нашай ваколіцы, нажаль, замёрла, не дзеля таго, што няма каму яе праводзіць, а дзеля таго, што настаў няспрыяючы час"*, — пісаў восенню 1938-га А. Бяленка. Але адначасова ён адзначаў, што "дух беларускі ў народзе не замірае і ўсе стойка трымаюцца свайго, верачы, што жыцьцё паправіцца"[33].

У гэты час ужо была закрытая "Беларуская крыніца". Бяленка друкаваўся выключна ў часопісе "Шлях моладзі" і асабліва актыўна ў 1939 годзе. Гэта былі і вершы, і карэспандэнцыі. Для паэта ў канцы 1930-х быў даволі плённы перыяд у творчасці. Ён падрыхтаваў яшчэ адзін свой зборнік. Рэдакцыя "Шляху моладзі" раіла яму ў жніўні 1939-га: *"Невялічкі зборнік з найлепшых сваіх вершаў просім улажыць і прысласць, а мы будзем старацца яго як-небудзь выдаць"*[34]. Пра гэта ў 1944 годзе пісаў і С. Хмара, які адзначаў, што кніга не была выдадзеная — перашкодзіў пачатак Другой сусветнай вайны[35]. Ужо на эміграцыі Хмара напісаў больш падрабязна. У 1939-м на тэрыторыі Слонімскага і Навагрудскага паветаў пачалі збірацца грошы на выданне зборнікаў паэзіі мясцовых сялянскіх паэтаў і за два месяцы ўдалося сабраць 120 злотых. Першым на выданне быў зборнік Сяргея Хмары, і ён паспеў выйсці да пачатку вайны. Кніга Нікіфара Жальбы мусіла стаць трэцяй[36].

Прыход Чырвонай Арміі ў верасні 1939-га Аляксандр Бяленка ўспрыняў з энтузіязмам. У яго родных месцах стварыўся калгас, у якім ён працаваў. У сваіх успамінах пра гэты перыяд ён піша выключна пра калгасныя справы і нічога пра сябе, пра перадваенныя арышты і дэпартацыі. Дзякуючы таму, што Бяленка не займаў ніякіх пасад у савецкай адміністрацыі, у калгасе, ён ацалеў на пачатку нямецкай акупацыі.

Летам 1941 года ў Гірычах нямецкімі карнікамі былі расстраляныя савецкія актывісты, былыя сябры КПЗБ. Бяленку ўратавала і тое, што жыў ён у іншай вёсцы, у Труханавічах. Ужо не першы раз ён губляў сяброў, таварышаў, і моцна перажываў гэтыя страты. Яму ж лёс наканаваў пражыць доўгае жыццё. У адным з пасляваенных вершаў Аляксандр Бяленка пісаў:

*За свой увесь век зрабіў я мала,*
*А мог бы многа йшчэ зрабіць*
*Каб не варожая навала*
*Сяброў не здолела згубіць.*
*Без іх я вобмацкам ужо крочыў,*
*К святлу шукаў пуцін-дарог*
*Слязіліся ад гора вочы*
*А ўтраты так вярнуць не мог.*
*...*
*Сяброў-настаўнікаў не стала,*
*Але са мною быў народ*[37].

Аляксандр Бяленка працаваў на сваёй гаспадарцы. Да беларускага руху яго паспрабаваў зноў далучыць Сяргей Хмара, які ў 1942 годзе даслаў ліст са Слоніма, але адказу нібыта не атрымаў[38]. Калі пачаў шырыцца партызанскі рух, Бяленка стаў дапамагаць мясцовым партызанам[39]. У сваім "Аўтабіяграфічным успаміне" ён пералічвае, што менавіта перадаваў хлопцам у лес: вопратку, хлеб, мяса, *"каня з коламі і вупражай"*, карову, кабана, 10 мяхоў мукі, новыя валёнкі з галошамі і поўны гадавік "Шляху Моладзі" *"на курава"*. Апошні ён вельмі шкадаваў. Адзначым, што Бяленка здолеў захаваць шмат заходнебеларускіх выданняў. Многія з іх пазней былі перададзеныя ў дзятлаўскі музей.

У пасляваенны час Бяленку мінулі сталінскія рэпрэсіі[40]. Але яго не пакідала трывога, бо даходзілі чуткі пра арышты некаторых былых заходнебеларускіх камуністаў, да іншых адчуваўся недавер з боку савецкіх уладаў. Зразумела, Аляксандр Бяленка ў той атмасферы страху "забыўся" пра Н. Жальбу, не згадваў пра многія свае публікацыі, паколькі з'яўляліся яны ў выданнях, якія савецкая прапаганда называла "клерыкальнымі", "нацыяналістычнымі", "паланафільскімі". Ён працягваў працаваць на сваёй гаспадарцы, а з 1950-га — ў калгасе, дзе быў паляводам, рахункаводам. Яшчэ адзін паэт з Дзятлаўшчыны Іван Івашэвіч (Пятрусь Граніт) у той час быў у "раёнцы" кіраўніком літаб'яднання і, за некалькі гадоў не пабачыўшы вершаў Н. Жальбы, палічыў, што яго ўжо "няма ў жывых"[41].

У “хрушчоўскую адлігу” Аляксандр Бяленка ўздыхнуў з палёгкай. Верагодна, ён нават вярнуўся да творчасці. Пісаў допісы пра калгаснае жыццё ў раённую газету “Перамога”. Цікавіўся беларускай літаратурай, шмат чытаў.

Уладзімір Калеснік пісаў у пачатку 1960-х: *“Мне давялося неяк пару год назад наведаць у таварыстве П. Граніта Н. Жальбу. Мы засталі яго за кнігай, чытаў “Сэрца на далоні” І. Шамякіна. Даведаўшыся, што я маю дачыненне да літаратуры, засыпаў пытаннямі, прытым пытанні ішлі не ад пустой цікаўнасці, а ад любві і ведання літаратуры. Стары, пасівелы чалавек прадаўжае адсвечваць святлом нашай мастацкай літаратуры. Хіба гэта не хораша?”*[42].

Бяленка спадзяваўся, што літаратуразнаўцы не забудуцца пра яго сціплы даробак. І сапраўды, Ул. Калеснік згадваў пра Н. Жальбу ў сваіх кнігах, пісаў пра яго творчасць даволі далікатна, з павагаю.

Дзесьці ў 1960-я А. Бяленка пачаў пісаць успаміны. Адзін з тэкстаў меў назву “Мае батрачыя гады”[43]. Верагодна, гэтыя ўспаміны не былі надрукаваныя. Дзе яны цяпер знаходзяцца і ці захаваліся, невядома. Восенню 1967 года Бяленка падрыхтаваў сваю аўтабіяграфію, якую даслаў у Брэст літаратуразнаўцу Калесніку. Яму было прыемна, што яго жыццём і колішняй творчасцю цікавяцца навукоўцы.

У лістападзе 1970-га ліст Аляксандру Бяленку прыслаў з Мінска Янка Саламевіч, які збіраў матэрыял для свайго будучага “Слоўніка беларускіх псеўданімаў”. Ён прасіў “раскрыць свае псеўданімы (калі іх было некалькі), указаўшы, дзе падпісаныя імі творы друкаваліся”, напісаць “кароценькую аўтабіяграфію”[44]. Нягледзячы на тое, што Саламевіч спасылаўся на І. Івашэвіча, ад якога атрымаў адрас, ліст яго мог напалохаць Бяленку. Хаця часы былі ўжо другія. Як бы там ні было, але ў кнізе Янкі Саламевіча прысутнічае інфармацыя пра Аляксандра Бяленку і пра некалькі яго псеўданімаў. Аднак аўтар не падае дату нараджэння паэта, а гэта ўскосна сведчыць пра тое, што Н. Жальба змаўчаў, не адказаў на ліст.[25]





Аляксандр Бяленка з Вольгай Іпатавай. Труханавічы, канец 1960-х гг. Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея

Яшчэ ў канцы 1960-х адбылася важная для Аляксандра Бяленкі падзея — Гродзенскае абласное тэлебачанне зняло і паказала сюжэт пра яго. Вось што ўспамінае тагачасная рэдактарка тэлебачання Вольга Іпатава:

*“Будучы адным з чатырох першых рэдактараў новастворанага Гродзенскага тэлебачання, я актыўна “выводзіла” ў эфір людзей, уладаю “забытых”. Гэта, з большымі ці меншымі адрозненнямі, былі былыя сябры Таварыства Беларускай Школы, у большасці падпольшчыкі, якія адседзелі ў польскіх турмах, свята верылі ў Савецкі Саюз, а пасля сталі на радзіме людзьмі “другога гатунку”, людзьмі, якія хаця і не былі ў сталінскіх лагерах, але былі ў няміласці ў начальнікаў, у большасці прышлых з Расіі. Такім быў Анатоль Іверс, Павел Крынчык — былы пасол Сейма ад беларусаў, такім быў і Аляксандр Бяленка.*

*Я таксама прачытала пра яго ў Уладзіміра Калесніка, знайшла яго, паехала з тэлевізійнай брыгадай і зрабіла з ім тэлевізійную перадачу. Памятаю, ён у канцы запісу праслязіўся і, узяўшы маю руку, у якой я трымала мікрафон, пацалаваў яе са словамі падзякі. Я разумела, што тэлеперадача, кожную з якіх уважліва тады глядзела гродзенскае начальства, як бы “рэабілітавала” яго ў вачах раённых уладаў і ўздымала ў вачах вяскоўцаў... Эмацыйная памяць мая захавала душэўны боль, які я адчула пры гэтым — людзі, якія так пакутавалі за Беларусь, так любілі яе, былі занядбаныя, цень нейкай падазронасці нібы ахутваў іх шчыльнай пеляною... Сам жа аповед яго я не рызыкую ўзнаўляць па памяці, а стужак для запісаў тады было мала, і літаральна назаўтра пасля тэлеперадачы на ёй жа запісвалі якія-небудзь сельскагаспадарчыя праблемы, надоі малака ці сельгасзагатоўкі... Дзякуй рэжысёру Сухоцкаму, які зрабіў здымкі з А. Бяленкам на памяць”*[46].

Можна ўявіць, што падчас дэманстрацыі перадачы па абласным тэлебачанні паэт сядзеў перад тэлевізарам і не мог стрымаць слёз... Бяленка ў той час ужо быў пенсіянерам, развітаўся з калгаснай працай. Аднавяскоўцы кажуць, што “ён верыў у Бога… хадзіў у царкву”. У кішэні “насіў блакноцік і аловак, калі надавалася вольная хвіліна — ён пісаў вершы”[47].

Маючы вольны час, Аляксандр Бяленка спрабаваў не толькі падрыхтаваць да друку свае старыя вершы, але і пісаў новыя. Дасылаў іх у розныя рэдакцыі, а сярод іх — у рэдакцыю газеты “Звязда”. Захавалася распіска, якую ў снежні 1979-га даў А. Бяленку супрацоўнік дзятлаўскаё раённай газеты “Перамога” М. Бабок, за пакінуты “для прагляду” сшытак з вершамі. Разам з ім Бяленка пакінуў і артыкул да 40-гадовага юбілею калгаса “Зара”[48].

Таксама Аляксандр Бяленка працягваў спробы надрукаваць свае ўспаміны. Невядома, ці гэта быў ранейшы рукапіс (“Мае батрачыя гады”), ці нейкі новы варыянт. У студзені 1977 года з мінскага выдавецтва “Мастацкая літаратура” Бяленку паведамілі, што яго “запіскі” перадалі ў рэдакцыю мемуарнай літаратуры выдавецтва “Беларусь”[49]. Магчыма, гэтыя ўспаміны захаваліся і яшчэ адшукаюцца.

У Дзяржаўны музей БССР у 1980 годзе Аляксандр Бяленка выслаў нейкія “кнігі беларускай класікі”, за што атрымаў адтуль рускамоўныя падзякі[50]. Магчыма, гэта былі кнігі, выдадзеныя ў Вільні ў міжваенны час.

Незадоўга да смерці, у 1990 годзе Бяленка піша аб’ёмны “Аўтабіяграфічны ўспамін”, друкуе ў газеце “Перамога” празаічны твор “Лявон і Лявоніха”[51], артыкул “У гады падполля”[52]. Гэта былі апошнія прыжыццёвыя публікацыі паэта. Яго не стала 14 жніўня 1991 года. Ён не дажыў зусім крыху да аднаўлення незалежнасці Беларусі.

Сваякі ўсталявалі беларускаму паэту помнік з рускамоўным надпісам. Як піша С. Чыгрын, у яго дачкі “не захавалася ні фотаздымкаў бацькі, ні вершаў”, і яна “неяк здзівілася”, што праз столькі гадоў яго ўспомнілі.[53]

*Дык хай цябе нішто ня страша,*
*Здабудзем шчасьце мы самы,*
*К жыцьцю краіна ўстане наша,*
*Настануць сьветлыя нам дні!*[54]

***

У гэтай кнізе мы змясцілі апублікаваныя творы Аляк-

сандра Бяленкі міжваеннага часу. Як трапна адзначаў Ул. Калеснік, вершы Н. Жальбы, *"сціплыя па мастацкіх якасцях... засталіся... вершаванымі дакументамі часу"*[55]. Гэта сапраўды так. Цяжкія ўмовы жыцця не дазволілі Аляксандру Бяленку здабыць адукацыю, развіваць свой талент. І ў гэтым трагедыя сялянскага паэта. Таму яго "сыраватыя", але шчырыя вершы мы мусім успрымаць у кантэксце таго часу.

Магчыма, кагосьці з дзятлаўскіх даследчыкаў зацікавіць асоба Аляксандра Бяленкі і яго творчы здабытак. І будзе яшчэ не адзін артыкул пра яго жыццё і дзейнасць. Справа ў тым, што намі практычна не былі даследаваныя пасляваенныя публікацыі (паэтычныя творы, карэспандэнцыі, успаміны), якія з'яўляліся найперш у раённым друку. Чакаюць даследчыка і рукапісы А. Бяленкі 1920-х гадоў, якія захоўваюцца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы[56]. Таксама варта вывучыць пасляваенныя рукапісы, якія захоўваюцца ў музеі ў Дзятлаве. Сярод іх ёсць "аўтабіяграфічная паэма" пад назвай "Панскі падарунак".

Хочацца спадзявацца, што і мясцовыя ўлады належным чынам ушануюць памяць паэта і змагара, які так моцна любіў Беларусь, родную зямлю, на працягу ўсяго жыцця сумленна працаваў дзеля свайго народа. 8 кастрычніка 2016 года ў Труханавічах на доме, дзе жыў Аляксандр Бяленка, "па ініцыятыве Валерыя Петрыкевіча і паэтаў Гродзеншчыны ў межах правядзення абласнога фестывалю паэзіі"[57], урачыста адкрылі памятную дошку. На ёй надпіс:

*"У гэтай хаце доўгі час*
*жыў заходнебеларускі паэт*
*Нікіфар Жальба*
*Бяленка А. К.*
*(1898 — 1991 г.г.)".*

Гэтая кніга была падрыхтаваная да друку ў 2015 годзе, але доўга чакала выхаду ў свет. Аўтар удзячны за дапамогу ў зборы матэрыялаў Н. А.

**Сяргей Ёрш**




Шыльда да доме А. Бяленкі ў в. Труханавічы Дзятлаўскага раёна. Усталявана ў 2016 годзе. Фота diatlovonews.by

[1]Мікуліч М. Паэт пад знакам Вечнасці // Голас Радзімы (Мінск), 2015, № 30, 13 жніўня. С. 3.

[2]Хмара С. Пяе беларускі маладняк // Шлях моладзі (Вільня), 1938, № 21, 7 кастрычніка. С. 2.

[3]Калеснік У. Лёсам пазнанае. Выбраныя літаратурныя партрэты і нарысы. — Мінск: "Мастацкая літаратура", 1982. С. 231-232.

[4]З псеўданімамі Аляксандра Бяленкі здараліся кур'ёзныя выпадкі. Часам сялянскіх паэтаў "хрысцілі" і рэдакцыі газет. Яны скажалі, блыталі псеўданімы, прозвішчы, ці ўвогуле прыдумлялі новыя, а пасля пісалі, што "не разумеюць, як так сталася". У красавіку 1924 года Бяленка наладзіў сувязь з віленскай газетай "Голас Беларуса", якую рэдагаваў Мікола Шыла, даслаў карэспандэнцыю. Праз "Нашу пошту" "Н. Жальбе" паведамілі, што яе атрымалі (Наша пошта // Голас Беларуса (Вільня), 1924, № 16, 4 красавіка). Аднак у наступным нумары яе падпісалі... "Н. Журба" (Журба Н. Робяць вобыскі у чытачоў беларуск[іх] газэтаў // Голас Беларуса, 1924, № 17, 6 красавіка). Гэты ж "Н. Журба" памылкова з'явіўся ў подпісе пад

здымкам Бяленкі ў публікацыі даследчыка Сяргея Чыгрына: Чыгрын С. Заходнебеларускі паэт Жальба // Czasopis (Беласток), 2016, № 7-8(299). Ліпень-жнівень. С. 47.
Памылкова быў падпісаны “Н. Жальба” першы апублікаваны верш Сяргея Хмары — “Час” (Čas // Krynica, 1925, № 14-15, 12 красавіка). Пра гэтую памылку гл. у наступнай публікацыі: Ёрш С. Пра першыя апублікаваныя вершы Сяргея Хмары і Пятра Дабрыяна // Літаратурная Беларусь, 2014, № 3 (91), 28 сакавіка. С. 12.

[5]Аўтабіяграфічны ўспамін Аляксандра Бяленкі ад 28 сакавіка 1990 г. // Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея.

[6]Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 161, в. 2, спр. 69, арк. 24.

[7]Н. Жальба. Асьвета пашыраецца // Беларуская газэта (Вільня), 1933, № 6, 26 жніўня. С. 3.

[8]П’есу “Каліcь” напісаў Францішак Аляхновіч, аўтарам п’есы “Збянтэжаны Саўка” з’яўляецца Леапольд Радзевіч.

[9][Аляксандр Бяленка]. Ігрышча // Маладое жыцьцё (Вільня), 1923, № 1. Студзень. С. 18-19.

[10]Вельмі трапную характарыстыку Аляксандру Бяленку даў літаратуразнаўца Уладзімір Калеснік, які быў з ім знаёмы: “Па сваёй натуры і характару Н. Жальба не належыць да людзей валявых, дзёрзкіх, нават звекаваўшы век хлебаробам, ён захаваў на твары рысы ўроджанай інтэлігентнай кволасці, задумнай летунковасці, дзіцячай шчырасці. Дамініруючы настрой яго вершаў той суровай пары — жальба і скарга. Але як чалавек сумленны і дружны, ён удзельнічаў у змаганні, і не толькі словам, а справай”. Гл.: Лёсам пазнанае... С. 233.

[11]У віленскай газеце “Беларускі звон” (1922, № 4(29), 17 лютага) нейкі “Н.” пісаў: “м. Дзятлова Слонімскага павету. У нашым мястэчку была беларуская школа. Рады мы былі, што нашы дзеткі маглі вучыцца ў роднай мове. Ажно пачалі прызываць у войска маладзеж — пашоў і наш паважаны вучыцель Костусь Сьцяпура, каторы не шкадаваў ні працы, ні здароўя на адраджэньне свайго краю. Такім чынам 56 дзяцей асталося бяз роднай школы. Усе мы бядуем цяпер, што няма каму ў нас ваяваць з нашай адвечнай цемрай”. Папярэднія дзве карэспандэнцыі з Дзятлава з’явілася ў “Беларускім звоне” ў адным нумары восенню 1921-га (1921, № 20, 11 лістапада), яны былі падпісаныя “N.” і “Маленькі”.

[12]Лёсам пазнанае... С. 233.

[13]Наша пошта // Голас Беларуса, 1924, № 16, 4 красавіка. С. 4; Naša pošta // Biełaruskaja krynica (Вільня), 1926, № 13, 18 красавіка. С. 8.

[14]У 1925 годзе А. Бяленка выпісваў віленскую сатырычную газету "Авадзень". Гл.: Наша пошта // Авадзень, 1925, 4 сакавіка, № 4. С. 8.

[15]У адным з артыкулаў у дзятлаўскай газеце ў 2008-м памылкова сцвярджалася, што "пры панскай Польшчы яго вершы не друкаваліся". Гл.: Сіняк Н. Міроўшчына: жывуць тут з мірам // http://peramoga.dzyatlava.by/2008/04/19/1309/

[16]Ліст А. Бяленкі ў рэдакцыю часопіса "Студэнцкая думка" // Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 3, в. 1, спр. 114, арк. 2, рукапіс. Яшчэ восенню 1926-га "Беларуская крыніца" пісала яму ў "Нашай Пошце": "Што сталася з Вашымі вершамі, высланымі ў "Выд. Т-ва" і ў "Студэнцкую Думку", ня ведаем". Гл.: Naša pošta // Biełaruskaja krynica, 1926, № 34, 1 кастрычніка. С. 7.

[17]Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 3, в. 1, спр. 114, арк. 2, 2 адв., рукапіс.

[18]Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 3, в. 1, спр. 114, арк. 3, рукапіс.

[19]"Каб неяк жыць, пайшоў у прыймы і муза прыціхае", — пісаў пра А. Бяленку паэт з Казлоўшчыны Сяргей Хмара. Гл.: Шлях моладзі, 1938, № 21, 7 кастрычніка. С. 2.

[20]Рэдакцыя "Беларускай крыніцы" яму раіла: "На хвалях жыцця" перашліце поштай заказным". Гл.: Naša pošta // Biełaruskaja krynica, 1927, № 13, 25 сакавіка. С. 6.

[21]Naša pošta // Biełaruskaja krynica, 1927, 13 траўня, № 20. С. 4.

[22]Naša pošta // Biełaruskaja krynica, 1927, 8 ліпеня, № 28. С. 4.

[23]"Беларуская крыніца" фактычна абяцала А. Бяленку выдаць у будучыні зборнік яшчэ восенню 1926-га, калі ён складзены яшчэ не быў: "Вершы атрымалі, пакрысе будзем карыстаць. З часам пастараемся выдаць. Многа Вашых вершаў знаходзіцца ў нас. У кош з іх трапілі толькі нямногія". Гл.: Naša pošta // Biełaruskaja krynica, 1926, № 34, 1 кастрычніка. С. 7.

[24]Naša pošta // Biełaruskaja krynica, 1928, № 1, 1 студзеня. С. 4.

[25]Пра прыналежнасць гэтага псеўданіма А. Бяленку піша Янка Саламевіч у сваім "Слоўніку беларускіх псеўданімаў": Саламевіч Я. Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў /XVI-XX стст./. — Мінск: "Мастацкая літаратура",

1983. С. 112. Памыліцца тут цяжка, бо падобны і стыль, і мясцовасць, адкуль прыходзілі карэспандэнцыі — Пацаўская воласць. Доказ жа намі быў выяўлены ў газеце “Беларуская крыніца” ад 22 жніўня 1926-га. У рубрыцы “Наша пошта” рэдакцыя пісала: “Сьлёзнавокаму з пад Дзятлава: “З вершаў карыстаем” (Naša pošta // Biełaruskaja krynica, 1926, № 28, 22 жніўня. С. 8). А ў гэтым нумары быў толькі адзін верш — Н. Жальбы “Над магілай К. Сваяка”.

[26]Жальба Н. Моладз[ь], да працы! // Шлях моладзі, 1934, № 3 (63), сакавік. С. 13.

[27]Жальба Н. Гэй, браточкі мае, дарагія! // Шлях моладзі, 1934, № 9 (69), верасень. С. 1.

[28]Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Дзятлаўскага раёна. — Мінск: “Універсітэцкае”, 1997. С. 87.

[29]Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 161, в. 2, спр. 69, арк. 25.

[30]Лёсам пазнанае... С. 234.

[31]Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Дзятлаўскага раёна. С. 90-91.

[32]Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 161, в. 2, спр. 69, арк. 27.

[33]Жальба Н. Культурная праца замерла // Шлях моладзі, 1938, № 24 (140), 25 лістапада. С. 8.

[34]Паштовая скрынка // Шлях моладзі, 1939, № 14(156), 5 жніўня. С. 8.

[35][Сяргей Хмара]. Пачаткі // Słonimski kurjer, 1944, № 3, 15 студзеня.

[36]Хмара С. Сялянскі літаратурны фонд // Баявая Ускалось (Таронта), 1969, № 8. Верасень. С. 29.

[37]Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея.

[38]Бяленка А. У гады падполля // Перамога (Дзятлава), 1990, № 54, 5 траўня.

[39]Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Дзятлаўскага раёна. С. 87, 91.

[40]С. Хмара, які ў пасляваенны час жыў у Канадзе, быў перакананы, што А. Бяленку рэпрэсавалі савецкія ўлады. Гл.: Хмара С. Рабінавы хмель: выбраныя творы. — Мінск: “Кнігазбор”, 2009. С. 191.

[41]Ліст І. Івашэвіча (П. Граніта) да А. Бяленкі ад 18 студзеня 1965 г. // Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея.

[42]Лёсам пазнанае... С. 247.

[43]Ліст Віктара Шымука з Мінска з рэдакцыі газеты “Звязда” да А. Бяленкі ад 31 студзеня 1969 г. // Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея.

[44]Ліст Я. Саламевіча да А. Бяленкі ад 16 лістапада 1970 г. // Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея.

[45]Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў... С. 171.

[46]Электронны ліст В. Іпатавай да С. Ярша ад 17 студзеня 2013 года.

[47]Czasopis, 2016, № 7-8. С. 48.

[48]Распіска М. Бабка ад 6 снежня 1979 года // Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея.

[49]Ліст рэдактара выдавецтва “Мастацкая літаратура” да А. Бяленкі ад 26 студзеня 1977 г. // Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея.

[50]Ліст І. Аўдзейчык да А. Бяленкі ад 1 жніўня 1980 г.; Падзяка дырэктара Дзяржаўнага музея БССР І. Загрышава // Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея.

[51]Бяленка А. Лявон і Лявоніха. Тутэйшая быль // Перамога, 1990, 12 траўня.

[52]Бяленка А. У гады падполля // Перамога, 1990, № 54, 5 траўня,

[53]Czasopis, 2016, № 7-8. С. 48.

[54]Н. Жальба. Брату // Беларускі дзень,1927, № 8, 24 красавіка. С. 4.

[55]Лёсам пазнанае... С. 235.

[56]Ліс Арсень. Матэрыялы віленскага беларускага фонда // Вяртанне-6: Выяўленне, сумеснае выкарыстанне і вяртанне архіўных, бібліятэчных і музейных каштоўнасцей, якія захоўваюцца ў замежных краінах. — Мінск: “Беларускі фонд культуры”, 1999. С. 120; http://www.lingvo.minsk.by/mab/@book/BOOKS/Viartanne/V_06/V_06.pdf

[57]Лук’янчык М. Паэт, Кастусёў сын Алесь Бяленка // Перамога, 2021, 24 верасня; http://diatlovonews.by/2021/09/paet-kastusjo-syn-ales-byalenka/

# ВЕРШЫ

Вершы А. Бяленкі, апублікаваныя ў міжваенны час

### Ігрышча

Вось гуляюць хлопцы нашы,
Таўкуць мак, як камары,
Як у летні жар на пашы
Ад гілю бегаюць валы.

Круцяць дзевак ва ўсе пары,
На паветры іх нясуць;
Аж пазьменьваюцца твары,
Як кавальскі мех сапуць.

Парашпільваюць каўнеры,
Грудзі голыя ўпярод;
Вось гуляюць кавалеры,
Аж зьдзіўляецца народ.

Ужо гулякі, дык гулякі,
Такіх уперад ня было.
А растуць, ды як ваякі
Усё больш запружваюць сяло.

Ну й гулякі!.. дый ня дзіва
Двух музыкаў калі ўткнуць,
А гуляка рад, шчасьлівы,
Самы ногі ў скок бягуць.

Адзін рэжа на гармоні,
Другі ў скрыпку калупне,
Дык на гулі яго гоне,
Як цябе хто туды пхне.

Усякі хоча пад гуморам,
Сябе болей паказаць,
І танцуюць, пяюць хорам,
У тахт, нагамі тупацяць.

А дзяўчата! Вось дзяўчата,
Абы толькі ім зайграў,
Наплыве іх поўна хата,
Як мятлой іх хто нагнаў.

А як пойдуць яны ў скокі, —
Проста люба пазіраць;
Пабяруцца яшчэ ў бокі, —
Дый з прыпеўкамі гуляць.

Аж хвальбаны* падлятаюць
Ды калені зіхацяць,
Ато-ж лоўка выбіваюць,
Аж падошаўкі трашчаць!

* Фальбаны — спадніца, альбо ніжняя частка сукенкі. — Гэтая і наступныя заўвагі ўкладальніка.

І махне ў тахт галавою,
То рукамі разьвядзе,
Крыху ўхне, бы савою,
Вось ігрышча калі йдзе!

**Тутэйшае жыцьцё**

(З Слонімшчыны)

Што дзень, то новыя падзеі
Нясе нам жудасны наш лёс...
Няма, здаецца, ужо надзеі
Угледзіць сонца із-за сьлёз.

Што дзень, то горай давядзецца
Табе ад горкага жыцьця; —
На сэрца камянем кладзецца
Нядоля злога пачуцьця.

Гаруеш так, — не бачыш сьвету;
І дзень і ноч усё адно;
Зьбярэш убогі скарб за лета —
Й на сэрцы трохі адлягло.

Але куды! ня доўга гэта:
Ня ўсьпееў ты справіцца з дабром,
Аж бач, — то перша мэта —
Цябе абкладваюць кругом.

Давай падаткі — скуль ты хочаш,
Хоць скуру сам з сябе дзяры;
І лезуць гэтак табе ў вочы —
Жыўцом лажыся хоць у зямлі!

Ты так, ты гэтак... пачакайце,
Паночкі, можа зараблю!
А не — кароўку забірайце,
Бо больш нічога не зраблю.

Бо згіну я ўжо усёроўна,
Бо праўды негдзе пашукаць...
Ах, каб умярці цяпер раптоўна
Й парадкаў гэтых больш ня знаць!

### З Новым Годам!...

З Новым Годам пажаданьні
Шлю табе, мой Край,
З Новым Годам хай настане
У нашым жыцьці рай!

З Новым Годам сваркі-звадкі
Хай не чэпяць нас,
З Новым Годам ўсе дастаткі
Хай суліць нам час!

З Новым Годам мір і згода,
Сьветлае жыцьцё,
З Новым Годам для Народу
Братня пачуцьцё!

З Новым Годам пажаданьні
Шлю табе, мой Край,
З Новым Годам хай настане
У нашым жыцьці рай!

## Неаплатная ласка

Пісар важна сядзіць
За пісьмовым сталом
Ён сягоньня прыймае падаткі
Ды на зло людзі йдуць
Неяк вось па адном,
Аж у пісара робяцца складкі.
    Што за ліха, Янук!
    Падыходзь да стала
    Цяпер будзем мы браць ад скаціны.
    Рэгістрацыя ў нас
    Ужо даўно прайшла
    А ніхто не плаціў з нашай гміны.
    Янук! Сколькі табе
    За худобу плаціць?
    Але... Ў кнізе зьвядзём твае шчоты...
    Працэнт твой можам тут
    Да граша палічыць,
    Хоць ня многа, а будзе работы.
Я не знаю, панок, сколькі вам з мяне ўзяць
Бо кабыла нядаўна прапала
Не пакінуў яшчэ
Я па ёй бядаваць:
Яна рукі ў мяне адабрала...
    — Дык мо скуру садраў
    І ўжо жыду прадаў?
    Гміна грошы табе не прашчае!
    — Дамагаешся пан, каб астаткі прадаў?
    Нехай пан гэта мне выбачае!
— Як не будзеш плаціць,
Мусіш во напісаць
Да старосты аб гэтым падане...*
— Колькі-ж, пане, яно будзе мне каштаваць?
  — Аднэй скуры на гэта мо стане...

* Podanie (з польскай) — заяву.

## Прамова інструктара

Вунь інструктар к нам прыехаў!
Гэй, бяжым хутчэй туды:
Там дык будзе нам пацехаў
Ад жальбы ды ад нуды!

Вось ён пэўна нам раскажа,
Як на сьвеце трэба жыць:
Нашы думкі мо' разьвяжа,
Як дзяцей трэба вучыць;

Ды якой навукі трэба
Можа роднае свае?!..
Але-ж, трапіў пальцам у неба,
Слухайце-ж браткі мае:

Стаў на столік ён масьціцца,
Людзей стала прыбываць,
Каб паслухаць, падзівіцца,
Потым дома расказаць,

Што ён скажа, мо' што нова,
(А людзям цікава знаць) —
Вось здаецца ўсё гатова,
Ды кабет нам трэ' паждаць!

Знаў ён (можа быў не глупы),
Што кабеты ўсё-ж такі —
Хоць на розум вельмі скупы,
А на словы мастакі.

Ну й людзей вось болей валіць,
Бо ўжо ксёндз закончыў мшу,
Йдуць сабе і яго хваляць,

Як пацешыў ён душу.

Бо ён з панскага хаўрусу,
Так з казаньня расказаў,
Каб ніхто з нас беларусам
Сам сябе не называў!

Ну і болей, ды хто знае!..
Ўсё па-польску ён казаў,
Дык і рэдка хто згадае,
Які хлеб ён падаваў.

“Трэба знаць вам, людзі, хто я:
Я інструктар польскіх школ,
Я прысланы тут на тое,
Каб адняць вам з сэрца боль!

Вось сам наперш скажу тое,
Беларусаў тут няма!
А што ў голавах дурное
Дык гэта-ж не навіна.

Тут расеяц вякоў столькі
Вашы голавы дурыў,
Навучаў свайго ён толькі,
Дык ня дзіва, што забыў

Гэты народ сваю мову,
Сваю з іхняю зьмяшаў,
І ўжываў ён так па слову,
А ўсё Польшчу выганяў.

Аж народ зусім астаўся
Гэтакім, як ёсьць цяпер,

Покуль польскі жонд* не ўзяўся
Адчыніць да сьвету дзьвер.

Даць вам панскую навуку,
Сваё роднае паняць:
Як паймеце гэту штуку,
Польскасьць будзеце кахаць!

“Оту-ж” ты, народзе польскі,
Буду так вас называць,
Шануй тое, як дар боскі,
Што мы будзем вам даваць!

Пекну панскую навуку,
Мову чысту, як хрусталь,
Яна зробіць дзіўну штуку
Змене вас з зялеза ў сталь!

Ганьба тым, хто называе
Беларускім гэты люд:
Ён дурны таго ня знае, —
Беларусаў няма тут.

Эх, мае вы, мілы людзі:
Польска** моцная цяпер,
А як згода ў нас будзе,
Дык вораг ня ўломіць дзьвер.

А дзе еднасьць, там і сіла
Гэта з вякоў вечных так,
А дзе большасьць станавіла,
Паднявольны быў ёй усяк.
Дык ня трэба нараканьня,

* Rząd (з польскай) — урад.
** Polska (з польскай) — Польшча.

Польшча маткаю для вас,
А год гэты, год змаганьня,
Збяжыць у вечнасьць і для нас;

Жыцьцё новае настане
Згоды, вольнасьці, дабра;
Гэта мае пачуваньні,
Абы еднасьць у нас была!”

Так маніў ён сакавіта,
Аж рукамі кругом трос, —
Народ слухаў прагавіта,
Брахуном празваў пад нос...

А як кончыў свае хвалі,
Загрымела маладзёж:
“Мы да веку, браток, спалі,
Але кончыўся той час!

Разбудзілі нас грымоты
Страшнай крыўды гураган,
Мы хапілісь да работы,
Каб зваліці той курган,

Што капаў нам вораг нашы
То з Заходу, то на Ўсход...
Абудзіцеся, юдашы*,
Дайце да сьвятла праход!

**Зімой**

Прыветна сонейка сьвяціла
На землю белую з нябес,

* Здраднікі.

Ўдалі сінеў хваёвы лес —
Ўсё выглядала дзіўна міла!

Сьнягі на сонейку блішчэлі
Моў дыяментавы агні,
Пагодныя стаялі дні
І ветры дрэў не калыхалі.

Прырода ціха спачывала
Накрыта дываном сьнягоў;
Вясёлых ніў, красы лугоў
Як-бы ніколі нябывала.

Ды гэты белыя сьнягі,
Што ўсю зямельку пакрывалі,
У сэрца жалю наганялі:
Калі-ж нас кіне лёс благі?!

## Думкі

Гэй, вы думкі мае,
Вы ляглі-б ужо спаць,
Годзе душу маю
Увесь час калыхаць!

Я ня знаю яшчэ
І ці быў такі час,
Каб вас, думкі мае,
Мне пазбыцца хоць раз.

Ці адзін я сяджу
Ў беднай хаце маей,
Ці я гляну на сьвет,
Ці ў таўпе між людзей:

Ускрозь вы думкі са мной,
Як-бы вас мне ня знаць!? —
З вамі цэлы свой век
Мушу я гараваць.

Да магілы са мной
Не разлучыцесь вы,
Покуль сьмерць не скуе
Маей сном галавы.

І тагды толькі я
Вас ня буду ўжо знаць,
Калі трупам ў зямлі
Буду грэшны ляжаць.

Ды ў астатні той час
Прад канцом маіх дней,
Як аддам Богу дух
З набалелых грудзей, —

Зьбяру сілы свае
І дам сьвету я знаць,
Што краіне сваей
Буду вечна спрыяць.

А калі не змагу
Я сказаць гэта ўперш,
Будзе сьведкай таму
Гэты верны мой верш.

## Брату

Ня думай, мой радзімы браце,
Што жыці стала цяжка нам,

Бяда пануе ў нашай хаце
І рэжэць сэрца папалам.

Няхай табе аб тым ня сьніцца,
Пакінь ты думаць, бядаваць,
Ня вечна будзем мы глуміцца
Не вечна будзем гараваць.

Настане дзень для нас свабоды
І дні нядолі прабягуць —
Тады свабодныя народы
Нам братню руку пададуць.

## Над магілай К. Сваяка*

Памёр Сваяк і думак новых
Ня будзе ўжо нам выяўляць:
На век яго заціхлі словы
І Край наш будзе сумаваць.

Ён шчыра чулаю душою
Усіх да працы заклікаў,
Наўкола ўмелаю рукою
Зярняты праўды засяваў.

Бывала родную газэту
Ты возьмеш у рукі пачытаць —
І думку новую паэты
Ў ёй часта можаш напаткаць.
Як краска першая** вясною
Зварушыць сэрца аж да дна
І сіла нейка над табою

* Казімір Сваяк (сапр. Канстанцін Стэповіч, 1890 — 1926) — беларускі каталіцкі святар, паэт.
** Першая кветка.

Скідае ўраз аковы сна.

І хочаш жыць і хочаш верыць —
Так стане соладка табе;
Забудзеш зьдзек і жаль бязмеры
І станеш дужым у барацьбе.

Цяпер мы сталі бядакамі —
Няма каму нас вясяліць:
Паміж газэтнымі радкамі
Яго ўжо верш не заблішчыць.

Да Вас, браты, зьвяртаю словы
Хто здольны вершыкі складаць;
Фундамант ёсьць у нас гатовы —
Сваяк пакінуў нам канчаць.

Браты, на памятку паэты
Давайце кожын свой уклад,
І вершы Вашы для газэты
Праўдзівы й цэнны будзе клад!

**Глухі, калі не пачуе, дык выдумае**

Людзей на сьвеце многа ўсякіх:
Ёсьць з носам тоўстым, як трубой,
З нагамі ёсьць як клешчы рака,
З вялікай з цэбар галавой!

Дары прыроды — дык вядома:
Ня можна нават іх прадаць;
Ці мы паміж сваіх у дома,
Ці ў людзі йдзём — павінны браць.

Прышлося раз адзін глухому
На Спаса ў цэркве пабываць,
Гадоў дзесятак пэўна з дому
Ён за парог ня мог ступаць.

Аж тут на лета стала лепей
І стаў ён сыну дакучаць:
"Сынок мой мілы, — яму клепле —
Хачу я ў споведзі бываць".

І вось па добрай ласцы сына
Яго ў цэркве бачым мы:
Стаіць, глядзіць кругом вачыма
І вун што ўгледзіў ля сьцяны.

Стаяў там чалавек губаты —
Яму на'т гэтага ня ўцям,
Што на яго глядзіць заўзята
Глухі пакутнік наш Сьцяпан.

"Глядзі! Глядзі! То-ж гэты сьвішча —
Яго суседу паказаў. —
Ён думаў пэўна на ігрышча,
А не ў царкву да нас папаў".

"Ад роду ён такі губаты, —
Сусед усьпеў той адказаць. —
З натуры ён такі лупаты
І зусім ня думае сьвістаць".

***

Мілая краска жыцьця веснавога,
Хутка, нябачна ты мне адцьвіла,
Сэрца напоўніла жалем-трывогаю,
Мала ты ўцехай мне ў жыцьці была.

Рэдка ўсьмяхалася доля гаротная,
Рэдка жыцьцё весяліла сабой,
Рэдка радзілася думка свабодная,
Хворае сэрца тужыла па ёй.

Кінь сумаваць, маё сэрца забітае,
Месца нядай ты заўсёднай жальбе,
Глянь — во зямелька, туманам спавітая,
Новаю сілай напоіць цябе.

Сонца прагляне і ўстане вясёлая
К новаму лепшаму жыцьцю зямля,
Краскамі нівы ўсыпле ўсе голыя
Сьветлая мілая госьцьця-вясна.

Толькі-ж ня радуюць сэрца трывожнага
Кветкі чароўнай і мілай вясны,
Далі задумныя краю разложнага,
Шчасьця былога прайшоўшыя дні.

Сумна праходзіць жыцьцё адзінокае,
Век я ня бачу вясёлага дня.
Дзе-ж ты падзелася, радасьць далёкая?
Можа нясеш, ты мне, госьцьця-вясна?

Можа павееш ты радасьцяй-воляю,
Можа прагоніш заўсёдны мой сум?
Хутка прыдзі: я — забіты нядоляю...
Можа вясёлых навееш мне дум!

**Брату**

Пакінь, браток, ня плач, даволі!
Нічога роспач нам ня дасьць,
Хоць мы ня маем шчасьця — долі,
Нас кожны любіць асьмяяць.

Трывай, браток, ня дайся згінуць
І думку новую хавай,
А плач і роспач трэ’ пакінуць,
Хай іх пазбавіцца наш край!

Цярпі, браток, прыдзе часіна
І станем мы на новы шлях,
Бяда навекі нас пакіне
І жыць — цярпець ня будзе страх.

Ня думай, брат, што мы бяз сілы,
Бо сіла ёсьць у нас самых.
Хоць бедны мы, хоць мы пахілы,
Ня хочам скарбаў мы чужых.

Дык хай цябе нішто ня страша,
Здабудзем шчасьце мы самы,
К жыцьцю краіна ўстане наша,
Настануць сьветлыя нам дні!

## Зарабіў

Рана сяньня ўстаў Язэп наш,
Мала гэту ноч ён спаў,
Бо зьбіраўся ў лес па дровы;
Учора жыд яго наняў.

Ехаць мусіць — гоніць гора;
Эх, і хто яго ня знаў!?
Сеў вячэраць ён учора —

Аж чорт солтыса прыгнаў.
— “За падаткі, за страхоўку!” —
Як пачаў ён тут крычаць! —

Страшыў нават, што кароўку
Войт прыедзе — можа ўзяць.

Дык няма ўжо йнакшай рады,
Заработкаў трэ шукаць,
А тут слабы конь галодны —
З ім ты будзеш зарабляць?!

Але раз, другі — нічога,
Можа "мэтру" зацягну.
Гэтак хоць ня вельмі многа
На падаткі зараблю.

Вось-жа ён ужо шчасьліва
З дрэвам у Дзятлаў едзе на'т.
Конік цягне, як на дзіва! —
Наш Язэпка вельмі рад.

Вось і мэта недалёка, —
Бачыць — жыд ужо бяжыць;
Раптам: "стой" — з другога боку
Паліцэйскі закрычыць:

— "Конь чаму твой не ўкелзаны —
Пеньць злотувэк зато маш! —
Вам прыказ даўно ўжо даны!"
— "Панок мілы — першы раз!

Я ня чуў яшчэ нічога, —
Першым разам пан даруй,
Буду за вас прасіць Бога,
Глянь на беднасьць, пашкадуй!"

— "Як завешся, скуль ты родам?
Мушу пратакол пісаць,

Знаем вашу хамску моду, —
Вам на памяць трэба даць!”

Бачыць наш Язэп адразу,
Што ўжо пана не ўмаліць
Вось дык шчасьце! Першым разам
Прышлось мне так зарабіць!..

***

Калі гора цябе напаткае
І ты плакаць тады на’т гатоў,
Ня плач, браце! хай сьлёзаў ня знае
Сынок вольных калісь Крывічоў.

Калі жыцьцё табе ўжо ня міла
І ты клясьці яго на’т гатоў —
Не кляні, мой ты браце, пахілы,
Сынок вольных калісь Крывічоў.

Калі хмара павісьне панура
І Край родны пакрые узноў,
Ці ўздымецца страшная бура —
Ты змагайся, ты-ж сын Крывічоў.

***

Акрыльвай думку ты сваю,
Імкнісь на сустрач сонцу.
Сьпявай ты песьню пра зямлю,
Дзе жаль і сум бязконца.

Ты помні крыўды, помні зьдзек,
Што з малку дзён над намі

Шукай на ўсе балячкі лек,
Ня йдзі дзядоў сьлядамі.

Змаганьнем знач свой кожды шаг,
Грымі аб перамогу.
Магутны гарт ты май у грудзях,
Зьнімай з душы трывогу.

За праўду сьветлую ў жыцьці
Аддай свае ўсе сілы
І гэтым шляхам ты ісьці
Прысягні да магілы.

27.IX—1933 г.

### Моладзь, да працы!

Да працы йсьці пара настала...
Даволі нам стагнаць, чакаць,
Бо толку з гэтага ўжо мала —
Ніхто нічога нам ня дасьць!

Ідуць гады так чарадою
І ў чаканьні сходзіць век,
Ды толькі горкаю сьлязою
Бяды ня збудзе чалавек!

Далёка, браткі, мы адсталі,
Другія ўжо пайшлі ўпярод,
А мы стагналі і чакалі,
Каб нехта рушыў нас у ход.

Няма, няма душой вялікіх,
Каб нашы сьлёзы асушыў,

Каб хто прышоў на нашы крыкі
Каб нехта нешта нам зрабіў!

Павінны самі мы змагацца
За свой людзкі і лепшы быт,
На зьдзек і крыўду не давацца —
Дык будзьма цьвёрды як граніт!

Браты, усе да працы шчырай,
Усе — к агульнаму дабру!
Нясём мы сьвет старонцы мілай
Каб разагнаці цемнату.

***

Гэй, браточкі мае, дарагія!
К вам я словы зьвяртаю свае:
Распаляйце парывы сьвятыя,
Што таяцца ў сэрцы на дне.

За прыклад вы таго не бярэце,
Дзе сільнейшы слабых перамог,
Патаптаўшы ўсю праўду на сьвеце
І для волі зрабіўшы вастрог.

Мы ня хочам такой перамогі,
Каб слабейшы нам стаўся рабом
Расьцярэбім сабе мы дарогі,
Што здаўна заваліў буралом.

Нам ня трэба ганебнага шляху,
Па каторым вякамі ўсё йдуць...
Мы ў жыцьці сваім хочам размаху,
Чысту праўду ўсім разгарнуць!

## Мой шлях

Іду я цярністай дарогай,
Дыбаю ўпярод і ўпярод,
Хоць млеюць падбітыя ногі
І з твару мне коціцца пот.

Дарога даўгая бяз меры,
Ня знаю, ці хутка прайду...
Бо выюць галодныя зьверы
Варожачы нейку бяду.

І віхар узьняўшыся з поля
У вочы мне сыпле пяском,
Каб далей ісьці я ня здолеў
І стаўся зусім сьлепаком.

А я.........[не зважаю на гэта]
Дыбаю за крокам, у крок,
Каб як-жаж дабіцца да мэты,
Пакуль яшчэ сьвеціць мне зрок!

## Заміж вянка на магілу брата, забітага 23.XI.35

І паў ты нявіннай ахвярай
З рук подлага служкі паноў —
Жыцьця маладога ня стала
Між верных Айчыне сыноў.

Закрыліся ясныя вочы
У нема-халодным у сьне
І голас, да песьні ахвочы
Заціхнуў па раньняй вясьне*.

* У адным з рукапісаў з варыянтам вершу памяці брата ў А. Бяленкі ёсць такі варыянт: "Прад раньнем новае вясны" // Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея.

Злажыў ты працоўныя рукі
На вечны магільны пакой —
І болей ні скаргі, ні мукі
На сьцежцы жыцьцёвай тваёй.

Ляжыш ты, навылят прабіты,
Абмыты ва ўласнай крыві,
Ляжыш ты, як цяжка пакрыты
Сьлязамі і жалем радні.

Ўжо песьня твая адсьпявана,
Агонь жыцьця твайго пагас,
Расьцьвіўшая краска сарвана,
На векі завяла для нас.

Дык сьпі-жа, браточак няшчасны,
Пакрыты сырою зямлёй, —
Дзянёк твой вясёлы і ясны
Абняты магільнаю цьмой.

**Мой народ**

Я у песьнях цябе выслаўляю
І у думках жыву я табой,
Шчасьліў тваім шчасьцем бываю
І плачу тваею сьлязой.

Жывеш ты — і я ўжо бадзёры
Шагаю да радасных дзён,
Што зломяць няпраўды запоры

І зьнішчаць вяковы праклён.

І цьвёрдую ў сэрцы надзею
Нясуць перамогі над злом,

Што выбіць ніхто не здалее
Турмою, жалезам, агнём!

***

І прыціх, як няма, адпеяў, адшумеў,
А на праўду ў грудзях агонь полымем б’е
І злы лёс у барацьбе сіл зламаць ня здалеў —
Вестак толькі ў сьвет ні даваў аб сабе.

І заснуў, як рака зімой скутая льдом,
Дый пад лёдам бурляць быстры воды яе,
І як гляне вясна, зашуміць крыгалом,
Край паводкай яна навакола залье.

Гэй! ты муза мая! Што-ж ты стала ў баку
І стаіш і маўчыш ў атупленьні нямым,
Падыйдзі-жа бліжэй, падай сьмела руку,
Песьню мо’ як калісь з табой зноў запяем!

**З цыклю “Жыцьцё і краскі”**

Прыйшла пара зімовая,
халодная пара,
зь ёй думачка ні новая:
німа нідзе дабра.
І хатку крывабокую
клён з жаласьці падпёр,
а восеняй глыбокаю
страху садраў віхор.
Пануе гора лютае
у хаце мужыка,
сьціскаецца пакутаю
душа у бедака.

Ня можа ён паправіцца
бяз страху стрэць зіму,
хоць колькі год стараецца —
ды не вязе яму...
Калі-ж то неба хмарнае
дасьць ласку і прывет
і праўда сьветазарная
сатрэ нядолі сьлед?

**“Шляху Моладзі” ў 10-я ўгодкі**

Дзесяць год усё ўпярод, із народу ў народ
горда йдзе беларуская моладзь.
Хоць цярністы наш шлях, з цьвёрдай верай
у грудзях
Дойдзем усё-ж да жаданае долі.

Хай крычаць груганы, няхай б’юць пяруны —
нам ня страшны ніякія сілы.
Ў нашых сэрцах агонь і адважна мы йдзём
адраджаць край наш родны і мілы.

Гэй, наш “Шлях Маладых”, мы з табою ўсягды
з верай йдзем да шчасьлівае мэты, —
крок за крокам упярод, не звальняючы ход,
да зраўнаньня з народамі сьвету!

***

Нашы к радасьці дарогі
Палынамі зарасьлі
І на родныя парогі

Суму-смутку нанясьлі.

Доля горкая, ліхая,
Йшчэ ад мацяры грудзей
Нас ніяк не пакідае,
Крок у крок за намі йдзе.

Адно толькі мы шчасьлівы,
Што змагаемся й жывём,
Хоць паволі і цярпліва
Ўсё-ж да лепшага дайдзём.

**Жніво**

Ідзе жніво, калосікі худыя
ў зямлю убітыя і градам, і дажджом
Як цяжка іх зьбіраць, — сагнута сьпіна ные
і льецца пот усьцяж няўпынным ручаём.

А сонца зьверху пале, як агнём, заўзята
і вецер дзесь у бары заснуў і ні сапе.
Ды толькі мятлікі надзеяю крылатай
зьмягчаюць працы боль і радуюць цябе!

Азьвецесь жнейкі ўсе вы — песьняй весялухай,
хай рэхам адаб’е яе вяковы бор!
Няхай яна ўзьляціць працоўнай раці духам,
і зойме ўвесь хутчэй жыцьцёвы свой прастор!

28.VII.1939

***

Ўжо ўбогая ніўка дажата,

На ўзгорках сухіх і пяскох:
Пабрана, што градам ня сьцята,
Што дождж у зямлю ўбіць ня змог
І прыйдзе дзянёк жаданы,
Будуць дзеткі ў далонькі пляскаць:
Будзе голад ад іх адагнаны,
Будзе весела ім пагуляць.
Прыйдзе сьвята, вялікае сьвята,
Калі хлеба пачуецца пах, —
Стане хата сялянска багата,
Й шчасьцем адгоняцца мукі і жах.

27.VII.39 г.

# КАМЕНТАРЫ

### Ігрышча

Упершыню апублікаваны ў віленскім беларускім часопісе “Маладое жыцьцё” (1923, № 1, студзень. С. 18-19). Верш не падпісаны. Аўтарства вызначана паводле аўтабіяграфіі А. Бяленкі, у якой ён згадвае назву свайго першага верша і выданне, дзе ён быў апублікаваны.

“Маладое жыцьцё” — беларускі маладзёжны часопіс. Выдаваўся неперыядычна ў Вільні ў 1921-1923 гг. Выйшлі 7 нумароў, апошні — у студзені 1923-га. Рэдактарам-выдаўцом быў Аляксандр Пусько.

### Tutejšaje žyćcio

Упершыню апублікаваны ў віленскай беларускай газеце “Krynica” (1925, 4 студзеня, № 1. С. 4) пад псеўданімам “N. Žalba”. У арыгінале — на беларускай лацінцы.

“Krynica” (“Крыніца”) — беларуская газета. Заснаваная ў 1917 г. у Петраградзе, з 1919-га выдавалася ў Вільні. У жніўні 1925 г. змяніла назву на “Беларуская крыніца” (праіснавала да 1937 г., а ў 1939-1940 гг. зноў выдавалася як “Крыніца”). Агулам выйшла 757 нумароў. Да 1927 года выданне пазіцыянавала сябе, як “сялянская газета”, пазней стала “палітычнай, грамадскай і літаратурнай газетай”. Рэдактарамі і выдаўцамі былі Браніслаў Туронак, Тамаш Вайцяховіч, Ян Пазьняк, Адам Дасюкевіч, Адам Станкевіч, Адольф Клімовіч.

### Z Nowym Hodam!...

Упершыню апублікаваны ў газеце “Krynica” (1925, 4 студзеня, № 1. С. 6). Падпісаны псеўданімам “Žalba”. У арыгінале — на беларускай лацінцы.

У гэтым нумары выдання ў рубрыцы “Наша Пошта” рэдакцыя піша: “Жальбе: Атрымалі. Скарыстаем. Просьбу спаўняем. Календар ужо вышаў”.

## Неаплатная ласка

Упершыню апублікаваны ў віленскай беларускай газеце “Авадзень” (1925, 4 лютага, № 2 (3). С. 6) пад псеўданімам “Н. Жальба”. А. Бяленка выпісваў гэтае выданне. 4 сакавіка 1925-га ў рубрыцы “Наша пошта” рэдакцыя паведамляла, што атрымала ад “Беленко” на падпіску 1 злоты 50 грошаў. Намі выяўлены ў газеце толькі адзін яго твор. Магчыма былі і нейкія невялікія абразкі, жарты, але яны падпісаныя крыптанімам, такім, як “б - а”. Аднак пэўнасці ў яго прыналежнасці да Бяленкі няма.

“Авадзень” — беларускі ілюстраваны “дватыднёвік крытыкі, жартаў і сьмеху”. Выдаваўся ў Вільні неперыядычна ў 1924-1925, 1929, 1933 гадах. Рэдактар-выдавец Антон Васілеўскі.

## Pramowa instruktara

Упершыню апублікаваны ў газеце “Krynica” (1925, 12 красавіка, № 14-15. С. 12). Падпісаны псеўданімам “N. Žalba”. У арыгінале — на беларускай лацінцы.

У № 7 ад 15 лютага 1925-га ў рубрыцы “Наша Пошта” рэдакцыя пісала: “Жальбе: Вашы вершы так сабе. Паправіўшы можна нікаторыя друкаваць”. Як бачым, у выніку выбралі адзін верш.

## Zimoj

Упершыню апублікаваны ў віленскай газеце “Biełaruskaja krynica” (1925, 21 снежня, № 13. С. 5) пад псеўданімам “N. Žalba”. У арыгінале верш надрукаваны на беларускай лацінцы.

## Dumki

Упершыню апублікаваны ў газеце “Biełaruskaja krynica” (1926, 7 лютага, № 5. С. 3). Падпісаны псеўданімам “N. Žalba”. У арыгінале верш надрукаваны на беларускай лацінцы.

## Bratu

Упершыню апублікаваны ў газеце “Biełaruskaja krynica” (1926, 21 сакавіка, № 10) пад псеўданімам “N. Žalba”. У арыгінале верш — на беларускай лацінцы.

**Nad mahiłaj K. Swajaka**

Упершыню апублікаваны ў газеце "Biełaruskaja krynica" (1926, 22 жніўня, № 28. С. 2). Падпісаны псеўданімам "N. Žalba". У арыгінале верш надрукаваны на беларускай лацінцы.

**Hłuchi, kali nie pačuje, dyk wydumaje**

Упершыню апублікаваны ў газеце "Biełaruskaja krynica" (1926, № 36, 15 кастрычніка. С. 7). Падпісаны псеўданімам "N. Žalba". У арыгінале верш надрукаваны на беларускай лацінцы.

**"Мілая краска жыцьця веснавога..."**

Упершыню апублікаваны ў віленскай газеце "Беларускі дзень" (1927, № 7, 14 красавіка. С. 2-3) пад псеўданімам "Н. Жальба".

"Беларускі дзень" — тыднёвік, выдаваўся ў Вільні ў 1927-1928 гг. Выйшлі 72 нумары. Рэдактар-выдавец — Францішак Умястоўскі. Газета мела прапольскі кірунак. Камуністычныя дзеячы крытыкавалі Н. Жальбу і іншых паэтаў, якія друкаваліся ў падобных выданнях (напрыклад, у "Беларускім дні" часта змяшчаліся вершы Міхася Васілька, які адначасова публікаваўся ў левым "Narodnym Zwonie"). Земляку Жальбы паэту-самавуку Герасіму Праменю (Івану Пышко) рэдакцыя левай "Беларускай газэты" пісала наступнае: "...памятайце, што добраму пісьменьніку ў першую чаргу патрэбна цьвёрдай ідэалёгіі і лініі. Вы пішаце ў "Родны Край", "Бел. Крыніцу" і да нас. Скажыце: няўжо Вы ня бачыце розьніцы між гэтымі газэтамі? Калі Вы сапраўды шчыра хочаце змагацца за справу белар[ускага] прац[оўнага] народу — станьце цьвёрда на наш шлях. Тады будзем гутарыць далей". (Гутарым // Беларуская газэта, 1933, № 10, 10 лістапада. С. 4). Пасля той крытыкі і павучання, ні Прамень, ні Жальба, ні іншыя паэты з Дзятлаўшчыны больш не друкаваліся ў "Беларускай газэце". Г. Прамень тады казаў сябрам, што "няма значэння, якая газета надрукуе яго вершы, абы надрукавала" (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 161, в. 2, спр. 290, арк. 49адв.).

**Брату**

Упершыню апублікаваны ў віленскай газеце “Беларускі дзень” (1927, № 8, 24 красавіка. С. 4). Падпісаны псеўданімам “Н.Жальба”.

**Zarabiŭ**

Упершыню апублікаваны ў газеце “Biełaruskaja krynica” (1928, № 45, 4 кастрычніка. С. 3) пад псеўданімам “N. Žalba”. У арыгінале верш надрукаваны на беларускай лацінцы.

**“Калі гора цябе напаткае...”**

Упершыню апублікаваны ў газеце “Беларуская крыніца” (1930, № 12, 20 сакавіка. С. 2.). Падпісаны псеўданімам “Жальба Н.”. У Дзятлаўскім дзяржаўным гісторыка-краязнаўчым музеі захоўваецца рукапіс гэтага твора, які насамрэч мае назву і быў моцна скарочаны, часткова перапісаны рэдакцыяй. На жаль, пакуль невядома, ці не дапрацоўваў А. Бяленка яго ў пасляваенны час.

**“Беларусам**

Калі гора цябе прыцiскае
І ты плакаць пад час ужо гатоў,
Ня журыся, хай смутку ня мае
Сынок вольных калісь крывічоў.

Калі думкі цябе апануюць
І ты моцна занудзішся зноў,
Няхай думак журботных ня мае
Сынок вольных калісь крывічоў.

Калі жыццё табе ужо ня міла
І ты клясці яго нат гатоў,
Не кляні, а найдзі ў сабе сілы
Бо ты вольны сынок крывічоў.

Калі хмара павісьне панура
І край родны акутае зноў,
Хай гуляе страшэнная бура,
Ты ня гніся, ты-ж сын крывічоў.

Хай грымоты, віхор над табою,
Ты скалой непарушнаю стой
Сабе шчасце мы вервема з бою
І жыць будзем ўсе вольнай сям'ёй!".

**"Акрыльвай думку ты сваю..."**

Упершыню апублікаваны ў віленскім беларускім часопісе "Літэратурная старонка" (1934, № 1, студзень. С. 28) пад псеўданімам "Н. Жальба". Пад вершам стаіць дата — 27 верасня 1933 года. Рэдакцыя ў гэтым нумары пісала: "Н. Жальба — Наваградчына. Пісаць можаце, толькі будзьце добры не "адрывайцеся ад зямлі", не ўцякайце з яе, а апісвайце ўсё тое, што дзеіцца на гэтай-жа зямлі. Паэт працы ня лётае па небясах, але нага ў нагу ідзе з працоўнымі. Чакаем далейшых Вашых твораў" (С. 31).

"Літэратурная старонка" — часопіс, "месячнік літэратуры, мастацтва і крытыкі". Гэта было пракамуністычнае выданне. Выдавец і рэдактар Янка Патаповіч. Выйшаў адзін нумар. У 1933 г. "ЛС" выходзіла, як дадатак да "Беларускай газэты", але творы Н. Жальбы туды не трапілі.

**Моладз[ь], да працы!**

Упершыню надрукаваны ў часопісе "Шлях моладзі" (1934, № 3(63), сакавік. С. 13) пад псеўданімам "Н. Жальба". У "Паштовай скрынцы" рэдакцыя пісала: "Н. Жальбе. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем. Адну карэспандэнцыю самі выкарысталі, другую перадалі згодна з Вашай просьбай. Верш прысланы слабы. У гэтым нумары друкуем адзін з Вашых вершаў і радзім яго параўнаць з арыгіналам, а тады пабачыце недахопы; папераджаем, аднак, што і гэта рэдакцыя, у якой ён друкуецца, неперашарадная. Трэба больш чытаць і працаваць над сабой".

“Шлях моладзі” — беларускі маладзёжны часопіс. Выдаваўся ў Вільні ў 1929-1939 гг. Выйшлі 157 нумароў. Рэдактарамі былі Мар’ян Пецюкевіч, Язэп Найдзюк. Часопіс знаходзіўся пад уплывам “Беларускай хрысціянскай дэмакратыі”.

**“Гэй, браточкі мае, дарагія!..”**

Упершыню надрукаваны ў часопісе “Шлях моладзі” (1934, № 9(69), верасень. С. 1). Падпісаны псеўданімам “Н. Жальба”. У “Паштовай скрынцы” рэдакцыя далікатна пісала: “Н. Жальбе. Вершы Вашы агулам слабаватыя, хоць здараюцца і нішто сабе, аднак і іх трэба, як хіба заўважылі, папраўляць. Пяра радзім ня кідаць. Просьбу споўнілі. Шчыра дзякуем за мілыя словы”.

**Мой шлях**

Упершыню надрукаваны ў часопісе “Шлях моладзі” (1935, № 11(84), кастрычнік. С. 10) пад псеўданімам “Н. Жальба”. У адным з радкоў стаяла шматкроп’е, можна было падумаць, што ў вершы рэдакцыя зрабіла скарот з цэнзурных меркаванняў. Але гэта не так. У дзятлаўскім музеі захоўваецца рукапіс гэтага верша, напісаны А. Бяленкам у пасляваенны час. Магчыма, гэта і ёсць арыгінальны яго варыянт, які рэдакцыя “адрэдагавала” не вельмі ўдала:

**“Мой шлях**

Іду я цярністай дарогай
Шагаю ўпярод усё упярод,
Хоць млеюць падбітыеногі
І з твару мне коціцца пот.

А шлях даўгі без меры,
Ня знаю, ці хутка прайду.
І выюць галодные зьверы
Варожачы нейку бяду.

І віхар узняўшыся з поля

У вочы мне сыпе пяском,
Каб далей ісці ўжо няздолеў
І стаўся зусім слепаком.

А я ня зважаю на гэта
Дыбаю за крокам у крок,
Каб як-жа дайсці мне да мэты
Пакуль яшчэ сьвеціцца узрок".

**Заміж вянка на магілу брата[,] забітага 23.XI.35**

Упершыню апублікаваны ў часопісе "Шлях моладзі" (1935, № 13(86), снежань. С. 10). Падпісаны псеўданімам "А. Жальба" — гэта відавочная памылка рэдакцыі. У паштовай скрынцы ў гэтым жа нумары "ШМ" рэдакцыя звяртаецца да "Н. Жальбы": "Атрымалі, дзякуем і просьбу спаўняем. Каталёг кніжак высылаем і з яго Вы даведаецеся, што трэба". У вершы гаворка ідзе пра брата А. Бяленкі 21-гадовага Антона. Ён быў цяжка паранены "камісарам двара Міроўшчына" і памёр у бальніцы ў Навагрудку (больш падрабязна гл. у раздзеле "Карэспандэнцыі").

**Мой народ**

Упершыню надрукаваны ў часопісе "Шлях моладзі" (1937, № 1(100), студзень. С. 1). Падпісаны псеўданімам "Н. Жальба". Верш А. Бяленкі быў надрукаваны на першай старонцы часопіса пад вершам Міхася Машары. Толькі на другой старонцы былі вершы Наталлі Арсеньневай, Ніны Тарас, яшчэ далей — творы Сяргея Хмары, Максіма Танка. У "Паштовай скрынцы" рэдакцыя пісала: "Н. Жальбе. Атрымалі, дзякуем. Адзін верш друкуем, будзем таксама старацца выкарыстаць гутаркі".

**"І прыціх, як няма, адпеяў, адшумеў..."**

Упершыню апублікаваны ў часопісе "Шлях моладзі" (1938, № 25(141), 8 снежня. С. 3) пад псеўданімам "Н. Жальба".

**Z cyklu "Žyćcio i kraski"**

Упершыню надрукаваны ў часопісе "Шлях моладзі"

(1939, № 2(144), 25 студзеня. С. 9). Падпісаны псеўданімам “N. Žalba”. У арыгінале апублікаваны на беларускай лацінцы. Згадка пра “цыкл” можа сведчыць пра падборку вершаў ці нават пра зборнік, падрыхтаваны А. Бяленкам.

**“Шляху Моладзі” ў 10-я ўгодкі**

Упершыню надрукаваны ў часопісе “Шлях моладзі” (1939, № 7(149), 5 красавіка. С. 3). Падпісаны псеўданімам “Н. Жальба”.

**“Нашы к радасьці дарогі...”**

Упершыню надрукаваны ў часопісе “Шлях моладзі” (1939, № 11(153), 15 чэрвеня. С. 11) пад псеўданімам “Н. Жальба”.

**Жніво**

Упершыню апублікаваны ў часопісе “Шлях моладзі” (1939, № 14(156), 5 жніўня. С. 2). Падпісаны псеўданімам “Н. Жальба”. Пад вершам стаіць дата — 28 ліпеня 1939 года. У “Паштовай скрынцы” рэдакцыя піша: “Н. Жальбе. Верш Хмары ня пройдзе праз цэнзуру, іншыя матэрыялы надрукуем. Невялічкі зборнік з найлепшых сваіх вершаў просім улажыць і прыслаць, а мы будзем старацца яго як-небудзь выдаць. Прывітаньне!” (С. 8).

Рукапіс верша, які захоўваецца ў музеі ў Дзятлаве, сведчыць, што падчас рэдагавання рэдакцыя не заўсёды мела рацыю, часам памылялася. Напрыклад, у вершы “Жніво” слова “мендлікі” замянілі на “мятлікі”. Відаць, Бяленка моцна перажываў такую “рэдактуру”. У рукапісе, напісаным у пасляваенны час, ён нават удакладняе, што мендлікі (мэндлікі) — гэта група снапоў. Арыгінальны верш быў такі:

**“Жніво**

Ідзе жніво, калосікі малые
Ў зямлю убіты градам і дажджом,
Як цяжка іх сабраць, сагнута сьпіна ные
І льлецца пот, няўпынным ручаём.

А зверху сонца ж-жэ, як бы агнём заўзята
І вецер у бары заснуў і не сапе.
Ды толькі мендлікі надзеяю крылатай
Змягчаюць працу, боль і радуюць цябе.

Азвецясь жнейкі ўсе вы песьняй весялухай,
Хай рэхам адаб’е яе вясковы бор.
Няхай яна дадасць працоўнай раці духа,
І з ім каб занялі жыццёвы увесь прастор!”.

**“Ўжо ўбогая ніўка дажата...”**

Упершыню апублікаваны ў часопісе “Шлях моладзі” (1939, № 15(157), 25 жніўня. С. 4) пад псеўданімам “Н. Жальба”. Пад вершам стаіць дата — 27 ліпеня 1939 года. Гэта быў апошні верш, які апублікаваў да пачатку Другой сусветнай вайны Аляксандр Бяленка.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ Ў ВІЛЕНСКІМ БЕЛАРУСКІМ ДРУКУ

## Вестکі з вёскі.

**М. Дзятлава**, Слонімскага пав.

Астатнімі часамі ў районе нашага мястэчка опэруе нейкая разбойніцкая банда, якая, маючы аружжа, ня толькі бязьлітасна рабуе нашае сялянства, але вельмі часта забівае на сьмерць. Так напрыклад: гэтаю вясною ў вёсцы Клебанавічы забілі амэрыканца з жонкаю, начнога вартаўніка, а другога цяжка зьбіўшы, ўцяклі: 23 лістапада гэтага году ў вёсцы Савіч начною парою бандыты напалі на амэрыканца Тодара Лябёцкага. Зламалі ў хляве замкі, вывялі коней і хацелі ўцякаць. Але прачнуўшыся гаспадар пачаў страляць з рэвольвара. Бандыты ў свой чарод пачалі адстрэліваццa. Гэтую страляніну пачулі паліцыянты з м. Дзятлава і пасьпяшылі ў вёску. Бандыты, ўбачыўшы паліцэйскіх, кінулі коні, а самі ўцяклі.

Падобныя навінкі ў нас здараюцца што тыдзень. Нашае сялянства, перажыўшы ваенныя нягоды, да шчэнту зьбяднеўшы і змогшыся не пасьпела вольна дыхнуць, як новая хваля, хваля бандытызму заліла наш край.

Пасьля кожнага такога налёту паліцыя, шукаючы бандытаў, арыштоувае ні ў чым непавінных сялян, садзіць у каталашку, а бандыты як гулялі, так і гуляюць.

**Н. Ж.**

**Возьмемся за працу!**

(В. Гірычы, Наваградзкага пав.). Вёска наша не малая. На маладых хлапцоў і дзяўчат мы ня бедныя. Таму музыкі і вечарынкі — частае зьявішча Гірычаў. На музыкі і вечарынкі мы нярэдка „раскашэліваемся", марнуючы па залатому, а то і больш. Я ня думаю тут выступаць супроць музыкаў і г. д. Гэта рэч бязумоўна патрэбная: Хоць гаротнае наша жыцьцё, але весяліцца мы мусім. Але вось што я хачу парушыць. Мы атрымліваем усяго адзін экзэмпляр „Бел. Газэты", тае газэты, якая стаіць на варце інтарэсаў беларускіх народных мас і якая каштуе ўсяго 25 грашэй у месяц. Больш таго. Нават гэты адзін экзэмпляр ня ўсе

## Культурная праца сьведамай бел. моладзі на вёсцы

Цяжка цяпер агулам жывецца на вёсцы, але ёсьць усё-ж праявы й пацяшаючыя. Адным з найвялікшых няшчасьцяў у жыцьці сялянскае моладзі зьяўляюцца: п'янства й разбой. Культурныя, больш разьвітыя, сьведамыя адзінкі ў нашай Наваградчыне ўсімі сіламі стараюцца з гэтым злом змагацца, і вынікі гэтага відаць. У тых вёсках, дзе знаходзіцца хоць адзін чалавек аддана душой беларускай ідэі, ніколі на вечарынках, вясельлях ці другіх нагодах ня дойдзе да нажоўніцтва, або мордабойства. Ён адзін, як пружына, утрымлівае лад і парадак сярод сабранай моладзі; апрача вясёлых, мілых гутарак і танцаў, чуваць там сьпевы сэрца-кранаючых беларускіх народных песьняў, а такжа песьняў паэтаў-самародкаў, якія асьвятляюць нашае цёмнае жыцьцё. Некаторыя з гэных паэтаў нават не гасьцілі на бачынах беларускіх часапісаў і нявыяўленыя належна гінуць у народных гушчах і толькі вершы іх паложаныя на пародныя мэлёдыі жывуць і заахвочваюць усіх жыць і змагацца із злыбядамі нашых дзён, із злыбядамі цяжкога беларускага жыцьця. Усім гэным ціхім і бязіменным працаўнікам на беларускай ніве, па цёмных беларускіх закутках, няхай будзе чэсьць і слава!

Наваградчына. *Н. Жальба*

**Пашыраецца сэктанства**

**Дзятлава, Наваградзкага павету.** Сяляне нашае і суседніх воласьцяў ня раз дамагаліся беларускіх школаў для свае моладзі, аднак іх дасюль няма. Вучыцялі далей вучаць толькі папольску. Апрача таго нават і праваслаўнае духавенства пачало навучаць рэлігію дзяцей папольску, ды ўвяло па школах, як абавязковыя, падручнікі Закону Божага ў польскай мове, якое з нашых вясковых беларускіх жыхароў ніхто добра ня знае. Усё гэта зьбівае, як кажуць, з толку селяніна, а ў выніку—пашыраюцца розныя сэкты. Чаму гэтага не бяруць пад увагу духоўныя ўлады?

**Сьлёзнавокі**

**Аб забойстве Антона Беленко.**

(*З Наваградчыны*).

У прошлым нумары „Беларускай Крыніцы" зьмешчана клепсыдра, якой падаецца да ведама шырокіх працоўных масаў аб сьмерці маладога дзяцюка Антона Беленко. Падана так жа, што беспасрэднай прычынай яго сьмерці ёсьць прастрэл нябожчыка камісарам двара Міроўшчына.

JAK NAM ŻYWIECCA.

**Культурная праца замерла.**

*Дзятлава, Наваградзкі пав.* Культурная беларуская праца ў нашай ваколіцы, нажаль, замёрла, не дзеля таго, што няма каму яе праводзіць, а дзеля таго, што настаў няспрыяючы час. З арганізацыяў найбольш пашырана ў нас „Млода Польска", катарая ўсялякімі спосабамі стараецца прыцягваць да сябе сяброў і заклікае людзей да проціўжыдоўскага настаўленьня. Але ўплывы гэтае арганізацыі слабыя.

Жыцьцё сялян шэрае, беспрасьветнае, як шэрыя і абросшыя мохам іхнія ўпаўшыя ў зямлю будынкі. Палажэньне матарыяльнае цяжкае, прытым адчуваецца вялікі недастатак апалу—дроў.

Ня гледзячы на цяжкае палажэньне, дух беларускі ў народзе не замірае і ўсе стойка трымаюцца свайго, верачы, што жыцьцё паправіцца.

*Н. Жальба.*

## DA NAS PIŠUĆ.

**Panskaja samawola. m. Dziatława,** Słonimskaha paw. Dzieła było letaś wiasnoju. Pastuški paświli bydła na lasnoj darozie, kala katoraj było žyta abjazdowaha lesu, pana Hryla. Pastuški cicha paświli biaz nijakaj škody. Jak na licha adna karowa zrazu kinułasia ŭ žyta. Chto jaje wiedaje, ci jana spałochałasia samoha pana abjazdowaha, ci moža jaje ŭkusiŭ awadzień, ale ŭsio-ž karowa była ŭ škodzie. Što było pierad hetym — nia wiedama, tolki strašenny streł drabawika razniośsia pa darozi, dy pačuŭsia ryk karowy siarod cichaje lasnoj darohi. Padniaŭsia strašenny pratest sialan i nat' samoha pana nadlasničaha prociŭ takoj dziejnaści pana Hryla. Sprawa była pieradadziena ŭ sud. Świedki (pastuški) dakazali, što stralaŭ na karowu p. Hryl, jakoha dobra bačyli, što calaŭ u karowu, ale acenščyki nia wiedama z jakoj pryčyny adkazalisia pastawić wartaść karowy paśla jaje paranieńnia u wymja. Paciarpieŭ naš čaławiek dobra, bo astaŭsia biez małaka, — dy jašče zapłaciŭ dobryja hrošy weterynaru za paświedčańnie, za prašeńnie ŭ sud i druhija raschody, a p. Hryl adrabiŭsia tym, što zapłaciŭ niekulki marak u sud i hetym končyłasia sprawa p. Hryla i pakryŭdžanaha.

**Pakryŭdžany.**

**Яшчэ крыху аб Дзятлаўскай царкве.**

(*Наваградчына*).

Справа Дзятлаўскай царквы парушалася ў «Беларускай Крыніцы" ня раз. Шмат пісалася аб тым, як ніводзен настаяцель Дзятлаўскага прыходу сапраўды шчыра ня ўзяўся за належнае вырашэньне справы гэтай царквы. Кожны толькі шмат гаварыў аб царкве, але нічога не рабіў. На шчасьце, апошнім часам узяўся за справу Дзятлаўскай царквы ведамы, як добры пастыр свайго стада, благачынны айцец Камар. Ён шчыра і няўтомна працуе цяпер над тым, каб даць урэшце Дзятлаўскаму прыходу новую вялікую мураваную царкву, у якую маглі-б сабірацца

**Крамы на вёсцы і іхнія ўплывы**

**Дзятлава, Наваградзкі пав.** Апошнімі гадамі, як грыбы пасьля дажджу, растуць па вёсках крамы (склепы). Зьява гэта ў сэнсе эканамічным мае вялікае значэньне і трэба яе вітаць.

Робяць вобыскі у чытачоў беларуск. газэтаў.

(*Пацаўская гміна, Слонімскага павету*).

Карэспандэнцыі А. Бяленкі, апублікаваныя ў міжваенны час

Аляксандр Бяленка дасылаў карэспандэнцыі ў рэдакцыі беларускіх газет і часопісаў у Вільні на працягу 16 гадоў. Пісаў пра жыццё сваёй мясцовасці, пра людзей, іх норавы і праблемы, пра здарэнні, праблемы асветы. Спачатку падпісваў свае допісы псеўданімамі “Н. Жальба” і “Нікіфар Жальба”, пасля з’явіўся “Сьлёзнавокі”, які стаў асноўным у 1930-я гады. Былі таксама крыптанімы “С — кі”, “С.”, “N.”, “З. Н.” і “Н. Ж.”. Часам Бяленка “маскіраваўся”, прыдумляў новыя псеўданімы: “Янка Снапок”, “В. Лебедзь”, “Падкрапіўнік”, “Пакрыўджаны”. З’ яўляліся і іх варыянты, аўтарамі якіх найхутчэй былі рэдакцыі: “Сьлёзнавок”, “Сьлёзавокі”, “Н. Журба”.

1923

***

**Пацаўская гміна,** Слонімскага пав[ету].

У нас нядаўна зьмянілі старога войта і пісара, і беларускія газэты сталі атрымліваацца крыху лепш. Праўда, і цяпер яшчэ ў нашай гміне парадак у выдачы газэтаў дужа дрэнны. Прыходзіць, напр[ыклад], наша газэта, яе адштамплююць і кінуць на вакно, і тут яна церпіць не малы зьдзек з боку цёмных асобаў, якія часта вырываюць цэлыя артыкулы, а то і зусім падпішчык яе не ўгледзіць. Вельмі балюча робіцца на сэрцы, калі дазнаешся, што знаходзяцца гэткія людзі і сярод беларусаў. Я сам бачыў, як солтыс Яварскай Руды забраў з гміны ўсе газэты, нават не паглядзеўшы на іх адрэсы. Такім чынам шмат нумароў прападае, падпішчыкі пазбаўляюцца сваёй роднай газэты, якая зьяўляецца пуцяводнай зоркай у нашым жыцьці.

Дрэнна яшчэ й тое, што шмат хто нават з нашых падпішчыкаў і сталых чытачоў беларускай газэты не навучыліся дагэтуль правільна чытаць па-беларуску, выгаворваючы "т" замест "ц", а "дз" чытаюць разьдзельна "д" і "з". Сорамна, што да гэтага часу ня могуць пазбавіцца ад расейшчыны. Пара ўжо ўмець чытаць сваё друкаванае слова!

**Н. Жальба**

*Вольны сьцяг*, 1923, № 13, 28 верасня. С. 4.*

***

**Пацаўская гміна**, Слонімскага пав[ету]

Сучасныя парадкі ў нашай гміне, якія ляглі ўсім сваім цяжарам на плечы нашага беднага народу, вымагаюць колькі слоў напісаць аб іх. Такіх парадкаў, як кажуць старыя людзі, такога рабунку ніколі ня было. Тыя бязьмерныя падаткі ды даніны, якія мы плацім за паноў і другіх (ды яшчэ, каб і зборшчыку асталося на бутэльку) выціскаюць з нас апошні сок. А тут яшчэ фурманачная гонка. Гэта праўдзівая кара для нашага сялянства. Пры добрых парадках можна было-бы абыйсьціся і без яе.

* "Вольны сьцяг" — беларуская газета, выходзіла ў Вільні тры разы на тыдзень у жніўні-кастрычніку 1923 года. Выйшлі 20 нумароў. Рэдактар-выдавец — вядомы дзяяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Язэп Лагіновіч. Газета была закрытая польскімі ўладамі.

Напрыклад: пану войту з дому да гміны ня болей, як паўвярсты ходу. Гэтую "вялікую" дарогу можна было бы і прайсьці, але на што? Па прыказу прыедзе ці Сымон, ці Янка, ды яшчэ з добрым канём і кур'ерам даставіць пана войта. Чаго ўжо мы не рабілі, каб пазбавіцца гэтае возкі. Памятуючы, што "не падмажаш — не паедзеш", рабілі і гэта, але памагло, як кашаль у хваробе. Цяпер, мусіць "і падмажаш і то скрыпець будзе". Нарэшце войт Канюшкевіч загадаў солтысам сабраць па пяць тысячаў марак з каня. Гэта яшчэ было ў прошлым годзе, калі марка што-небудзь каштавала. Народ абрадаваўся. Думалі, што ўжо спакойна можна будзе працаваць на сваіх шнурках*. Дык дзе там. Праз два тыдні ў вёску Яварская Руда зьявіўся паліцыянт з прыказам да солтыса даць фурманку ў Слонім. Трэба было выпаўніць, бо паліцэйскі бізун, каб не адскочыў солтыс, добра сьцебануў-бы. З таго часу возім і да цяпер. Ці так сама: сабралі па дваццаць тысячаў на будоўлю мосту праз раку Шчару, але ні грошаў, ні мосту і да цяперашняга дня ніхто ня бачыў і не пабачыць мусіць.

**Н. Жальба**

*Вольны сьцяг, 1923, 12 кастрычніка, № 19. С. 4.*

***

**Двор Міроўшчына**, Пацаўскае гм[іны], Слонім[скага] пав[ету]

Эх, жыцьцё ты наша бязьлітаснае, дакуль будзеш зьдзекавацца над намі, нявіннымі ахвярамі жорсткага твайго бытаваньня! Бедны мой беспатольны Беларускі народ. Калі сонца праўды і табе засьвеціць? Калі настануць і для цябе лепшыя дзянёчкі? Няўжо-ж нам прыдзецца загінуць? Не! Ніколі! Хоць кожны дзень нясе нам весткі новых гвалтаў і зьдзекаў, пагражаючых нават поўным зьнiштажаньнем нашага многапакутнага народу, але ў кожнага з нас тлее іскра надзеі ў лепшую будычыну, у лепшы лёс нашае Бацькаўшчыны. А паны сваею працаю гэтую іскрачку разьдзьмухаюць у полымя.

У вёсцы Гірычы, якая абмяжовываецца з дваром абшарніка Яна Стравінскага, 1-га кастрычніка быў гэткі жудасны вы

* На сваіх участках зямлі. Нярэдка селянін меў у розных месцах вузкія палоскі зямлі, адсюль і "шнуркі".

падак. Гэта вёска, як і другія беларускія вёскі, ня мае свае пашы і сэрвітуту, а карыстаецца “панскімі аб’едкамі”, за якія плаціць сваёй крывёй і потам. Сяляне гэтае вёскі яшчэ вясною адрабілі пану сваёю працаю, чым здабылі панскую ласку і права пасьвіць скаціну па скошанай сенажаці. Але, як відаць, пану Стравінскаму не даўпадобы, што мужыцкія каровы ходзяць па панскіх сенажацях. Так, 1-га кастрычніка, калі быў пагодны дзень, ён захацеў палюбавацца на асеньнія малюнкі нашае Бацькаўшчыны. Ходзячы каля лесу, ён убачыў, што дзеці з вёскі Гірыч пасуць тут скаціну. Страшэн[н]ы гнеў раптам апанаваў чулае да злосьці сэрца гэтага пана. Разьяраны, як кат пры сваей агіднай працы, пан Стравінскі дастаў з кішані рэвальвэр і, пагражаючы пастухам, пачаў займаць каровы. Напалоханыя дзеці не хацелі пану дабравольна адступіць сваі пастухоўскія абавязкі і не давалі (асабліва стараўся старэйшы з пастухоў Уладзімер Дармапоз) загнаць скаціны. Пабачыўшы, што адзін ня дасьць рады, ён пачаў па ім страляць. Калі куля зазьвінела каля самага вуха, пастух кінуў каровы і пачаў уцякаць за кусты ў балота. Але разьюшаны пан, страляючы, кінуўся за ім, і каб хлапец не паваліўся за першы куст, то напэўна ня жыў-бы.

Зрабіўшы сваю катаўскую работу, нацешыўшыся, пан спакойна пайшоў да хаты. Ён “выпаўніў свой грамадзянскі абавязак”. Пастушкі не далічылі адной кароўкі. Карова Тодара Мялейкі, вартасьцю ў 12 мільёнаў марак, была застрэлена панам. Вось тут і жыві. Проста, хоць зьбірай манаткі і ўцякай з роднай хаткі, шукаць ратунку.

**Нікіфар Жальба**

*Вольны сьцяг, 1923, 14 кастрычніка, № 20. С. 4.*

***

**Пацаўская гміна**, Слонімскага пав[ету]

Настала цяжкое жыцьцё. Бязьмерная даражыня прымусіла наша сялянства моцна задумацца аб сваім далейшым існаваньні. З усіх бакоў толькі і чуеш, што ці доўга будзе трываць гэткае жыцьцё? І бязумоўна, калі гэтак будзе цягнуцца

далей, калі даражыня будзе расьці так, як расьце цяпер, то нашаму сялянству хоць лажыся жыўцом у зямлю. Жыцьцё куды горай стала нават як у часы вайны. І ня дзіва, бо рэчы першае патрэбы на столькі падаражэлі, што і ні прыступіся да іх. Апэтыту крамнікаў няма меры. На свае тавары накладываюць такія цэны, што аж мурашкі скрабуць па целу. А між тым здабыткі сялянскія цэняцца вельмі танна. Возьмем напрыклад: боты каштуюць 25 ці 30 мільёнаў [польскіх марак], калі гэта перавясьці на жыта, то трэба 35-40 пудоў. Перад вайною-жа боты, нават добрыя, можна было купіць за 10 рублей, на што трэба было-бы 12-13 пудоў жыта. Розьніца вельмі вялікая.

Перад вайною работнік, каб купіць сабе боты, мусіў папрацаваць 20-25 дзён, цяпер жа работнік, які атрымавае ў нас у дзень 200.000 польскіх марак, дзеля таго, каб купіць боты, павінен працаваць бяз малага паўгода. Акрамя ботаў патрэбна-ж і другая адзежына, якая таксама не адстае ў цане ад ботаў. Вось тут і жыві, выкручывайся з сям'ёю, маючы толькі 1 ці 2 дзесяціны зямлі і то ў вузенькіх шнурочках. Жыць-жа лепей кожнаму хочацца. Вось дзеля гэтага наша моладзь і прымушана такім жыцьцем рабіць патайныя пераходы ў Радавыя Рэспублікі*, дзе, як кажуць, варункі жыцьця у шмат разоў лепшыя, як тут.

**Нікіфар Жальба**

*Змаганьне**, 1923, 16 снежня, № 19. С. 4.*

***

**М. Дзятлава**, Слонімскага пав[ету]

Астатнімі часамі ў раёне нашага мястэчка опэруе нейкая разбойніцкая банда, якая, маючы аружжа, ня толькі бязьлітасна рабуе нашае сялянства, але вельмі часта забівае на сьмерць. Так напрыклад: гэтаю вясною ў вёсцы Клебанавічы забілі амэрыканца з жонкаю, начнога вартаўніка, а друго-

* У Савецкі Саюз.

** "Змаганьне" — беларуская газета, выходзіла ў Вільні ў 1923-1924 гг. два разы на тыдзень. Першы нумар выйшаў 28 кастрычніка 1923-га, апошні — 31 студзеня 1924 г. Агулам выйшаў 31 нумар. Рэдактар і выдавец — Мікола Шыла.

га цяжка зьбіўшы, уцяклі. 23 лістапада гэтага году ў вёсцы Савіч[ы] начною парою бандыты напалі на амэрыканца* Тодара Лябёцкага. Зламалі ў хляве замкі, вывялі коней і хацелі ўцякаць. Але прачнуўшыся гаспадар пачаў страляць з рэвальвара. Бандыты ў свой чарод пачалі адстрэліваціца. Гэтую страляніну пачулі паліцыянты з м. Дзятлава і пасьпяшылі ў вёску. Бандыты, убачыўшы паліцэйскіх, кінулі коні, а самі ўцяклі.

Падобныя навінкі ў нас здараюцца што тыдзень. Нашае сялянства, пераўжыўшы ваенныя нягоды, да шчэнту зьбяднеўшы і змогшыся не пасьпела вольна дыхнуць, як новая хваля, хваля бандытызму заліла наш край.

Пасьля кожнага такога налёту паліцыя, шукаючы бандытаў, арыштоўвае ні ў чым непавінных сялян, садзіць у каталашку, а бандыты як гулялі, так і гуляюць.

**Н. Ж.**

*Змаганьне, 1923, 19 снежня, № 20. С. 4.*

1924

***

**Робяць вобыскі у чытачоў беларуск[іх] газэтаў**

(Пацаўская гміна, Слонімскага павету)

Хоць Польская Канстытуцыя і розныя там трактаты і забясьпечваюць права нацыянальных меншасьцяў, аднак на дзеле гэтых правоў мы ня маем, і кожны паліцыянт мае права іх гвалціць**. Наша крэсовая паліцыя заядла змагаецца з беларускім народам ува ўсіх галінах жыцьця. Першым сваім заданьнем яна паставіла зьнішчыць усё тое, што называецца беларускім, а асабліва друкаванае беларускае слова. Так, напр[ыклад], знаючы што выходзяць беларускія газэты, яна шукае тых, па яе словах, “адважных” падпісчыкаў, якія асьмеліліся на “польскіх крэсах” чытаць і пашыраць беларускае друкаванае слова. Гэткім чынам, паліцыя часта робіць вобыскі ў падпісчыкаў і чытачоў нашае сялянскае газэты.

Нядаўна быў зроблены рад вобыскаў у Пацаўскай

* Маецца на ўвазе мясцовы жыхар, які вярнуўся з заробкаў у ЗША.

** Парушаць.

і Дзятлаўскай гмінах, дзе, па словах паліцыі, выпісваецца шмат беларускіх газэт. Няўжо-ж закон дазваляе рабіць вобыскі ў падпішчыкаў легальных газэт, за тое толькі, што яны беларускія? А калі такога закону няма, дык чаму-ж вышэйшая ўлада дэмакратычнай Польскай Рэспублікі, канстытуцыя якой гарантуе ўсім аднолькавую свабоду, не пацягне да адказнасьці тых паліцыянтаў, якія парушаюць яе закон? А можа законы пішуцца толькі так... для заграніцы?..

**Н. Журба**

*Голас Беларуса*, 1924, 6 красавіка, № 17. С. 4.*

***

**Панская самаволя**

**м. Дзятлава**, Слонімскага пав[ету]. Дзела было летась вясною. Пастушкі пасьвілі быдла на лясной дарозе, каля каторай было жыта аб'ездовага лесу, пана Грыля. Пастушкі ціха пасьвілі бяз ніякай шкоды. Як на ліха адна карова зразу кінулася ў жыта. Хто яе ведае, ці яна спалохалася самога пана аб'яздовага, ці можа яе ўкусіў авадзень, але ўсё-ж карова была ў шкодзе. Што было перад гэтым — ня ведама, толькі страшэнны стрэл драбавіка разнёсься па дарозі, ды пачуўся рык каровы сярод ціхае лясной дарогі. Падняўся страшэнны пратэст сялян і нат' самога пана надлясьнічага проціў такой дзейнасьці пана Грыля. Справа была перададзена ў суд. Сьведкі (пастушкі) даказалі, што страляў на карову п. Грыль, якога добра бачылі, што цаляў у карову, але ацэншчыкі ня ведама з якой прычыны адказаліся паставіць вартасьць каровы пасьля яе параненьня ў вымя. Пацярпеў наш чалавек добра, бо астаўся без малака — ды яшчэ заплаціў добрыя грошы вэтэрынару за пасьведчаньне, за прашэньне ў суд і другія расходы, а п. Грыль адрабіўся тым, што заплаціў некулькі марак у суд і гэтым кончылася справа п. Грыля і пакрыўджанага.

**Пакрыўджаны**

* "Голас Беларуса" — беларуская газета, выдавалася ў Вільні два разы на тыдзень. Першы нумар выйшаў 14 лютага 1924-га, апошні — 19 красавіка 1924 года. Агулам выйшаў 21 нумар. Рэдактар-выдавец Мікола Шыла.

*Kryniсa, 1924, 22 жніўня, № 22. С. 4. У арыгінале карэспандэнцыя надрукаваная на беларускай лацінцы.*

***

**Іншыя часы насталі**

**м. Дзятлава**, Слонімскага пав[ету]. Цяпер неяк усё інакш. Даўней ня так было. Бывала калі зладзеі кралі каня, то лезьлі з ломам, з сякерай у стайню, выламывалі дзьверы і вывадзілі каня. Цяпер гэты спосаб, відаць, як стары і нягодны, закінулі, а ўзяліся за больш "шляхотны". Цяпер так робяць: падпільнуюць селяніна, калі ён едзе на поле, з поля, на торг, ці з торгу і далікатна просяць яго вылезьці з возу, а калі гэты ўпіраецца, то па "мордзе" кулаком, а самі на каня і ўсё скончана.

І вось гэтакія выпадкі "шляхотнага" зладзейства здараюцца так часта, што перасталі быць навіной на вёсцы.

Такіх выпадкаў у нашай гміне, як як ведаю, было некулькі.

А ўся бяда, па моему, у тым, што ў паліцыю не бяруць нашых людзей, а паліцыя чужая нічога нvarta.

**З. Н.**

*Kryniсa, 1924, 22 верасня, № 25. С. 3. У арыгінале карэспандэнцыя надрукаваная на беларускай лацінцы.*

1925

***

**Голас беднаты**

(Гміна Пацаўская, Слонімскага пав[ету])

Бязьмерна цяжкае жыцьцё пры сучасных варунках дае адчуваць сябе на кожным кроку. Зьдзекі перайшлі ўсякую граніцу чалавечага разуменьня. Найбольшую крыўду церпіць той бядак, якому судзіла злая доля-мачыха быць згнаньнікам на роднай зямельцы і цярпець усе зьдзекі, якія чыняць яму "сільныя сьвету сяго".

Ніякая нашая добрая воля не паможаць нам здабыць

сабе тыя правы, якія гарантуе нам польская Канстытуцыя. Прыходзіцца з дня на дзень чакаць нейкае панскае ласкі, якую ўмеюць яшчэ і цяпер абяцаць нашыя добрыя "паночкі".

Між іншым, напішу тут для ведама нашых чытачоў і грамадзянства, якую нядолю церпіць той бяздомны батрак ці селянін, які мае адну дзесяціну ці ½ дзесяціны ўбогай зямліцы, ды як ён павінен жыць з малымі дзеткамі, тагды, калі ад яго адняты той заробак, якім ён карыстаўся яшчэ ў царскія часы.

Гэтым хачу сказаць пра нашыя двары, якія ў час гэты замкнуліся ад нашага беднага батрака, ды сілаю хочуць загнаць яго працаваць у гэтым двары адно за хлеб, на які наш бядак столькі гаруе. Напрыклад, двор Міроўшчына ў Пацаўскай гміне — гэта адзін з тых вялікіх двароў, які яшчэ ў леташнім годзе даваў заробак гэтым няшчасным згнаньнікам. Цяпер-жа гаспадар гэтага двара, пан Стравінскі, настолькі "паразумнеў", што хоча прымусіць такіх бедакоў ісьці працаваць яму ад цямна да цямна за адзін злоты, гэта значыць: за пуд жыта трэба рабіць пяць дзён, а на абутак і адзетак няма!.. Працуй хоць голы, калі хочаш есьці. Ён нават не баіцца, што ў яго ня знойдзецца такіх работнікаў, якія зрабілі-б байкот на яго працу. Гаворачы з сваім упраўляючым, ён кажа: "kiedy nie chcą iść za jeden złoty, niech siedzą głodni na piecu, to nie będą mieli i tego"*.

Вось, якімі дарогамі хочуць прымусіць бедака працаваць на панскую роскаш.

**Сьлёзнавокі**

*Беларуская доля**, 1925, 28 лютага, № 16. С. 6.*

***

**Перавыбары солтысаў**

(Пацаўская гміна, Слонімскага пав[ету])

У вёсках Руда-Яворская, Гірычы, Накрышкі грамады выбралі

* "Калі не хочуць ісці за адзін злоты, няхай сядзяць галодныя на печы, бо не будуць мець і гэтага" (пол.).

** "Беларуская доля" — віленская газета, выходзіла тры разы на тыдзень. Выдавалася ў студзені-траўні 1925 года. Рэдактар-выдавец Антон Пракапеня.

новых солтысаў: Руды-Яворскай — Мікалай Сьвятліцкі, Гірычы — Язэп Латушка, Накрышкі — Сымон Канюшкевіч. Грамады выбралі сабе лепшых людзей. Але Слонімскі староста не зацьвярдзіў новых, а заставіў ранейшых, якіх грамады не хацелі, каб яны былі солтысамі, як варожых да інтарэсаў сваей люднасьці. Так прыкладам: у в. Гірычы солтыс Чыгір страшэнна лаяў і бэсьціў беларускую школу, якой сяляне ўсімі сіламі дамагаюцца; у в. Накрышкі солтыс Іван Рымашэўскі агітаваў проці адкрыцьця беларускай школы наагул і баламуціў люднасьць, каб не складалі дэклярацыяў, баючыся, мусіць, каб яго брат не застаўся без пасады, бо цяпер служыць у польскай школе.

**N.**

*Беларуская доля, 1925, 9 красавіка, № 24. С. 5.*

***

**Безнадзейнае палажэньне**

(Пацаўская гміна, Слонімскага пав[ету])

Што каму баліць, той аб тым і крычыць, гэтак заўсёды кажа наш народ і гэта чыстая праўда. Так і я, хоць ня першы гэта ўжо раз, аднак, мушу выказаць свае болькі, выліць сваю роспач, каб, як кажуць, было спакайней на сэрцы.

Колькі разоў прыходзілася адзначаць на шпальтах* беларускіх газэт аб цяжкім палажэньні беззямельнага сялянства на абшарах Польскае Рэчыпаспалітае. Ніхто нават з старых людзей не памятае такога цяжкага палажэньня, якое цяпер усякі пераживае. Апошнія два гады (1924-[192]5) — гэта будуць сьведкі сучаснага ліхалецьця.

Можна сабе прадставіць горкае жыцьцё беззямельнага і малазямельнага ў гэтыя часы, калі панскі двор адгарадзіўся ад беларускага мужыка, як-бы калючым дротам. Селянін наш, заўсёды гэтак патрабуючы заробку, астаўся цяпер без таго мізэрнага заробку, якім карыстаўся ў даваенныя часы. Цяпер-жа на месца беларускага работніка-парабка, які бяз сумліву працаваў і працаваў-бы цяпер, пан Ян Стравінскі з м[аёнтка] Міроўшчыны,

---

* Тут — на старонках. Шпальта — ад нямецкага Spalte — паліграфічны тэрмін, які ў мінулым абазначаў скампанаваную частку наборнай формы старонкі газеты, часопіса ці кнігі.

ня хочучы больш мець нічога супольнага з гэтымі "хамамі", на

вёз з "królewstwa" сабе работнікаў-парабкаў, якія выпаўняюць усю дворную і палявую работу. А ты, бедны працаўнік, хоць паліваў потам і крывёю гэтыя панскія абшары ў часы паншчыны, хоць спазнаў смак панскага бізуна, цяпер мусіш сядзець галодны з малымі дзеткамі і чакаць лепшых дзён на краю магілы.

**Н. Жальба**

*Жыцьцё вёскі*, аднаднёўка, 1925, 15 ліпеня. С. 4.*

***

**Нарабіў шуму**

**Дзятлава**, Слонімскага пав[ету]. У нумары 28-м "Крыніцы" была надрукавана корэспондэнцыя з вёскі Шадзюн, гм. Дзявеніскай, Ашмянскага пав[ету] аб дзявочай дурнаце, у якой нейкі "Скакун" выліў усю шчырасьць свайго розуму. Мушу з свайго боку адзначыць тое, што ў нашым раёне аб гэнай корэспандэнцыі доўга не маглі супакоіцца мяйсцовыя злыдні, праціўнікі беларускага руху. Доўга прыходзілася чуць: "Мужыцкая газэта нічога добрага ня піша, брыдка нават выпісваць і чытаць беларускія газэты. Гэныя "хамы" прывыклі пісаць такія "хамскія рэчы", на што-ж было аб гэтым пісаць?"

Паважаныя карэспандэнты! З свайго боку прасіў-бы надалей пісаць аб чым паважнейшым дзеля таго, што беларускі народ у апошнія часы перажывае шмат цікавейшыя праявы з жыцьця.

**Н. Жальба**

*Biełaruskaja krynica, 1925, 20 верасня, № 1. С. 6. У арыгінале карэспандэнцыя надрукаваная на беларускай лацінцы.*

1926

**Рэлігійнае жыцьцё**

(М-ка Дзятлава, Слонімскага павету)

Ад канца вайны настаяцелем праваслаўнае царквы тут

* "Жыцьцё вёскі" — аднадзёнка. Была выдадзена ў Вільні 15 ліпеня 1925 года. Выдавец — Барыс Леванчук.

зьяўляецца сьвяшчэньнік а[й]цец Камар. Трэба сказаць праўду, гэты сьвяшчэньнік з добраю чулай душою, — на ўсе царкоўныя трэбы адзываецца палюдзку, так, што бяднейшаму селяніну ўсё-такі даступна згаварыцца з ім у цане. Ня маючы ў сабе тае вялікае панскае фанабэрыі, якую маюць амаль што ня ўсе папы, ён заслужыў у сваіх прыхаджан пашану, як добры пастыр.

Аж нешта ў канцы 1925 г. давялося пачуць ад яго папраўдзе нешта новае. Іншыя гаварылі, што ён захварэў цяжка на так званую "панскую хваробу", якая здаўна зьвіла сабе ў нашым краю вялікае гняздо. Пад яе цяжарам на Каляды ён у сваёй прамове парасейску пачаў злосна крытыкаваць беларускіх дзеячоў, называючы іх працу няўдалай выдумкай, якая нічога ня варта, дзеля таго, што знаходзіцца ў апазіцыі да польскай дзяржаўнасьці. "У беларускай прэсе, — гаварыў ён, — заўсёды чуеш нараканьні на тое, што Урад накладае на нас непамерныя падаткі. Падаткі мы павінны плаціць ахвотна, хоць самыя найвялікшыя, бо і сам наш вучыцель Хрыстос, жывучы на зямлі, плаціў іх".

Забыўся "добры пастыр", што многа такіх людзей, якія павінны прадаць апошнюю кароўку, каб быць свабодным ад іх!

За гэтыя і ім падобныя выступленьні ў расейскай мове, якая абрыдла сялянам горш печанай рэдзькі, яго ўсе дужа ня ўзьлюбілі. Але, вось на Новы Год па ст. ст. узрадаваў усіх быўшых у царкве яго малодшы брат, які хутка будзе сьвяшчэньнікам, сваей беларускай прамовай. З якім зацікаўленьнем была праслухана яна людзьмі, на гэта ня хопіць слоў апісаць. Усе, хто выходзіў з царквы, калі адбываліся казаньні ў расейскай мове, якую вясковыя сяляне не разумеюць, цяпер проста душылі адзін другога, каб праціснуцца і пачуць родныя словы, якія гэтак міла гучэлі ў царкоўным будынку, напаўняючы сэрца незямною радасьцяй. Былі кабеты, што проста плакалі з радасьці, чуючы роднае слова, якое для іх было зразумела і міла для слуху.

**Н. Жальба**

*Беларуская ніва*[*]*, 1926, 27 студзеня, № 7 (20). С. 4.*

* "Беларуская ніва" — газета, выходзіла ў Вільні ў 1925-1926 гадах тры разы на тыдзень. Першы нумар выйшаў 18 лістапада 1925 г., а апошні (35-ы) нумар — 16 сакавіка 1926 года. Рэдактар-выдавец Ян Марцінеўскі.

***

**Вясковая хроніка**

(Гміна Пацаўская)

Апошнімі часамі ў нас дзеюцца дужа цікавыя рэчы. Так, напр[ыклад], у вёсцы Лудзіч[ы] Пётр Верабей хацеў утапіць сваю жонку. У той час, як яна брала ваду, ён, падкраўшыся, за ногі перакінуў яе ў студню. З прычыны таго, што вады было мала, яе адратавалі набегшыя суседзі, а ён ад страху перад карай павесіўся.

У вёсцы Савіч[ы], напіўшыся, хлопцы завяліся біцца. Бойка вялася на ваенны лад, дык адзін ужо ў зямлі, другі няведама ці вылячыцца, трэйці-ж на ўрадавым хлебе* ў Слоніме.

У сяле Вензавец на калядныя сьвяты забіты куляй Казімер Бомбэр; вінаватых покуль-што не знайшлі.

У вёсцы Аляксандравічы за падаткі войт Пацаўскае гм[іны] з паліцыяй уначы забралі ў аднаго чалавека чатыры капы жыта, у другога — карову, у трэйцяга — сячкарню і г. д. Вось дык прыйшоў час!

**Н. Ж.**

*Беларуская ніва, 1926, 27 студзеня, № 7 (20). С. 4.*

***

**Астатні кажух на падаткі**

**Гм. Пацоўская**, Слонімскага пав[ету]. Адно, што найгорай трывожа наша сялянства — гэта зьбіраньне розных падаткаў бяз меры і ліку. Проста наш бедны народ дзівіцца, як гэта можа быць: у спакойны час такія вялікія на ўсё налогі, што проста немагчыма выплаціць. Як ты не старайся, а ўсё астаешся вінаватым касе скарбовай, ды яшчэ што тыдня плаціш па пяць грошай кары. Па праўдзе кажучы, дык цяперашнія часы куды цяжэйшыя, як былі вайною, у час якое розныя чыноўнікі казалі: “na to wojna”. Цяпер-жа ня ссылаючыся ні на што, кожын месяц, то ўлада гмінная, то розныя сэквэстратары шлюць “nakazy płatnicze”** з простым словам “давай”. А не дасі ў пару, то на гэта ёсьць паліцыя і сэквэстратары, якія возьмуць з цябе астатні кажух.

* У турме.

** Плацёжныя даручэнні (пол.).

Так напр[ыклад] у вёсцы Гірыч[ы] быў гэткі выпадак. Вёска гэта гранічыць з аднаго боку з зямлёю пана Стравэнскага [Стравінскага], з другога — з казённым лесам Трайгоўшчынай, у які сяляне гэтай вёскі, выняўшы білеты, гоняць скаціну.

Здавалася, што тут не павінна быць нічога дрэннага, аднак выйшла інакш. Вечарам, месяца кастрычніка, у вёску зьявіўся сэквэстратар*, прывёзшы кожнаму селяніну штраф па 2 злоты ад кожнай штукі. Было ўжо позна — гадзін каля дзесяці, так што сяляне многія ўжо спалі. Гэта не перашкодзіла пану сэквэстратару нарабіць спалоху на ўсю вёску.

К сьпеху сяляне не маглі ўсе сабрацца ў солтыса, дзе часова прыпыніўся сэквэстратар. З пенай на вуснах сэквэстратар пайшоў сам з паліцэйскім па хатах, дзе з грубаю лаянкаю спагнаў штраф. У селяніна К. Б., у якога хатка была на самым краю вёскі, пры тым ён нічога ня ведаў ды ўжо смачна спаў пасьля цяжкае працы, ён як гром уляцеў у хату, перапалохаўшы дзяцей, забраў з плеч апошні кажушок, бо болей ня было што ўзяць і паехаў сабе, як пасьля звычайнага візыту ў свайго прыяцеля. Вось тут і жыві, як хочаш!

**Сьлёзнавокі**

*Biełaruskaja krynica, 1926, 7 лютага, № 5. С. 4. У арыгінале карэспандэнцыя надрукаваная на беларускай лацінцы.*

***

**Балючыя справы**

**гм. Пацоўская**, Слонімскага пав[ету]. Балей як год прайшло з таго часу, калі Сойм ухваліў для нас языковыя законы, па якіх беларусы мелі быць поўнапраўнымі гаспадарамі Польскай Рэчыпаспалітай. І вось год прайшло непамернае працы нашага грамадзянства над дапасаваньнем гэтых законаў да нашых патрэбаў і ўсе нашы высілкі засталіся разбіты аб супольны эндэцкі фронт. Перш, як усім вядома, пачалася праца над здабыцьцём свае беларускае школы, якую ўраз-жа ўлада зьліквідавала, арыштаваўшы ўсіх народных працаўнікоў і пась-

* Зборшчык падаткаў.

ля арышту ўзяўшы пад зоркае вока паліцыі. Так яшчэ ў нас у Дзятлаве мае адбыцца суд над Данільчыкам з вёскі Вензавец і Стэцкім з Хвіневіч. Данільчык прасядзеў месяц арыштаваным у Слоніме, пасьля да суда пусьцілі пад надзор паліцыі. Гэтак засталіся зліквідаваны беларускія школы і цяпер няведама, ці будуць беларусы мець дзесятак другі родных школ, ці не. Ясна адно, што нашы балючыя справы ніхто не залечыць і нашы праўныя дамаганьні застаюцца "голасам гукаючага ў пустыні".

**Сьлёзнавокі**

*Biełaruskaja krynica, 1926, 21 сакавіка, № 10. С. 5. У арыгінале карэспандэнцыя надрукаваная на беларускай лацінцы.*

***

**Ні ўзад, ні ўперад**

**Дзятлаўская гм[на]**, Слонімскага пав[ету]. Немагчыма апісаць таго бязвыхаднага палажэньня, у якім апынуўся ў гэты час бедны вясковец-беларус.

Як не цяжкі быў стары лад цара Мікалая, аднак у параўнаньні з сучасным жыцьцём у той час было шмат лягчэй пражыць з сваей сямейкай. Гэта дзеля таго, што за царскіх часаў тыя, каму трудна было пражыці на вёсцы, адпраўляліся ў гарады, дзе можна было лёгка пражыць і прыслаць лішні грош на помач астаўшымся дома. Цяпер-жа ў расейскія гарады ехаць не дазваляюць, а ў польскіх нечага і сваім рабіць. Так і душацца бедныя сяляне на поўгалодныя і часта даведзеныя да апошняга, кідаюцца на розныя авантуры.

**Сьлёзнавокі**

*Biełaruskaja krynica, 1926, 18 ліпеня, № 23. С. 6. У арыгінале карэспандэнцыя надрукаваная на беларускай лацінцы.*

1929

## Цяжкое жыцьцё сялян

**в. Трухановічы**, Наваградзкага пав[ету]. З нашай вёскай граічыцца двор Міроўшчына. Як лёгка жыць у суседзтве сялянам з дворам, хіба-ж кожны беларус ведае. Такое-ж самае суседзкае сужыцьцё маюць і нашы вяскоўцы з гэтым дворам.

Ведама кожнаму селяніну, што жывучы ў суседзтве бывае, што ў незнарок зробіць адзін другому якуюсь шкоду. Ці конь бывае сарвецца і ўлезе ў суседні авёс, або карова адлучыўшыся ад стада забярэцца ў збож[ж]а, ці што іншае здарыцца, але селянін з селянінам гэтыя справы заўсёды пачынае і канчае па суседзку — міралюбна. А з дваром, дык ужо інакш. Хоць гэты двор і стырчыць тутжа пад бокам вёскі, як якая скула, але да суседзтва з вёскай не прызнаецца. У дварэ жыве пан, які з сваімі суседзямі-вяскоўцамі ня хоча нават спатыкацца.

Двор Міроўшчына цяпер адгарадзіўся ад вёсак ровам, і гэты панскі роў ужо даўся нам адчуць. Сьпярша, калі ў незнарок узбяжыць вясковая скаціна на панскі папар ці што іншае — плацілі або адраблялі толькі за скаціну, а цяпер дык трэба і за панскі роў, бо кажа “засыпалі канаву”.

Вельмі кепска, што гэтыя паны ды надта-ж распанеўшы. Каб пан сам усе гаспадарскія справы пачынаў і канчаў, дык можа на палавіну і было-б лягчэй, але ведама пан, дык па панску і гаспадарыць. У яго вядуць гаспадарку паўпанкі і ўсялякія панскія падлізы, прыкладам як наш Мацей, дык з імі ніяк не згаворышся, яны за кожнае глупства знаюць адно суд. А за гэтакія глупствы, як за папар або што іншае, дык надаела ня толькі адрабляць у дварэ або плаціць штрафы, але і ў суд цягацца.

Калі гэта ўжо кончацца такія адносіны двара да вёскі? Мне здаецца, што гэта будзе датуль, пакуль ня будзе праведзена належна рэформа рольная*.

**Сьлёзнавокі**

*Biełaruskaja krynica, 1929, 24 лістапада, № 33. С. 3. У арыгінале карэспандэнцыя надрукаваная на беларускай лацінцы.*

* Сельскагаспадарчая, зямельная рэформа.

## Сумна і стыдна

**м. Дзятлава**, Наваградзкага пав[ету]. Наша мястэчка за выняткам некалькіх урадоўцаў, прыехаўшых сюды з Польшчы і некалькіх сем’яў жыдоўскіх — чыста беларускае. Але пра працу нашых беларусаў сказаць няма чаго.

Да 1926 г. тут ішла барацьба полёнофільскай “Прасьветы” з “Грамадой”. Разгрamілі “Грамаду”, прапала і “Прасьвета”. Як адна арганізацыя, так і другая па сабе нацыянальную сьведамасьць пакінулі вельмі слабую. Ёсьць некалька асоб узгадаваных у чыста народніцкім беларускім нацыянальным духу, але мала. Карыстаючыся гэтай адсутнасьцяй сьведамых нацыянальна дзейных працаўнікоў на ніве беларускага адраджэньня, польскія арганізацыі пашыраюць сваю дзейнасьць сярод нашай моладзі з мэтай яе апалячаньня. У гэтых польскіх арганізацыях заўзята працуюць пераважна польскія вучыцялі. Арганізацыі гэтыя маюць назоў “Коло Млодзежы Польскай”.

Дарагая Моладзь беларуская! З сумам глядзяць на вашу дзейнасьць і бяздзейнасьць старэйшыя. Крыўдна і сэрца баліць, што Вы, беларускія дзеці, і робіце для беларускага народу шкоду. Вы за часовае самазадавальненьне выракаецеся свайго роднага — звычаяў і традыцыяў сваіх дзядоў, бацькоў і прадзедаў, выракаецеся свайго народу і самых сябе. Сумна і стыдна.

Дарагая моладзь! Апамятайся і зарганізуйся ў сваю беларускую арганізацыю, прыкладам Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, ладзь свае беларускія прадстаўленьні, чытай беларускія кніжкі і газэты, выпішы часопісь для беларускай моладзі “Шлях Моладзі” і працуй на пацеху сваіх бацькоў і карысьць бацькаўшчыны.

**Сьлёзнавокі**

*Беларуская крыніца, 1930, 20 сакавіка, № 12. С. 4.*

**Крыху аб нашым жыцьці**

**Дзятлаўская гм[іна]**, Наваградзкага пав[ету]. Добрага каля нас нічога, а благога на кожным кроку. Найбольш даецца пазнаць сябе, дык гэта паліцыя. Што праўда, то мяняецца яна часта. Нядаўна гэтая найбольш густа разселенае начальства ў нас зьмянілася. Каб-жа на лепшае, але то анічуць. Новае начальства і новае знакомства. Сабака не навязаны — пратакол, сьвіньня на вуліцы вырыла яму, ясна — пратакол, падворка дзяўчынка не падмяла — пратакол, каня забыўся выжджаючы ў лес закелзаць, так-жа пратакол і пашла гісторыя нашага вяскоўца ў староства. Там, прачытаўшы, пішуць штраф. Селянін скрабе патыліцу і думае, скуль узяць грошы і як начальству дагадзіць. Акрамя гэтага яшчэ падаткі і свая ўласная бяда проста бяруць за горла і ціснуць у зямлю.

Можа дзе і лепш жывецца селяніну, але ў нас, дык вось так.

**Сьлёзнавокі**

*Беларуская крыніца, 1930, 20 ліпеня, № 23. С. 4.*

**За растрату солтыса адказываюць тыя, што выбіралі яго**

**в. Гірычы**, Наваградзкага пав[ету]. Нашы сяляне, як прыдуць якія-небудзь выбары, дык кажуць заўсёды "няхай сабе". Гэтак "няхай сабе" выбралі і солтыса. Гэты солтыс не казаў "няхай", а рабіў па свойму, як ведаў. Сьпярша і скінуць яго трудна было, але пасьля і сам зваліўся. Захварэў на "дэфраўдацыю"*. Цяпер апісалі ў яго ўсю гаспадарку, а сяляне мусяць плаціць другі раз падаткі, бо солтысава дэфраўдацыя падаткі зьела.

Дык няхай гэта будзе навукай нашым сялянам, што кожныя выбары трэба разглядаць паважна.

**С.**

*Беларуская крыніца, 1930, 20 ліпеня, № 23. С. 4.*

* Злоўжыванне.

1931

## Самаўрад ня можа быць самаволяй

**Гірычы**, Наваградзкага пав[ету]. Добры самаўрад — гэта лад, парадак і найлепшы дзейнік узгадаваўчы ў грамадзкасьці. Адна бяда, што ў нас з самаўраду робяць нейкую качаргу толькі дзеля выграбаньня падаткаў. Апрача гэтага самаўрад наш цалком залежны, адносна пэрсанальнага складу, ад адміністрацыйнага старасты.

Дзеля таго, што войт і солтысы падлягаюць пасьля выбараў яшчэ зацьверджаньню старасты, ня раз бывае, што голас выбаршчыкаў гмінных [для] самаўрадавых чыноўнікаў нічога ня значыць. З гэтае прычыны, гмінныя самаўрадавыя чыноўнікі часта бываюць чыста адміністрацыйнага характару і нічуць ня рожняцца ад паліцыі. Такія самаўрадаўцы, маючы паддзержку толькі з боку адміністрацыйнай улады і маючы прад сабою апазыцыйна настроены да сябе народ, выконываюць свае самаўрадавыя чыннасьці.

Дзякуючы такім адносінам часта мы сустракаемся з рознага роду пахібамі ў нашых самаўрадах. Прыкладам можа служыць факт спадчыны па солтысу нашай вёскі, які быў солтысам, маючы прад сабою апазыцыйна настроеную да яго асобы грамаду. Вынік гэтага змаганьня ўсяе грамады з асобаю солтыса быў несамавітым.

Дык трэба напраўляць наш самаўрад, каб ня быў ён самаволяй.

**Сьлёзнавокі**

*Беларуская крыніца, 1931, 13 сакавіка, № 10. С. 3-4.*

## Вясковая хроніка

**Здзеньцёл**[*], Наваградзкага пав[ету]. У вёсцы Трухановічы, Здзеньцёлскай гм[іны] месяц таму малатарня паламала 12-гадоваму хлапцу абедзьве нагі, які ў страшэнных муках памёр.

У в. Погіры, той-жа гм[іны], на каталіцкія запусты[**] ў

* Дзятлава.

** Масленіца.

выніку нялюдзкай забаўкі моладзі, якая апіваецца гарэлкай да няпрытомнасьці, зарэзаны нажамі 25-гадовы кавалер.

У в. Вянскі, тае-ж гм[іны], на запусты быў у ночы пажар. Аднае гаспадаркі згарэлі ўсе будынкі, збожжа і жывёла.

Трэба ў нашай гміне пачаць культурна-прасьветную працу. Тады будзе менш зла.

**С.**

*Беларуская крыніца, 1931, 13 сакавіка, № 10. С. 4.*

**Нядобрае суседзтва**

**Міроўшчына**, Наваградзкага пав[ету]. Нашага двара зямля граічыцца з многімі вёскамі. Суседзтва гэнае з панскім дваром сялянам вельмі прыкрае. За найменшую "шкоду" на дворным полі сяляне мусяць тлумачыцца перад судом. А цяпер дык двор забраў у "плен" і вясковую сенажаць, да якой трэба даяжджаць праз дворны лес. Пан Стравінскі забараніў нават і пехатой каня вясьці на гэную сенажаць лясной сьцежкай, якая вядзе на луг праз дворны лес. Другой-жа дарогі на гэтую сенажаць, па якой можна было-б даехаць або пераганяць жывёліну, няма. Дык цяпер гэты вясковы луг апынуўся ў "плене" дворнага лесу. Блага людзі робяць, выкарыстоўваючы права на шкоду другіх, забываючыся, што справядлівасьць усюды дамагаецца любові бліжняга.

**Цяжкая вясна**

Гора ў нашых вёсках і толькі. Зямлі мала, заработкаў няма, а жыць трэба. Скупаваты ўраджай мінулага году пасьля доўгай і марозьлівай зімы вельмі цяжкай зрабіў сёлетнюю вясну. У многіх не хапіла нават насеньня на пасеў веснавы, а купіць няма за што, бо няма дзе зарабіць. Вот і рабі што хочаш. А да гэтага сэквэстратары не даюць забывацца селяніну, што і падаткі трэба плаціць, якія ў нас, як на нашы сялянскія гаспадаркі, за вялікія. Калі ня будзе ў скорай будучыне справядлівай рэформы рольнай, дык на нашай вёсцы зусім спролетарызуецца сялянства. А гэта будзе на руку камуністым.

**Сьлёзнавокі**

*Беларуская крыніца, 1931, 18 чэрвеня, № 21. С. 3.*

1932

## Сучаснае жыцьцё

**Наваградчына**. Сучасны эканамічны крызыс найбольш хіба адчуваецца ў нашай Наваградчыне.

Заработкаў у нас няма цяпер ніякіх. У крамах усё дорага. Сяляне прадаваць ня маюць чаго, а купляць усё трэба. Трэба селяніну нашаму купляць нават і хлеб, бо леташні ўраджай не забясьпечыў сялянскіх сем'яў неабходнымі прадуктамі. Трэба было нават дакупляць сялянам і корм для жывёлы, бо леташнія дажджы не далі сабраць з поля ані пошару, ані сена. Усё трэба было купляць, а грошай у селяніна і прад зязюлькай няма "пахваліцца". Мусіў ратавацца наш селянін саматугам. Пазьдзіраў стрэхі і сяк-так дакарміў скаціну да травы. Самому з дзяцьмі, як Бог даў — дзень пад'еўшы, два — ня еўшы, а тры — так. Цяпер дык ужо сяк-так жывецца, бо ёсьць трава і для скаціны, і для людзей. Гумны і іншыя будынкі стаяць цяпер з голымі рэбрамі — з абдзёртай страхой. Людзі сумныя і слабыя да працы. Весялейшыя твары спаткаеш толькі ў мястэчках — у гміне ды на пастарунку. Сэквэстратары з вёскі выходзяць толькі на ноч, цэлымі днямі апісваюць сялян за падаткі. Сяляне на апісваньне сэквэстратарамі знойдзенай маёмасьці глядзяць апатычна, пасьмяхаючыся, што на другі раз ужо ня будзе сэквэстратару чаго апісываць.

**Сьлёзнавокі**

*Biełaruskaja krynica, 1932, 20 чэрвеня, № 25. С. 4. У арыгінале карэспандэнцыя надрукаваная на беларускай лацінцы.*

***

## "Суседзкія" адносіны двара

**Мíроўшчына**, Наваградзкага пав[ету]. Аб адносінах двара да суседніх вёсак ужо пісалася ў "Б[еларускай] Крыніцы" ня раз, але трэба пісаць і больш. Як толькі прыгрэе сонейка і

мацi зямелька пакрыецца зеляняй, двор зараз-жа натапурываецца i пачынаюцца сваркi мiж дворам i акалiчнымi вёскамi.

Гэтак было мiнулае лета, гэтак пачалося i сёлета. Не пасьпелi сяляне выгнаць скацiны з хлява ў поле, а ўжо калатня двора з вёскамi i пачалася. Ведама, сялянскiя нiўкi вузенькiя, бо дворныя палеткi шырокiя, дык нiяк сялянская карова не ўсьцеражэцца, каб ня ўзыйсьцi на дворнае поле, або сенажаць. А карова, ведама, жывёла, яна не разумее таго, што дворны пан гэта ня наш брат-селянiн, з якiм можна ўсяляк гаварыць, дык яна туды i лезе, дзе больш зялёна. Ведае аб гэтым i дворны пан i дзеля гэтага наняў ён адумыснага дворнага чыноўнiка, якi толькi тое i робiць, што запiсвае, колькi разоў узышла сялянская карова на панскi луг, або папар*.

Гэтыя запiсы разглядае сам дворны пан, а пастанова панская заўсёды аднолькавая: або згаджайся селянiн на “прысуд” пана адрабiць некалькi дзён у дварэ за нахальства своей каровы, або йдзi ў суд за самавольную “пашу” на дворнай зямлi. Селянiн наш, як ведама, каб мець менш цяганiны, згаджаецца заўсёды на [п]анскую “ласку”.

**Сьлёзнавокi**

*Беларуская крынiца, 1932, 29 чэрвеня, № 26. С. 4.*

***

**Як нам жывецца**

**Трухановiчы**, Наваградзкага пав[ету]. Бяда цiсьне працоўны люд ня толькi ў местах**, але i на вёсцы. Вузенькiя церазпалосiцы дробных сялянскiх гаспадарак, як кажуць, хлеба не даюць i жабраваць ня пушчаюць. А гэтакiх гаспадароў у нас вялiзарная большасьць. Гэтая часьць насельнiцтва жыве недаядаючы, бо каб есьцi да сыта, дык найлепшага ўраджаю з такой гаспадаркi хапiла б ня больш, як на паўгода. Але ёсьць другая частка людзей, якая называецца арыстакрацыяй, што аб штодзенным хлебе ня думае, бо заўсёды добра накормленая i турбуецца толькi аб роскашах, а калi гэтай роскашы ўдоволь не хапае, шукае пазычкаў i далей гуляе.

* Поле, пакiнутае на адно лета незасеяным з мэтай паляпшэння глебы пад пасеў азiмых.

** У гарадах.

Побач з дробнымі сялянскімі гаспадаркамі ляжаць вялікія абшары зямлі дворнай, якой ўладае пан абшарнік, абрабляючы зямлю наймітамі. Лёс гэтых наймітаў ня лепшы, як і малазямельных сялян-гаспадароў. Кормяцца яны бульбай і заціркай у перамешку, а работы — хоць разарвіся.

Сяляне-гаспадары, ня маючы дзе падзецца з конікам, каб папасьвіць, ціснуцца да абмежкаў дворнага поля, лясных лагчынаў і сенажатных грудкоў. Дворныя слугі забіраюць у двор, злавіўшы на гэтым "праступстве" скаціну, а пан абшарнік пачынае справу. Робяцца паліцэйскія дапросы, пішуцца пратаколы, а пасьля адбываюцца і суды. Пасьля суду прыходзіцца плаціць штрафы і іншыя засуды.

Дык вось як жывецца ў нас. Гора шмат і калатні за жыцьцё поўна, а каб наладзіць жыцьцё лепш, дык ніхто паважна і ня думае. А думаць аб гэтым трэба, бо гэткі стан няма ведама куды можа завесьці, а накіроўвае ён да бальшавізму.

**Падкрапіўнік**

*Biełaruskaja krynica, 1932, 10 жніўня, № 29. С. 4. У арыгінале карэспандэнцыя надрукаваная на беларускай лацінцы.*

1933

**Асьвета пашыраецца**

(в. Гірычы, Навагрудзкага пав[ету])

Ад 1916 году ў нашу вёску пранікла касуля* беларускага нацыянальна[га] адраджэньня ў выглядзе друкаванага слова, якім была пад той час выходзячая ў Вільні беларуская газэта. З тае пары наша вёска амаль што ня жыла без беларускага друкаванага слова. Трэба сказаць, што праз увесь час, пачынаючы ад 1922 году, найбольшая ўвага ў нас была зьвернута на культурна-асьветную працу, якая, хоць паволі, але пракладвае сабе дарогу. Цяпер мы маем да сотні беларускіх кніжак і паступова праводзім самаадукацыю, а з беларускімі

* Прамень.

газэтамі ніколі не разлучаемся. Дзеці, якія ходзяць у польскую школу (беларускай не адчынілі, хоць два разы складалі дэклярацыі) так сама горнуцца да роднай кніжкі і ўжо многія бойка чытаюць і дэкляруюць вершы Я. Купалы і Я. Коласа.

**Н. Жальба**

*Беларуская газэта*, 1933, 26 жніўня, № 6. С. 3.*

**Возьмемся за працу!**

(В. Гірычы, Наваградзкага пав[ету]). Вёска наша не малая. На маладых хлапцоў і дзяўчат мы ня бедныя. Таму музыкі і вечарынкі — частае зьявішча Гірычаў. На музыкі і вечарынкі мы нярэдка "раскашэліваемся", марнуючы па залатому, а то і больш. Я ня думаю тут выступаць супроць музыкаў і г. д. Гэта рэч бязумоўна патрэбная: хоць гаротнае наша жыцьцё, але весяліцца мы мусім. Але вось што я хачу парушыць. Мы атрымліваем усяго адзін экзэмпляр "Бел. Газэты", тае газэты, якая стаіць на варце інтарэсаў беларускіх народных мас і якая каштуе ўсяго 25 грашэй у месяц. Больш таго, нават гэты адзін экзэмпляр ня ўсе чытаюць. Есьць такія, каторыя ахвотней пайдуць на танцулькі, чым паслухаць аб тым, што робіцца ў сьвеце.

Гэта сьведчыць аб нязвычайна нізкай ступені сьвядомасьці нашай моладзі. Яны не клапоцяцца аб заўтрашнім дні. Яны ня хочуць стацца актыўнымі ўдзельнікамі ў будове свае будучыні. Кіньма, хлапцы, гэтыя старыя і шкодныя звычаі! Возьмемся за культурна-актыўную і грамадзкую працу.

**В. Лебядзь**

*Беларуская газэта, 1933, 18 кастрычніка, № 9. С. 3.*

1934

**Праваслаўныя духаўнікі пры полёнізатарстве**

---

* "Беларуская газэта" — віленскае выданне пракамуністычнага кірунку. Выходзіла два разы ў месяц (часам — неперыядычна) ад 8 чэрвеня 1933-га да 30 студзеня 1934 г. Выйшлі 17 нумароў. Рэдактар — А. Карповіч.

Дзятлава, Наваградзкага пав[ету]. Арганізацыяў беларускіх у нас няма, моладзь пераважна нясьведамая; гэта выкарыстываюць польскія ксяндзы і вучыцялі, якія закладаюць свае арганізацыі, як “Стоважышэне Млодзежы Польскей”, “Кола Млодзежы Вейскей”, “Стшэльца”* і інш., уцягваюць у іх моладзь і там, пад прыкрыўкай хрысьціянства і культуры, полёнізуюць нашу моладзь. Бачачы гэта і хочучы здабыць пахвалу за польскую працу, настаяцель Накрышскага прыходу а. Б. так-жа выхваляе польскія арганізацыі і прышоўшага да яго маладога селяніна з вёскі Т. нагаварваў залажыць польскае “кола”.

На проціўвагу дзейнасьці нашых “сьветачоў”, мясцовая моладзь павінна залажыць сваю беларускую культурна-асьветную арганізацыю, напр. Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, і супольна павясьці барацьбу з цемнатой, помнячы, што сваімі сіламі і пры помачы свае арганізацыі сапраўды зможам палепшыць свой быт.

**Сьлёзнавокі**

*Шлях моладзі, 1934, № 2 (62), люты. С. 23.*

1935

## Аб нашым жыцьці

**Дзятлава**, Наваградзкага пав. Жыцьцё сялян у нашай воласьці ня цікавае: галіта — бедната ў нашых вёсках — гэта, быццам, нармальнае зьявішча.

Некаторыя сяляне ня могуць ніяк сьцяміць, чаму гэта так ёсьць: здаецца — кажуць — і зямелька родзіць таксама, як і даўней, а то і лепш, і скацінку гадуем у большым ліку, а выбрацца з гэтай бяды — галіты ніяк ня можам!

Мне здаецца — справа тут ясная: земляробскія прадукты зусім абязцанелі, а фабрычныя вырабы трымаюцца старой, высокай цаны; тавары ў крамах сялянству недаступныя, бо дарагія, а сучасны чалавек і на вёсцы бяз многіх фабрычных вырабаў ужо жыць ня ўмее.

Апроч гэтага, ёсьць даўгі з лепшых гадоў і падаткі,

* Польскія арганізацыі — “Аб’яднанне польскай моладзі”, “Саюз вясковай моладзі”, “Стралец” ці “Стралецкі саюз”.

якія зысківаваюць безаглядна сэквэстратары.

Жывучы ў такіх варунках, нашае сялянства паступова бяднее, ды яшчэ і на галіце — беднасьці змушана рабіць ашчаднасьці.

Каб пазбыцца непажаданага і прыкрага гасьця — сэквэстратара, сяляне стараюцца, прадусім, зьліквідаваць даўгі з казной — залеглыя падаткі і даўнейшыя пазычкі ў касах комунальных і Стэфчыка.

Ліквідуюць гэтыя даўгі гэтак: прадае селянін апошнюю карову.

Часьць грошай аддае — ў казну, як доўг, а за астачу купляе сабе цялушку, і гэтак жыве без малака, гадуючы карову.

Аджыўляюцца — ядуць нашыя сяляне вельмі дрэнна: бульба найгалаўнейшы прадукт; няма клустасьці*, няма цукру, няма і малака.

Сялянства нашае ня мае ніякай, ані апекі, ані помачы мэдыцынскай. Праўда, ёсьць у Дзятлаве лекары, але-ж яны сялянству недаступныя — сяляне ня маюць грошай, — а тут, як кара Божая, розныя хваробы і ня выводзяцца з вёсак і “атпраўляюць” на той сьвет, пераважна, маладзяж.

**Сьлёзнавокі**

*Беларуская крыніца, 1935, 20 студзеня, № 3 (596). С. 4.*

***

**Чым займаецца нашая моладзь**

**Дзятлава**, Наваградзкага пав. Адсутнасьць ад 1926 г. у нас культурна-асьветных арганізацыяў аканчальна спараліжавала інтэлектуальнае жыцьцё нашай моладзі. Падрастаючая моладзь не спатыкаецца з дзейнасьцяй культурна-асьветнай, а гадуецца паза хатай, пры выпіўцы і п’яных танцах; не шануе цяжка запрацаванага граша і на п’яную руку дае аб сабе ведаць з боку дзікунства цэлай воласьці або нават і ўсяму павету.

Польская школа, у якой змалку гадуюцца нашыя дзеці, ніякага дадатняга ўплыву на моладзь ня робіць. Польскія “кулкі”, у якія запісываюць нашую моладзь, нічога жыцьцёвага не праяўляюць. Адным словам, моладзь расьце, як кажуць, на лес гледзячы.

* Тлустасці.

Дарагая моладзь, бярыся за кніжку, за газэту і чытай вольным часам. Гэта адзіная дарога цяпер для нас у культурна-асьветнай працы. А калі прыйдзе час, што можна будзе залажыць сваю родную беларускую арганізацыю — ідзі туды і вучыся быць карыснай ня толькі сабе, але цэламу Беларускаму народу.

**Сьлёзавокі***

*Беларуская крыніца, 1935, 10 жніўня, № 30 (623). С. 4.*

***

Сьв. памяці **АНТОН БЕЛЕНКО**,

на 22 годзе жыцьця памёр у Наваградзкім шпіталі 23 лістапада а 9 гадзіне ўвечары ад прастрэлу а 8 гадзіне раніцай таго-ж дня камісарам двара Міроўшчына, аб чым паведамляюць агорнуты глыбокім жалем бацькі, браты і сёстры

Гірычы, 25.XI.1935.**

*Беларуская крыніца, 1935, № 45 (638), 1 снежня. С. 2.*

### Аб забойстве Антона Беленко

*(З Наваградчыны)*

У прошлым нумары "Беларускай Крыніцы" зьмешчана клепсыдра***, якой падаецца да ведама шырокіх працоўных масаў аб сьмерці маладога дзяцюка Антона Беленко. Падана так-жа, што беспасрэднай прычынай яго сьмерці ёсьць прастрэл нябожчыка камісарам двара Міроўшчына. Забойства Антона Беленко прадстаўляецца гэтак.

---

* Відавочна, "новы" псеўданім Бяленкі ўзнік з-за памылкі рэдакцыі. Бо ў гэтым жа нумары ў рубрыцы "Наша пошта" змешчаны адказ "Сьлёзнавокаму": "Прышліце свой адрас, дык спраўдзім, ці высылаецца Вам газэта".

** Як вынікае з рубрыкі "Наша пошта" ў гэтым нумары газеты, некралог даслаў А. Бяленка. Рэдакцыя пісала: "Сьлёзнавокі. Атрымалі і частку друкуем у гэтым нумары, а рэшта скарыстаем у наступным. Газэту Вам будзем пасылаць".

*** У старажытнагрэцкай мове клепсідра — гэта прыбор для вымярэння часу. Тут жа маецца на ўвазе некралог.

Моладзь з вёскі Гірычы ходзіць на заработкі ў двор Міроўшчыну. Хадзіў на заработкі, разам з іншымі, так-жа і Антон Беленко. Заработкі марныя. Апошнімі, прад забойствам Беленко, днямі падзёншчыкі працавалі пры паравой малатарні — малацілі збожжа. Праца цяжкая. За гэтую цяжкую працу 23 лістапада сёлета раніцай работнікі зажадалі ад дворнага камісара падвышкі заработнай платы. На гэтае справядлівае і законнае дамаганьне работнікаў камісар адказаў адмоўна. Пасьля адмоўнага адказу дворнага камісара, работнікі зьвярнуліся ад працы і сьціраваліся дамоў — пры машынах малатарні ніхто не астаўся. Камісар злосна, з пенай на вуснах і з рэвальвэрам у руцэ, сунуўся да работнікаў, абзываючы іх "бунтаўшчыкамі", "бальшавікамі" і ў гэты момант, ударыўшы кулаком работніка Воргана, стрэліў з рэвальвэра ў Антона Беленко. Куля папала ў бок, вышэй паясьніцы, і прайшла на вылёт. Сьмяротна ранены Беленко бязпрытомна паваліўся. Пасьля крыху апрытамнеў. У стане безнадзейным адвезьлі яго ў Навградак у шпіталь, дзе ён увечары памёр.

Вось рэзультат благіх адносінаў дворнай прыставы да работнікаў. Гэты дзікі пступак дворнага камісара паказвае, што суадносіны дворна-вясковыя вельмі напружаныя. Можна вырашаць іх справядлівай зямельнай рэформай — надзяленьнем поўназямельнымі гаспадаркамі малазямельных і беззямельных сялян, каб яны, сяляне, не патрабавалі пабочных заработкаў у дварэ.

**Сьлёзнавокі**

*Беларуская крыніца, 1935, № 46 (639), 8 снежня. С. 4.*

1936

**З вясковага жыцьця ў Наваградзкім павеце**

**Гірычы**. У нашай вёсцы амаль усе праваслаўныя, уважаюць [яны] сябе беларусамі і гавораць толькі па-беларуску. Найбольш клопату маем з солтысам — ніяк ня можам трапіць на дагоднага. У мінулым годзе падчас выбараў у сойм наш цяперашні солтыс

“заахвочваў” рознымі спосабамі нашых сялян, каб абавязкава ўсе галасавалі, а не байкатавалі выбараў, як гэта многія рабілі.

Сёлета 29 лютага гэты-ж самы солтыс сабраў сход, каб згадзіць вясковую варту. Нашыя сяляне на гэтым сходзе адмовіліся трымаць стоража, а пастанавілі самі вартаваць па калейцы, бо-ж цяжка даць вартаўніку 16 кілё збожжа ад участку, калі яго і самым не хапае на хлеб. Солтыс аднак хацеў, каб было паягонаму і заявіў: “Хаця вы ня хочаце, але сторАж мусіць быць!” Сяляне ня вытрымалі і пачалі сьмяяцца.

**Янка Снапок**

*Беларуская крыніца, 1936, № 12 (653), 15 сакавіка. С. 4.*[*]

**Яшчэ крыху аб Дзятлаўскай царкве**

(*Наваградчына*)

Справа Дзятлаўскай царквы парушалася[**] ў “Беларускай Крыніцы” ня раз. Шмат пісалася аб тым, як ніводзен настаяцель Дзятлаўскага прыходу сапраўды шчыра ня ўзяўся за належнае вырашэньне справы гэтай царквы. Кожны толькі шмат гаварыў аб царкве, але нічога не рабіў. На шчасьце, апошнім часам узяўся за справу Дзятлаўскай царквы ведамы, як добры пастыр свайго стада, благачынны айцец Камар. Ён шчыра і няўтомна працуе цяпер над тым, каб даць урэшце Дзятлаўскаму прыходу новую вялікую мураваную царкву, у якую маглі-б сабірацца на малітву ня толькі свае прыхаджане, але і вакалічныя. Такім чынам справа Дзятлаўскай царквы ўжо зрушана з мёртвага пункту.

**Сьлёзнавок**

*Беларуская крыніца, 1936, № 13 (654), 22 сакавіка. С. 4.*

**Нашыя валасныя справы**

**Дзятлава**, Наваградзкага пав[ету]. У мінулым годзе я

---

* У “Нашай пошце” рэдакцыя пісала: “Сьлёзнавокі. Мы свае абяцанкі заўсёды спаўняем. Вам так-жа паслалі-б і прэмію, але ня ведаем ані Вашага адрасу, ані Вашага сапраўднага прозьвішча. Дык каму і куды мы маглі для Вас пасылаць прэмію”.

** Уздымалася.

пісаў аб нашых валасных справах, пішу і цяпер аб іх. Надовячы быў у нашай воласьці кантроль з Наваградка і правяраў кнігі. Уночы з 14 на 15 жніўня выбухнуў у валасным будынку пажар, але агонь стушылі. Валасныя кнігі забралі ў Наваградак дзеля падрабязнага разгляду.

У нашай воласьці беларускіх арганізацыяў няма. Былі спробы закладаньня* беларускіх арганізацыяў, але не ўдалося. Культурная праца вядзецца саматугам — выпісываюць нашыя людзі газэты і кніжкі ўскладчыну і гэтак прасьвячаюцца. Ёсьць нясумленныя і цёмныя адзінкі, якія ў гэтай справе перашкаджаюць: яны распушчаюць чуткі, што гэтая саматужная прасьветная праца па-беларуску — гэта камуністычная работа. Яны называюць "Бел[арускую] Крыніцу", "Шлях Моладзі" і іншыя беларускія газэты камуністычнымі і гэтак застрашваюць людзей Картускай Бэрэзай**. Школьную акцыю весьці ў нас вельмі цяжка.

**С — кі**

*Беларуская крыніца, 1936, № 37 (678), 3 верасня. С. 4.*

1938

**Культурная праца замерла**

**Дзятлава, Наваградзкі павет.** Культурная беларуская праца ў нашай ваколіцы, на жаль, замёрла, не дзеля таго, што няма каму яе праводзіць, а дзеля таго, што настаў няспрыяючы час. З арганізацыяў найбольш пашырана ў нас "Млода Польска", каторая ўсялякімі спосабамі стараецца прыцягваць да сябе сяброў і заклікае людзей да проціўжыдоўскага настаўленьня. Але ўплывы гэтае арганізацыі слабыя.

Жыцьцё сялян шэрае, беспрасьветнае, як шэрыя і абросшыя мохам іхнія ўпаўшыя ў зямлю будынкі. Палажэньне матарыяльнае цяжкае, прытым адчуваецца вялікі недастатак апалу — дроў.

* Заснавання, стварэння.

** Канцэнтрацыйным лагерам, які ў 1934 годзе быў створаны польскімі ўладамі для "антыдзяржаўных элементаў" ў Бярозе-Картузскай (цяпер — Бяроза, горад у Брэсцкай вобласці).

Нягледзячы на цяжкае палажэньне, дух беларускі ў народзе не замірае і ўсе стойка трымаюцца свайго, верачы, што жыцьцё паправіцца.
**Н. Жальба**

*Шлях моладзі, 1938, № 24(140), 25 лістапада. С. 8.*[*]

1939

**Крамы на вёсцы і іхнія ўплывы**

**Дзятлава, Наваградзкі павет.** Апошнімі гадамі, як грыбы пасьля дажджу, растуць па вёсках крамы (склепы). Зьява гэта ў сэнсе эканамічным мае вялікае значэньне і трэба яе вітаць. Але ўсьлед за добрымі зьявамі ідуць благія, якія дрэнна адбіваюцца наўперад на маладым пакаленьні. Разам з крамамі едзе ў вёску гарэлка, тытун[ь] і розныя ласункі. Моладзь пачынае спачатку ласаваць цукеркі, купляючы іх за крадзеныя часта ад бацькоў грошы, збожжа, яйкі і г. д., а пасьля пераходзіць да тытуню і гарэлкі, чым атручвае свой малады арганізм і псуець здароўе і скарочваець сабе жыцьцё. Нядаўна між іншым у нашай воласьці быў лекарскі агляд школьнае моладзі, які сьцвердзіў, што ў некаторых школах больш 85 працэнтаў моладзі мае тыя ці іншыя прыкметы хворасьці. Такія рэчы прымушаюць думаць аб будучыні новага пакаленьня і шукаць выхаду. Вось-жа мне здаецца, што ў першую чаргу грамадзянства павінна зрабіць націск, каб гандляры не прадавалі моладзі ані гарэлкі, ані тытуню, ані нават цукеркаў. Калі-ж гэтага ня будзе, дык трэба ва ўладаў дамагацца гэткае афіцыяльнае забароны гандляром.
**Сьлёзнавокі**

*Шлях моладзі, 1939, № 1(143), 12 студзеня. С. 8.*[**]

* У “Паштовай скрынцы” рэдакцыя піша: “Н. Жальбе: З прысланых матарыялаў пачынаем адразу карыстаць і просім пісаць часьцей”.
** У “Паштовай скрынцы” рэдацыя піша: “Сьлёзнавокаму: Карэспандэнцыю, як бачыце, друкуем і просім пісаць часьцей”. Для “канспірацыі” побач быў зварот і да “Н. Жальбы” наконт дасланых вершаў.

**Аб выбарах у самаўрад**

**Дзятлава, Наваградзкі павет.** Выбары грамадзкіх і гмінных радных прайшлі ў нас ня надта гладка. Спачатку было спакойна, аж пакуль быўшыя радныя і розныя панкі не пачалі старацца, каб выбары адбыліся паводле іхняе волі і без галасаваньня. Пры тым у некаторых вёсках некалькі сьпіскаў уневажнена. З гэтай прычыны сяляне падалі пратэсты і просьбу да Наваградзкага Ваяводы вызначыць новыя выбары. Адказу пакуль што яшчэ няма.

**Сьлёзнавокі**

*Шлях моладзі, 1939, № 3(145), 5 лютага. С. 8.*[*]

**Пашыраецца сэктанства**

**Дзятлава, Наваградзкага павету.** Сяляне нашае і суседніх воласьцяў ня раз дамагаліся беларускіх школаў для свае моладзі, аднак іх дасюль няма. Вучыцялі далей вучаць толькі па-польску. Апрача таго нават і праваслаўнае духавенства пачало навучаць рэлігію дзяцей па-польску, ды ўвяло па школах, як абавязкавыя, падручнікі Закону Божага ў польскай мове, якое з нашых вясковых беларускіх жыхароў ніхто добра ня знае. Усё гэта зьбівае, як кажуць, з толку селяніна, а ў выніку — пашыраюцца розныя сэкты. Чаму гэтага не бяруць пад увагу духоўныя ўлады?

**Сьлёзнавокі**

*Шлях моладзі, 1939, № 4 (146), 25 лютага. С. 12.*

**Культурная праца сьведамай бел[арускай] моладзі на вёсцы**

Цяжка цяпер агулам жывецца на вёсцы, але ёсьць усё-ж праявы й пацяшаючыя. Адным з найвялікшых няшчасьцяў у жыцьці сялянскае моладзі зьяўляюцца: п’янства й разбой. Культурныя, больш разьвітыя, сьведамыя адзінкі ў нашай Наваградчыне[**] ўсімі сіламі стараюцца з гэтым злом змагацца, і

---

* У “Паштовай скрынцы” рэдакцыя піша: “Сьлёзнавокаму: Прысланыя карэспандэнцыі выкарыстаем. За пробныя адрысы дзякуем і просім не забываць”.

** У міжваенны час Дзятлаўшчына ўваходзіла ў склад Навагрудскага ваяводства і нейкі час — Навагрудскага павета.

вынікі гэтага відаць. У тых вёсках, дзе знаходзіцца хоць адзін чалавек аддани душой беларускай ідэі, ніколі на вечарынках, вясельлях ці другіх нагодах ня дойдзе да нажоўніцтва, або мордабойства. Ён адзін, як пружына, утрымлівае лад і парадак сярод сабранай моладзі; апрача вясёлых, мілых гутарак і танцаў, чуваць там сьпевы сэрца-кранаючых беларускіх народных песьняў паэтаў-самародкаў, якія асьвятляюць нашае цёмнае жыцьцё. Некаторыя з гэных паэтаў нават не гасьцілі на бачынах беларускіх часапісаў і, нявыяўленыя, належна гінуць у народных гушчах, і толькі вершы іх, паложаныя на народныя мэлёдыі, жывуць і заахвочваюць усіх жыць і змагацца із злыбядамі нашых дзён, із злыбядамі цяжкога беларускага жыцьця. Усім гэным ціхім і бязыменным працаўнікам на беларускай ніве, па цёмных беларускіх закутках, няхай будзе чэсьць і слава! Наваградчына.

**Н. Жальба**

*Шлях моладзі, 1939, № 15 (157), 25 жніўня. С. 3.*

# УСПАМІНЫ

Гэты тэкст Аляксандра Бяленкі дапамагае лепш зразумець, што ж ён быў за чалавек, якімі матывамі кіраваўся ў сваёй дзейнасці. Успаміны былі напісаныя ў 1990 годзе. Яшчэ існаваў СССР, але можна спадзявацца, што аўтар нічога не баяўся, пісаў шчыра. Ён быў беларускім патрыётам і адначасова прыхільнікам савецкага ладу. Мала хто з былых КПЗБоўцаў так прыхільна ставіўся да калгаснага будаўніцтва і іншых мерапрыемстваў савецкай улады ў Заходняй Беларусі. У людзей было шмат расчаравання. Але Бяленка, калі і пераржыў яго, то трымаў гэтыя думкі ў сабе.

## Аўтабіяграфічны ўспамін

Я, Бяленка* Аляксандр Канстанцінавіч, ураджэнец в. Гірычы Пацаўскай воласці Слонімскага ўезда Гродзенскай губ**. нарадзіўся 1 (14-га — па новым стылі) кастрычніка 1898 г. у сям'і беззямельнага батрака. Бацька, маючы толькі агарод, жыў з зарабатка, і сямейка з пяці чалавек часта галадала. Добра, што недалёка ад нас жыла бедная ўдава-жабрачка Антончык Марыся, і мы з братам Пятрусём штодня ў яе падкормліваліся. У яе заўсёды былі ў запасе ў мяху хлебныя сухары, яна давала нам па адным і мы зацята згрызалі іх, і былі на ўвесь дзень ужо накормлены.

Калі мне было 9 год, наша матка Настасія раптоўна памерла, пакінуўшы толькі што народжанага браточка. Пазней яму далі імя Міхаська. Не магу зразумець, як ён, бедненькі, без грудзей маткі ў голадзе і холадзе выгадаваўся і вырас, і ўвесь свой век быў мажны і здаровы. Бацька дзеля нас мусіў ажаніцца другі раз, знайшлася ў сваёй вёсцы дзяўчынабядначка, якая ахвяравала сваё жыццё на ўзгадаванне няшчасных сірат. Звалі яе Ганна. Нямнога я жыў пры ёй, але такое добрае, ласкавае, цярплівае жанчыны я мала сустракаў.

* У арыгінале — Белянко.

** Цяпер вёска ў Дзятлаўскім раёне Гродзенскай вобласці.

Калі мне было 11 год, я пайшоў з бацькавай хаты батрачыць у сваю вёску да гаспадара "трыечніка" (гэта значыць на трэцюю частку зямельнага надзелу, гектараў 6-7) Нікіфара Сідаровіча і яго жонкі Аксінні. Вось тут я праліў і слёз, і поту ўдосталь. Аксінка вучыла мяне ўсе жаночыя работы: мыць посуд, стол, лавы, чысціць бульбу, церці яе на бліны, змотваць усю яе пражу ў талькі (зімою), а вясною я пастух. Навучыла і, прыгнаўшы каровак, падаіць іх. А пасілкаваўшыся, "бяры дзетка мяшок і ступай на палетак, на праполку пшанічкі, ці лянку аж пакуль не будзе пара ізноў выганяць скацінку на пашу". А летам ты павінен і высушыць, і знасіць укласці ў гумно імі прывезенае сена: "Ты папрасі галубок, каб хто за цябе папасвіў каровак". І я ўсё выпаўняў дакладна: зімою з цэпам на таку, ад першых пеўняў. Затым накарміць скацінку, напаіць яе твой абавязак, а днём з цэпам да вечара. І ўсё тое самае [штодня], і так два гадкі я пакутаваў у Сідаровічаў. Далей бацька сказаў: "Досыць, у цябе сынок ужо мох парос на твары, яны могуць цябе заездзіць".

Ад Сідаровічаў я пайшоў у батракі ў сваю вёску да Жамойдзіка Фёдара, добрага дзядка. У яго было зямлі палова надзелу, больш як у Сідаровіча, але тут было шмат лягчэй. Мы ніколі не ішлі з цапамі апоўначы, калі стане днець, мы з ім ідзем на ток, наб'ем два пасады збажыны, падаём скаціне. Паснедаем, тагды напоім скаціну, малоцім да паўдня. А паўдні накормім яе, папалуднуем, працуем да вечара. Жаночае працы тут я не знаў, яе рабілі бабулька Тодара і яе дачка Паўліна.

У часы палявой працы я ўжо ў Жамойдзіка стаў вучыцца араць сахою. Рабілі мы з дзядком так: я бяру за лейцы, ваджу каня, ён кіруе сахой, пройдзе баразёнку, дае саху мне, а ён водзіць каня. І так мы нічуць не стомімся. Летам з косамі на сенажаці памаленьку таксама без спеху вучыць як трымаць касу, як махаць, прыціскаць да зямлі, каб не рабіць агрэхаў, каб было чыста гладка і непрыкметна пракосаў. І я ў яго зразумеў усю практыку гаспадарання: у гумне, хляве, на полі, на сенакосе.

Адукацыя ў мяне — царкоўна-прыходская школа.

У 1914 годзе выбухла імперыялістычная вайна, якраз у зажынкі жыта, як гром з яснага неба — мабілізацыя. Пры перадачы паве-

стак, адразу збірайся і марш на прыёмны пункт у Слонім. Якое галашэнне, плач, лямант, не дзіва — аж усе мужчыны апаражняюць вёску. Аднак хоць плач, хоць забіся, а пасеяны ўраджай сабраць трэба. І бедныя жонкі, з бабулькамі і дзеткамі, паліваюць слязьмі палеткі, няма каму паднесці снапкоў паставіць у бабкі.

З першых дзён вайны рускія воіны пайшлі пераможна наперад, была занята Прусія, многія гарады Аўстрыі (яна была ў саюзе з немцамі) — гэта ў год 1914 і пачатак 1915 г. З лета 1915 года немцы сталі браць верх і ўвосень 1915-га ўжо сталі акупіраваць Беларусь і нястрымна ішлі далей на ўсход. На зіму немцы паставілі свой рабочы абоз на Гірыцкім выгане ў канцы вёскі. Салдатамі былі заняты лепшыя хаты ў вёсцы, хлявы для коней. У майго гаспадара паставілі пару коней. Была праведзена вузкакалейка ад Дзятлаўскага дрэваапрацоўчага тартака аж у лес за Вензавец і штодзень салдаты-абознікі, пабраўшы свае коні, ехалі, грузілі на ваганеткі зараней зрэзаны лес, дастаўлялі яго ў тартак, а там рабілі з яго патрэбны матэрыял, які вывозілі ў Нямеччыну. Мала таго, заставілі ўсіх гаспадароў, маючых коней, кожны дзень вазіць лес з-за Лудзіч у тартак Жукоўшчына.

Аблажылі ўсіх жыхароў непамернымі пастаўкамі збожжа, бульбы, мяса, яек, малака. Усё гэта сваім транспартам дастаўлялася на прыёмны пункт у Дзятлава ці Наваельню. Дзятлаўская царква і Наваельнянскі касцёл да пацёсу і дзвярэй былі напоўнены збожжам. Мала таго, часта рабілі пагромы, на вёскі і збожжа, якое засталося, усё забіралі. Каб не памерці з голаду, хто дзе мог, у ямах хавалі збожжа, палатно, адзенне. І хоць пратухлае, прыгніўшае, трымала пакутнае чалавечае жыццё. А што было ў Дзятлаве, на рагу Касцельнай вуліцы? Там у падвале вялікага яўрэйскага дома і днём, і ноччу не сціхалі нечалавечыя галашэнні, плач і крыкі, катаванні пакутнікаў. І так аж чатыры года беспрасвецця.

Калі адбылася лютаўская, а пасля кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі, гірыцкія салдаты-немцы, пляскалі ў далоні, пры сустрэчы з кім-небудзь з жыхароў вёскі гаварылі: "Пан, пан, Русланд капут! О, о Дойчланд вялікі!". І раздымалі рукі, паказваючы, якая будзе Нямеччына. Прайшоў ужо 1918-ы, год

пасля рэвалюцыі ў Расіі, а немцы-абознікі з Гірыч, як прышытыя, не думаюць рухаць свой абоз з выгану, валочаць лес і такія вясёлыя. І толькі 1919 год зрушыў іх з наседжанага месца. Паціху аднае ночы іх не стала і не толькі ў нас, і ў Дзятлаве. Жывыя ўздыхнулі на поўныя грудзі: няма мучыцеляў і наагул аніякае ўлады, трэба ўжо самім арганізоўваць новае жыццё, такое як у Расіі. І хутка знайшліся людзі, знайшлася зброя і найперш у Дзятлаве арганізаваўся валасны рэўкам, за ім — у Накрышках, і пайшло, і пайшло далей. Паўсюдна ў вёсках камбеды. Жыццё пайшло ў новым рэчышчы нястрымна наперад, сталі варочацца маладыя ўцекачы, хлопцы і дзяўчаты, якія ўцяклі ад нямецкага нашэсця. У Гірічы з'явіліся Каско Аляксандр, Каско Сцяпан, Сцяпура Канстанцін і адразу ўзяліся за працу. Былі ўжо паказаны 4 сцэнічныя творы*, грошай за іх не бралі, усе ахвотна ішлі: і старыя дзяды, бабкі, дзеткі, кабеты. Не ўмяшчаліся ў хату, глядзелі праз вокны, воплескам не было канца. Ды не доўга цешыліся новым жыццём...

У сакавіку ці ў пачатку красавіка 1919 года польскі добраахвотны атрад нейкага пана Сямашкі перад світанкам праз в. Гірычы напаў на Дзятлава. Былі забіты альбо цяжкапаранены народныя міліцыянеры, захоплена каштоўная маёмасць. І з нарабаваным дабром, нікім не пераследаваны, атрад сышоў. Некалькі дзён у Дзятлаве не было ні нашых савецкіх, ні польскіх уладаў. Аж неўзабаве хлынулі рэгулярныя часці легіянераў, заняўшыя безабароннае Дзятлава, Наваельню, Навагрудак. Так устанавілася ўлада Пілсудскага і паноў. Былі ліквідаваны рэўкамы, камбеды, многія іх працаўнікі арыштаваны. Не засталіся без пакарання і Аляксандр Каско, Сцяпан Каско. Іх ноччу ў пасцелі схапіла жандармерыя і ў Беластоку закатавалі.** Святло, якое свяціла і саграваліа, было патушана…

Аднойчы Канстанцін Сцяпура, з'ездзіўшы ў Вільню, прывёз адтуль можа каля пуда рознай беларускай літаратуры і газет.

---

* Маецца на ўвазе мастацкая самадзейнасць.

** У адным з вершаў А. Бяленка пісаў:

"За што іх там закатавалі?

За словы родные са сцэны…" (Архіўныя зборы Дзятлаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея).

“Вось цяпер, браткі, будзем жыць, чытаць, вучыцца самі і вучыць другіх”, — сказаў ён. Неўзабаве і яго забралі польскія ўлады ў вайсковую часць у Гродна, там яго паставілі пісарам. Але ён рэгулярна са мной вёў перапіску, пісаў звычайна па-беларуску, прасіў мяне працягваць справу Каскоў і яго, да пераможнага канца.

У 1922 годзе, адпісваючы ліст К. Сцяпуру, я ўлажыў у канверт свой напісаны верш “Ігрышча”. Неўзабаве ён прыслаў мне адказ: дасціпная спроба вырваць з рэальнага жыцця ўдалую яго частку. “Давай, браток, давай, магчыма, ты зможаш быць паэтам”, — пісаў Сцяпура.

Кінуў батрачыць у сялян (я прабатрачыў 12 гадоў), цяпер я быў сезонны працаўнік у пана Яна Стравінскага ў яго маёнтку Міроўшчына. Аднаго дня ўвосень 1924 г. мы ўчатырох рыхтавалі для панскай пякарні дровы, недалёка ад маёнтка, каля 4 гадзін дня прыходзіць да нас 2-х паліцыянтаў, узброеных вінтоўкамі: “Кто ту ест Беленко Александр? Ходзь до нас!” Я кідаю працу, іду да іх. “Прошэн ісць на дроген ў Гірычы”, — кажуць. Выпаўняю загад і крочу дарогай дадому перад іх пад вінтоўкамі. Уваходзім у хату і адзін з планшэта дастае загад пракурора зрабіць у Бяленкі “сціслы” вобыск. Было ўсё ператрэсена, перашчупана, перакалочана, але нічога не знойдзена. Аднак загадана пад вінтоўкамі крочыць у пастарунак у Накрышкі. Усю дарогу ў пацёмку ночы ішлі моўчкі. У пастарунку паставілі пад мерку, апісалі ўсе прыкметы. І, загадаўшы “не бондзь выврототовцэм” [не займацца “падрыўной” працай], адпусцілі. Што шукалі паліцыянты, я не ведаў. Афішкаў КПЗБ яшчэ да нас не прысылалі. Можа шукалі лістоў ад Сцяпуры? Яны былі, але строга захаваны.

Трохі пра сваіх таварышаў. Пасля гібелі Каскоў і выбыцця К. Сцяпуры былі надзейнымі і адданымі: Канстанцін Чыгір, Васіль Новік, Надзея Кійко, Восіп і Міхаіл Бяленка, Яўген Радзюк, Пётр Варган, Канстанцін Жамойдзік. А ўсе астатнія спачуваючыя, так што можна было на каго абаперціся і з кім працаваць. Мы штогод збіралі грошы, выпісвалі газеты, часопісы, кнігі з віленскіх выдавецтваў і кнігарняў. Чыталі, вучыліся і многа перадавалі ў другія вёскі. Канстанцін Сця-

пура адразу быў звязаны з віленскімі таварышамі і многімі арганізацыямі, але трымаўся пераважна адной КПЗБ. Атрымаўшы мой верш, ён пераслаў у выдавецтва Беларускага Студэнцкага Саюзу, якое выпускала невялічкі часопіс пад назвай “Маладое Жыццё”, дзе і пусцілі яго ў друк.

Але нядоўга мой добры настаўнік і найлепшы сябар, быў пісарам у войску і на волі. Вайсковай жандармеры ўдалося яго выкрыць, як члена Камінтэрна, і памясціць у той час славутыя Лукішкі [у віленскую турму]. Там ён прапакутаваў амаль 3 гады і па выхадзе з іх муроў я яшчэ меў і ўжо астатнюю з ім сустрэчу і развітальны гарачы сардэчны пацалунак са слязьмі і сэрцабіццём. Ужо на змерканку, аднаго вечара я быў на панадворку, нешта рабіў. Раптам нехта дужы схапіў мяне за плечы, падняў угару, моцна цiснучы: “Браток мілы, Кастуська родны, няўжо ты?”. “Я, мой даражэнькі, прывет і развітанне, іду ў СССР. Калі перабяруся, прышлю ліст да цябе абавязкова”. І стрымаў слова. Ад яго я атрымаў ліст з Крычава. У ім ён нічога не напісаў аб сабе і сваёй працы, толькі: “Перабірайся да мяне, я дам першы прытулак. Твой Сцяпура Канстанцін Міхайлавіч”. Яго і ўсе ўчынкі з ім у нашую кароткую сустрэчу ў жыцці, яго словы я не магу без хвалявання, а падчас і слёз, успамінаць — яны да канца майго жыцця ў маім сэрцы. Яго даўно няма. Сталінскія рэпрэсіі 1937 года знішчылі многіх такіх душэўных людзей.* На жаль, я нідзе не знайшоў яго фотаздымка…

А жыццё ідзе наперад. Беларускі народ пад польскай акупацыяй з поўнай рашучасцю і адвагай набірае большыя

* Зусім магчыма, што ў беларускім руху міжваеннага часу былі два Канстанціны Міхайлавічы Сцяпуры. Адзін з іх быў арыштаваны польскімі ўладамі ў сярэдзіне 1923-га за ўтрыманне кантактаў з урадам БНР. У СССР ён у канцы 1925-га — у пачатку 1926 года праходзіў па справе “нацдэма” Юркі Лістапада. У далейшым уцёк у Латвію, жыў у Чэхіі, супрацоўнічаў з дзеячамі БНР, у студзені 1928-га ўвайшоў у кіраўніцтва “Беларускай Рады ў Празе”. Гл.: Кароткі нарыс беларускага пытаньня. — Мінск, 2009. С. 123; Z Biełaruskaha žyćcia ŭ Prazie // Biełaruskaja krynica, 1928, № 11, 9 лютага. С. 3. Даследчык Сяргей Кнырэвіч высветліў, што ён быў 1897 года нараджэння, ураджэнцам Магілёва. Жыў у Празе яшчэ ў 1938 годзе (паведамленне аўтару ад 4 сакавіка 2023 года). Яшчэ адзін К. М. Сцяпура, 1899 года нараджэння, ураджэнец в. Гірычы на Дзятлаўшчыне, жыў у Ленінградзе, дзе ў 1937-м быў арыштаваны і расстраляны. Гл.: Беларусь: жертвы сталинских репрессий // http://chumakou.com/projects/belarus1937/d342.html

сілы, заяўляе, патрабуе чалавечых людскіх правоў жыць поўнакроўным жыццём. У 1925 годзе была арганізаваная Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, у яе шэрагі пайшла вялікая маса сялян і рабочых, мала заставалася вёсак па-за яе ўплывам. І мы блізу першымі пайшлі ў Грамаду, было ўсё зроблена па інструкцыі, выбраны старшыня Васіль Новік, я быў сакратаром, скарбнікам Яўген Радзюк, сябрамі Канстанцін Чыгір, Канстанцін Жамойдзік, Пётр Варган і іншыя.

Каб змагацца за адкрыццё беларускіх школ, закладваем гурток ТБШ [Таварыства беларускай школы]. Я быў сакратаром. Часта збіраемся, чытаем, вучымся, ходзім у іншыя вёскі, дапамагаем арганізаваць Грамаду. Ва ўсіх добры настрой, быццам выраслі крылы і можна лятаць. Ды нядоўга цешыліся. У студзені 1927 года [адбыўся] налёт паліцыі аднačасна на ўсе гурткі ў вёсках. І дзе толькі ўзялося столькі паліцэйскіх? У мяне зноў было ўсё ператрэсена, забраныя бланкі, дакументы і нават некаторая легальная літаратура.

Незабыўныя словы К. Сцяпуры “пераходзь мяжу, у мяне будзе прытулак” не сыходзілі з галавы. І вось мы ўчатырох у канцы траўня 1927 года, у аўторак, я, К. Жамойдзік, О. Стэльмах і Ігнат Ганчар з Дзятлава аўтобусам даехалі ў Наваградак, там пераначавалі. А назаўтра на світанку пешу ідзем у Карэлічы. За дзень мы прайшлі амаль да Міра, пераначавалі ў лазняках. Назаўтра з Міра праз Нёман — у Стоўбцы. За Стоўбцамі блізка лес, і мы ўжо нідзе не адпачывалі, усю ноч ішлі лесам і, ледзь стала днець, дайшлі да калючага дроту на мяжы. Пералезлі і трапілі на тым баку на дарожку. Мы адважна пусціліся па ёй наперад. Аж тут з-за тоўстай хваіны вокліч “стой”, і стрэл угару. На знак трывогі, пачуўшы яго, да нас прыбеглі двох пагранічнікаў. Нас ператрэслі і пагналі на пагранзаставу, там прасядзелі да гадзіны 4-й дня. Адтуль павялі на другую заставу. Там нас пратрымалі 3 дні. На трэці дзень прыбыў з Мінска начальнік, па адным выклікаў нас да сябе, дапытаў, хто мы, адкуль і чаго з’явіліся нелегальна ў СССР. Я паказаў ліст К. Сцяпуры, ён прачытаў і парадзіў: “Вось што, няпрошаныя бегляцы, вы пойдзеце назад у сваю Польшчу і будзеце пра-

цаваць там, як і працавалі, а то і лепш, каб мы хутчэй маглі з’яднацца. Да пабачэння”. Назаўтра нас світанкам перавялі праз граніцу і пажадалі нам усяго добрага. І мы пайшлі.*

Вярнуўшыся, я стаў шукаць сталага месца ў жыцці і 4 ліпеня таго ж года перайшоў у Труханавічы ў прымы, з батрака на прымака, перакуліўся. Накрышскія паліцэйскія нават узрадаваліся: “Тэрас дасць нам спокуй” [“Цяпер будзе для нас спакой”]. Але праца пайшла больш інтэнсіўна. Пасля разгрому Грамады і ТБШ актывізавалася ў поўную меру дзейнасць КПЗБ. Масава раскідваліся лістоўкі, вывешчаліся чырвоныя сцягі з лозунгамі, блізу на вачах у паліцэйскіх тварыліся “выврото-вые” [“падрыўныя”, “рэвалюцыйныя”] дзеі няўлоўных асоб...

У 1934 годзе ў Гірычах былі арыштаваны мае два браты Бяленкі, Міхась і Восіп. На 1 мая былі вывешаны сцягі па дарозе з Гірычаў на Міроўшчыну і з Міроўшчыны — на Труханавічы. Вобыск адбыўся і ў мяне, але нічога не знайшлі. І я застаўся на волі.

У 1935 годзе забаставалі сезонныя рабочыя з Гірычаў. Яны дамагаліся падбаўкі платы. У гэтай забастоўцы быў забіты панскім упраўляючым мой брат Антон.

Ад разгрому Грамады і ТБШ гады дзейнасці КПЗБ былі такія напружаныя і дзёрзкія, што ніякія контрмеры паліцыі не давалі рады. Нават легальныя выданні, калі закрывалася адна газета, на яе месца выдавалі дзве-тры. Жыццё бурліла няспынна. Паэты і пісьменнікі раслі як грыбы пасля дажджу: Максім Танк, М[іхась] Васілёк, Міхась Машара, Коля Засім, [Язэп] Вількоўшчык, Катовіч [?], [Францішак] Грышкевіч, К[азімір] Сваяк і многія, многія іншыя.

Да 1939-га былі гады народнага фронту. Трывалыя, цвёрдыя і смелыя. Напрыклад, Машара пісаў:

* У аповедзе пра нелегальную вандроўку ў СССР А. Бяленка чамусьці не згадвае, што адзін з яго сяброў загінуў на мяжы — быў застрэлены, а ён трапіў у турму. Пра гэта ў 1967-м ён пісаў Ул. Калесніку. Літаратуразнаўца апублікаваў радкі з верша, дасланага Бяленкам, пра тую трагічную падзею (Лёсам пазнанае… С. 234-235):

“Вясна прывітала ў турме аднаго,
А друг яго паў на граніцы.
Варожая куля дагнала яго,
Не суджана марам здзяйсніцца…”.

*Браты, браты краіны сіняй,*
*У нашых песнях многа слёз.*
*Давайце сум, тугу пакінем*
*І створым новы спеўны лёс.*

Казімір Сваяк:
*Ідзе вось ясная пара,*
*Ужо блізка, свеціць нам зара.*
*Айчына, Маці Беларусь,*
*Гарой, Жыва!*

Усе гэтыя радкі ўсялялі ў душы нязгасную надзею і бадзёрасць.

І вось 17 верасня 1939 г. Чырвоная Армія пераможным шэсцем з'яднала нас з усходнімі братамі. Якая радасць, якое лікаванне было ва ўсім народзе Беларусі з'яднанай: давайце ж будзем дзяліць панскую зямлю. І мы праз пару дзён пайшлі на панскі палетак з меркаю і адразу пайшлі спрэчкі: табе лепшая, а мне ўжо горшая зямля. Ладна, сказаў Іван Грынцэвіч, давайце аб'яднаем свае гаспадаркі і зямлю панскую, і створым калгас.

Калгас стварылі. Труханавічы, Міроўшчына, Гірычы і Апаліна-Басіна арганізавалі калгас, выбралі праўленне, старшыню, бухгалтара, кладаўшчыка, брыгадзіраў і пайшла справа, "як па масле". Старшынёй быў выбраны Канстанцін Мацвеевіч Чыгір... Нямнога засталося, не ўвайшлі у калгас з Гірычаў 2 сям'і і 3 з Труханавічаў. Увайшоўшыя адразу працавалі актыўна, былі засеяны ўсе палеткі. Ураджай аказаўся сярэднім, сабралі і засыпалі ў свірны. А будбрыгада за паўгода 1940 года адбудавала вялікую канюшню ў Гірычах, выкапала калодзеж і зрабіла для вадапою вялікае карыта. Увосень ужо перавялі коні ў новую канюшню. У тэрмін выкапалі бульбу, забуртавалі на 1941 год. Цалкам засеялі азімыя палеткі, адрамантавалі сельскагаспадарчы інвентар. Усё як належыць. Вясну 1941 г. сустрэлі дружна, ужо гаспадаром быў другі старшыня Змітрук Аладка. Цалкам выканалі план пасеву і пасадкі бульбы і ўжо рыхтаваліся да касьбы.

Ледзь стала віднець 22 чэрвеня 1941 года, як пачуўся

гром. Глядзім: ні адной хмурынкі нідзе. Што за праява? Хутчэй пайшлі ў праўленне калгаса і там даведаліся: старшыня выехаў яшчэ зацемна. Да тэлефона — ані гуку… Бяда, вайна, знішчэнне, гібель… Ад нашых вёсак захопнікі прайшлі бокам, ніхто іх не бачыў, толькі ў Міроўшчыне спыніўся штаб нейкай часці і ўжо на другі дзень былі схоплены Канстанцін Жамойдзік, П. Варган, Сцяпан Муха, Эдвард Гаўпт — гэта нашы гірыцкія падпольшчыкі, Іван Цемашэвіч (ад яго я атрымліваў лістоўкі), Аляксандра Сіўко, Ганна Сцяпура — гэта хвіневіцкія нашы таварышы. Усе былі расстраляны ў Курляшах. Агонь, смерць і знішчэнне прынеслі нямецкія каты.

1942 год. Яны вывезлі з вёсак усё маладое насельніцтва. Засталісядзядыібабулі.Умянезабралідваіхбратоў,сяструімайго адзінага сына. Мала хто вярнуўся з Нямеччыны з лап крывавых катаў, але наш народ не скарыўся захопніку. З першага года нашэсця народ пайшоў у падполле і ў партызанскія злучэнні. Тыя, хто застаўся на месцы, мусілі карміць і захопнікаў, і змагароў-партызан, дапамагаючы ўсім неабходным — адзеннем, хлебам, мясам… Я для партызан аддаў каня з коламі і вупражай, карову, кабана, 10 мяхоў мукі, новыя валёнкі з галошамі і поўны гадавік “Шляху Моладзі” — на курава (яго я найбольш цаніў, але, як трэба, мусіў дапамагчы). І гэтак усе жыхары, усе вёскі.

Паміж Пацаўшчынай і Труханавічамі ёсць хутарок пад назвай Бярэсценка. Там была кузня Івана Грынцэвіча. У гэтай кузні чуўся звон метала на патрэбу сялян. Жывым трэба жыць і працаваць. Вось і там таксама непрыкметна кавалася перамога над крыважэрным ворагам. І. Грынцэвіч быў актыўны сувязны партызан. У яго заўсёды былі зводкі Саўінфармбюро. Усе весткі адсюль ішлі па вёсках, усяму народу і немцы да канца свае гібелі не ведалі, а там штодня было поўна людзей з раніцы і да цямна. Блізу тры гады пакутнага жыцця пад ботам ворага было пражыта. Але фронт і партызаны сумесна адолелі ворага. Летам 1944 года захопнік быў разбіты і адкаціўся з Беларусі.

Наш знішчаны калгас адрадзіўся ў 1950 годзе. Цяпер ён у такім складзе: Апаліна-Басіна, Яцвезь, Запашка, Міроўшчына, Нямковічы, Труханавічы, Вянскі, Пацаўшчына, Сіратаўшчына,

Рэпішча. Адразу было цяжка: усё знішчана. Але год за годам давалі свае вынікі. У цяперашні час ён набыў сілу. І хоць не мільянер, але не бедны, і працаўнікі яго жывуць у поўным дастатку.

Я працаваў у родным калгасе блізу да 70 год, быў паляводам і займаўся ўлікам. Любіў працу і любіў сваё дзецішча, і цяпер люблю і ганаруся ім. Часам пра яго поступ наперад пішу допісы ў раёнку "Перамогу".

Бяленка А. К.
28/III 1990 г.

# БІБЛІЯГРАФІЯ ДРУКАВАНЫХ ТВОРАЎ АЛЯКСАНДРА БЯЛЕНКІ (НІКІФАРА ЖАЛЬБЫ, СЛЁЗНАВОКАГА)*

## ВЕРШЫ

[Аляксандр Бяленка]. Ігрышча // Маладое жыцьцё (Вільня), 1923, № 1. Студзень. С. 18-19.

N. Žalba. Tutejšaje žyćcio // Krynica (Вільня), 1925, № 1, 4 студзеня. С. 4.

Žalba. Z Nowym Hodam!... // Krynica, 1925, № 1, 4 студзеня. С. 6.

Н. Жальба. Неаплатная ласка // Авадзень (Вільня), 1925, № 2, 4 лютага. С. 6.

N. Žalba. Pramowa instruktara // Krynica, 1925, № 14-15, 12 красавіка. С. 12.

N. Žalba. Zimoj // Biełaruskaja krynica (Вільня), 1925, № 13, 21 снежня. С. 5.

N. Žalba. Dumki // Biełaruskaja krynica, 1926, № 5, 7 лютага. С. 3.

N. Žalba. Bratu // Biełaruskaja krynica, 1926, № 10, 21 сакавіка. С. 4.

N. Žalba. Nad mahiłaj K. Swajaka // Biełaruskaja krynica, 1926, № 28, 22 жніўня. С. 2.

N. Žalba. Hłuchi, kali nie pačuje, dyk wydumaje // Biełaruskaja

* У “Бібліяграфіі” змешчаныя публікацыі 1920-1930-х гадоў на старонках заходнебеларускага перыядычнага друку. Паваенныя публікацыі патрабуюць асобнага даследавання. Некаторыя з іх згадваліся ў прадмове да гэтай кнігі.

krynica, 1926, № 36, 15 кастрычніка. С. 7.
Н. Жальба. “Мілая краска жыцьця веснавога...” // Беларускі дзень (Вільня), 1927, № 7, 14 красавіка. С. 2-3.

Н. Жальба. Брату // Беларускі дзень, 1927, № 8, 24 красавіка. С. 4.

N. Žalba. Zarabiŭ // Biełaruskaja krynica, 1928, № 45, 4 кастрычніка. С. 3.

Жальба Н. “Калі гора цябе напаткае...” // Беларуская крыніца, 1930, № 12, 20 сакавіка. С. 2.

Н. Жальба. “Акрыльвай думку ты сваю...” // Літэратурная старонка (Вільня), 1934, № 1. Студзень. С. 28.

Н. Жальба. Моладз[ь], да працы! // Шлях моладзі (Вільня), 1934, № 3(63). Сакавік. С. 13.

Н. Жальба. “Гэй, браточкі мае, дарагія!..” // Шлях моладзі, 1934, № 9(69). Верасень. С. 1.

Н. Жальба. Мой шлях // Шлях моладзі, 1935, № 11(84). Кастрычнік. С. 10.

А. Жальба. Заміж вянка на магілу брата забітага 23.XI.35 // Шлях моладзі, 1935, № 13(86). Снежань. С. 10.

Н. Жальба. Мой народ // Шлях моладзі, 1937, № 1(100). Студзень. С. 1.

Н. Жальба. “І прыціх, як няма, адпеяў, адшумеў...” // Шлях моладзі, 1938, № 25(141), 8 снежня. С. 3.

N. Žalba. Z cyklu “Žyćcio i kraski” // Шлях моладзі, 1939, № 2(144), 25 студзеня. С. 9.

Н. Жальба. “Шляху Моладзі” ў 10-я ўгодкі // Шлях моладзі, 1939, № 7(149), 5 красавіка. С. 3.

Н. Жальба. “Нашы к радасьці дарогі...” // Шлях моладзі, 1939, № 11(153), 15 чэрвеня. С. 11.

Н. Жальба. Жніво // Шлях моладзі, 1939, № 14(156), 5 жніўня. С. 2.

Н. Жальба. “Ужо ўбогая ніўка дажата...” // Шлях моладзі, 1939, № 15(157), 25 жніўня. С. 4.

## КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

Н. Жальба. Весткі з вёскі // Вольны сьцяг (Вільня), 1923, № 13, 28 верасня. С. 4.

Н. Жальба. Весткі з вёскі // Вольны сьцяг, 1923, № 19, 12 кастрычніка. С. 4.

Нікіфар Жальба. Весткі з вёскі // Вольны сьцяг, 1923, № 20, 14 кастрычніка. С. 4.

Нікіфар Жальба. Весткі з вёскі // Змаганьне (Вільня), 1923, № 19, 16 снежня. С. 4.

Н. Ж. Весткі з вёскі // Змаганьне, 1923, № 20, 19 снежня. С. 4.

Н. Журба. Робяць вобыскі у чытачоў беларуск[іх] газэтаў // Голас Беларуса (Вільня), 1924, № 17, 6 красавіка. С. 4.

Pakryŭdžany. Panskaja samawola // Kryniсa (Вільня), 1924, № 22, 22 жніўня. С. 4.

Z. N. Inšyja časy nastali // Kryniсa, 1924, № 25, 22 верасня. С. 3.

Сьлёзнавокі. Голас беднаты // Беларуская доля (Вільня), 1925, № 16, 28 лютага. С. 6.

N. Перавыбары солтысаў // Беларуская доля, 1925, № 24, 9 красавіка. С. 5.

Н. Жальба. Безнадзейнае палажэньне // Жыцьцё вёскі (Вільня), аднаднёўка, 1925, 15 ліпеня. С. 4.

N. Žalba. Narabiŭ šumu // Biełaruskaja krynica, 1925, № 1, 20 верасня. С. 6.

Н. Жальба. Рэлігійнае жыцьцё // Беларуская ніва (Вільня), 1926, № 7(20), 27 студзеня. С. 4.

Н. Ж. Вясковая хроніка // Беларуская ніва, 1926, № 7(20), 27 студзеня. С. 4.

Śloznawoki. Astatni kažuch na padatki // Biełaruskaja krynica, 1926, № 5, 7 лютага. С. 4.

Śloznawoki. Balučyja sprawy // Biełaruskaja krynica, 1926, № 10, 21 сакавіка. С. 5.

Śloznawoki. Ni ŭzad, ni ŭpierad // Biełaruskaja krynica, 1926, № 23, 18 ліпеня. С. 6.

Śloznawoki. Ciažkoje žyćcio sialan // Biełaruskaja krynica, 1929, 24 лістапада, № 33. С. 3.

Сьлёзнавокі. Сумна і стыдна // Беларуская крыніца, 1930, 20 сакавіка, № 12. С. 4.

Сьлёзнавокі. Крыху аб нашым жыцьці // Беларуская крыніца, 1930, 20 ліпеня, № 23. С. 4.

С[ьлёзнавокі]. За растрату солтыса адказываюць тыя, што выбіралі яго // Беларуская крыніца, 1930, 20 ліпеня, № 23. С. 4.

Сьлёзнавокі. Самаўрад ня можа быць самаволяй // Беларуская крыніца, 1931, 13 сакавіка, № 10. С. 3-4.

С[ьлёзнавокі]. Вясковая хроніка // Беларуская крыніца, 1931, 13 сакавіка, № 10. С. 4.

Сьлёзнавокі. Нядобрае суседзтва // Беларуская крыніца, 1931, 18 чэрвеня, № 21. С. 3.

Сьлёзнавокі. Цяжкая вясна // Беларуская крыніца, 1931, 18 чэрвеня, № 21. С. 3.

Śloznawoki. Sučasnaje žyćcio // Biełaruskaja krynica, 1932, 20 чэрвеня, № 25. С. 4.

Сьлёзнавокі. “Суседзкія” адносіны двара // Беларуская крыніца, 1932, 29 чэрвеня, № 26. С. 4.

Padkrapiŭnik. Jak nam žywiecca // Biełaruskaja krynica, 1932, 10 жніўня, № 29. С. 4.

Н. Жальба. Асьвета пашыраецца // Беларуская газэта (Вільня), 1933, 26 жніўня, № 6. С. 3.

В. Лебядзь. Возьмемся за працу! // Беларуская газэта, 1933, 18 кастрычніка, № 9. С. 3.

Сьлёзнавокі. Праваслаўныя духаўнікі пры полёнізатарстве // Шлях моладзі, 1934, № 2(62), люты. С. 23.

Сьлёзнавокі. Аб нашым жыцьці // Беларуская крыніца, 1935, 20 студзеня, № 3(596). С. 4.

Сьлёзавокі. Чым займаецца нашая моладзь // Беларуская крыніца, 1935, 10 жніўня, № 30 (623). С. 4.

[Аляксандр Бяленка]. Сьв. памяці Антон Беленко... // Беларуская крыніца, 1935, 1 снежня, № 45(638). С. 2.

Сьлёзнавокі. Аб забойстве Антона Беленко // Беларуская крыніца, 1935, 8 снежня, № 46(639). С. 4.

Янка Снапок. З вясковага жыцьця ў Наваградзкім павеце // Беларуская крыніца, 1936, 15 сакавіка, № 12(653). С. 4.

Сьлёзнавок. Яшчэ крыху аб Дзятлаўскай царкве // Беларуская крыніца, 1936, 22 сакавіка, № 13(654). С. 4.

С — кі. Нашыя валасныя справы // Беларуская крыніца, 1936, 3 верасня, № 37(678). С. 4.

Н. Жальба. Культурная праца замерла // Шлях моладзі, 1938, № 24(140), 25 лістапада. С. 8.

Сьлёзнавокі. Крамы на вёсцы і іхнія ўплывы // Шлях моладзі, 1939, № 1(143), 12 студзеня. С. 8.

Сьлёзнавокі. Аб выбарах у самаўрад // Шлях моладзі, 1939, № 3(145), 5 лютага. С. 8.

Сьлёзнавокі. Пашыраецца сэктанства // Шлях моладзі, 1939, № 4(146), 25 лютага. С. 12.

Н. Жальба. Культурная праца сьведамай бел[арускай] моладзі на вёсцы // Шлях моладзі, 1939, 25 жніўня, № 15(157). С. 3.

# ЗМЕСТ